**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Сьвятлана Алексіевіч:**

## “Мы не павінны маўчаць”

*“Мы дазволілі ўладзе рабіць такое з намі. Мы абралі, мы маўчым, мы цярпім усё гэта. А прычыны розныя: боязь, грошы, генетычная памяць. У нас быў шанец пачаць новае жыцьцё, выбраць ва ўладу іншых людзей, увайсьці ў еўрапейскае супольніцтва, што мы не зрабілі. Наадварот, мы апускаем заслону ад усяго сьвету”, – сказала вядомая беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч падчас “прамой лініі” з чытачамі “Комсомольской правды в Беларуси”. Як лічыць пісьменьніца, “калі грамадства будзе маўчаць, з ім будуць рабіць усё што заўгодна”. “Рабіце што-небудзь, нарэшце! Інačай невядома што будзе ня толькі з вамі, але і з вашымі дзецьмі і ўнукамі”, – зьвярнулася Сьвятлана Алексіевіч да сваіх суайчыньнікаў.*

За апошнія дзесяць гадоў на радзіме не было выдадзена аніводнай кнігі пісьменьніцы, чыё імя ва ўсім сьвеце – сымбаль Беларусі. Яе кнігі выйшлі ў 19 краінах сьвету, яна аўтар 21 дакументальнага фільму і 3 тэатральных п'ес. Некалькі гадоў назад Алексіевіч вымушана была зьехаць працаваць у Італію. Потым яе запрасілі ў Францыю. Калі пісьменьніца бывае на радзіме, графік яе сустрэч перапоўнены. Нядаўна Сьвятлана Алексіевіч прыняла ўдзел у “прамой лініі” з чытачамі “Комсомольской правды в Беларуси”. Прапануем вашай увазе вытрымкі з размовы.

- Вас непакоіць Наташа з Менску. Я знаёмлюся зараз з вашай творчасьцю, але не магу сказаць, што тэма вайны сёньня прыцягвае маладых. Я пакуль што не ўзялася за вашу кнігу пра вайну.

- А я не пішу пра вайну. Я пішу аб тым, як застацца чалавекам у любых абставінах. Гэтая праблема сёньня стаіць перад усімі намі. Як набыць з мінулых ведаў, з пакутаў іншых людзей – запас моцы. Гэта толькі здаецца. што гонар, сумленьне і мужнасць патрэбны толькі на вайне. Хіба сёньня – не тое ж самае?

- Дзень добры, Сьвятлана Аляксандраўна! Мяне завуць Людміла Леанідаўна. У мяне пытаньне ад многіх беларусаў. Я просты чалавек, жыву ў Жодзіна, працую на фабрыцы. Пазбаўлена шчытавіднай залозы. Такіх, як я, многа. Кожны год анкалагічны дыспансар у Менску пасылаў нас, ахвяраў Чарнобылю, у Аксакаўшчыну. Мы там былі два тыдні, ад'язджалі крыху больш бадзёрымі. Маглі там адпачыць, прайсці медыцынскі дагляд. Сёньня нас гэтага пазбавілі, у Аксакаўшчыну адпраўляюць толькі тых, каго толькі што прааперыравалі. Чаму так здарылася, чаму і гэты шанец у нас забралі?

- Галоўная адказнасьць кладзецца, вядома, на цяперашнюю ўладу, але кожны з нас сваю цаглінку ў падмурак гэтай улады паклаў. Мы дазволілі ўладзе рабіць такое з намі. Мы абралі, мы маўчым, мы церпім усё гэта. А прычыны розныя: боязь, грошы, генетычная памяць. У нас быў шанец пачаць новае жыцьцё, выбраць ва ўладу іншых людзей, увайсьці ў еўрапейскае супольніцтва, што мы не зрабілі. Наадварот, мы апускаем заслону ад усяго сьвету. Я напісала кнігу “Чарнобыльская малітва”, яе выдалі ў 19 краінах сьвету, але ў Беларусі яна не выдадзена – толькі таму, што я нагадваю ў ёй: улада не гаворыць людзям праўду пра дозы і наступствы трагедыі, іх ня лечуць, хлусяць іх дзецям. Улада можа казаць, што яна бедная. Але я асабіста нязгодная з гэтым: зрабіце на адзін лядовы палац меней, але пакіньце Аксакаўшчыну. Але ж мы будуем палацы, нам няма справы да хворых людзей.

- Шчырая праўда. Але як жа нам быць?

- Як быць? Трэба рабіць тое, ўто робяць людзі ва ўсіх дзяржавах: аб'ядноўвацца дзеля сваёй мэты. На Захадзе ў мяне пытаюцца: маці, дзеці, якія хварэюць, аб'ядналіся? Жанчыны, якія хварэюць, аб'ядналіся? Маці дзяцей, якія памерлі, аб'ядналіся? На Францыю наляцела толькі хмарка радыяцыі, і праз некалькі гадоў захварэла 15 чалавек, – тут жа з'явілася 15 арганізацый, якія судзяцца з гэтай уладай. Спынілі іх бясплатнае лячэньне – сотні людзей выйшлі на вуліцы. Хто ў нас калі выйшаў? Кожны памірае паасобку ў сваім доме. Але паасобку мы нічога не зробім. Трэба развітацца з думкай, што нехта за нас усё памяняе. Трэба ствараць маленькія ячэйкі супраціўленьня. Я не заклікаю рабіць рэвалюцыю, але змагацца за сваё жыцьцё, бараніць сябе, – гэтага ніхто за вас не зробіць. Ня прыйдзе цар альбо добры прэзідэнт і ня зробіць. Прэзідэнт будзе такі, за якога мы прагаласуем на выбарах і якім дазволім яму стаць. Нават цяперашні прэзідэнт быў бы іншым, калі б мы не дазвалялі яму быць такім, якім ён ёсьць. Калі, напрыклад, у Францыі ў магазін завозяць заміж дзесяці сыроў восем, там адразу ж – дэманстрацыя. Гэта – парушэньне іх правоў. Калі крыху панізілі пэнсію – імгненна дэманстрацыя. Там народ не дазваляе ўладзе так з ім абыходзіцца. І нам трэба спыніць дазваляць уладзе гэта з намі рабіць.

- Значыцца, у гэтым вы бачыце рашэньне гэтай праблемы?

- Так, калі грамадства будзе маўчаць, з ім будуць рабіць усё што заўгодна. І гэта ня вырашыць тое, што нейкі адзін пісьменьнік заступіўся. Сёння прымусіць уладу нешта зрабіць можа толькі народ, вялікае мноства людзей.

- А можа, вы крыху ўзніміце і гэту тэму?

- Я крыху ўзніму, але гэта не значыць, што вы павінны сядзець дома і плакацца. Рабіце што-небудзь, нарэшце! Інačай вы асуджаеце на гібель ня толькі сябе, але і дзяцей і ўнукаў.

- Скажыце, калі ласка, а сёньняшняя цэнзура не прыцісьняе вас?

- Мяне проста не друкуюць. Не друкуюць ужо дзевяць гадоў, столькі, колькі ва ўладзе Лукашэнка. У выдавецтве “Мастацкая літаратура” ляжыць ужо трэці мой рукапіс, зьмянілася там ужо тры дырэктары, і ўвесь час яны ківаюць угору. А там, угары, толькі адзін чалавек. Я толькі дзіўлюся, як прэзідэнт пасьпявае ўсё вырашаць: які тралейбус і дзе павінен пайсьці, якія лекі трэба людзям даваць, якія кнігі друкаваць. Мультыспецыяліст ён у нас нейкі.

- Дзень добры, Сьцяпан Сьцяпанавіч з Пінску турбуе. У мяне такое пытаньне. Як вядома, у кожнага стагодзьдзя ёсьць сваё сярэднявечча. І вось што цікава: калі закончыцца нашае сярэднявечча, з чаго нам варта было б пачаць і чаго асьцерагацца?

- Асьцерагацца самага страшэннага вопыту: гэта калі вялізная колькасьць людзей, часам цэлая краіна трапляе ў залежнасьць ад аднаго чалавека. Таму, якая не была б падстава, чалавеку ва ўладзе, нават калі ён можа быць такім інтэлектуалам, як Вацлаў Гавел, нельга даваць поўнай улады. А тым болей той улады, якая ў нас. Гэтыя людзі павінны заўсёды ведаць, што мы іх проста наймаем, што яны не цары, а проста людзі, якія выпадкова трапілі ў гэтую абойму, і на якісьці час, на чатыры, максімум на восем гадоў, калі яны не перапісваюць, вядома, як ім выгадней, Канстытуцыю. Павінны ведаць, што яны проста маюць крыху болей правоў, чымсьці астатнія. Нам трэба зрабіць так, каб улада была празрыстай, інакш зноў вернецца сярэднявечча.

Тое, як мы цяпер жывем, – і гэтая дэпрэсія, і гэтае бяспраўе, і гэтае поўнае уніжэньне, – гэта зусім не прыкметы новага тысячагодзьдзя. Мы ж ад гэтага ўніжэньня пазбаўляемся дзесяткі гадоў. Мы не пазбавіліся ад савецкага прыніжэньня, як трапілі ў новую няволю. І ўжо крытычная маса накапілася, пасьля яе пачынаецца самазьнішчэньне, самаразбурэньне. Многіх ўжо ахапіла апатыя, асабліва ў маленькіх гарадах. І ўсе як бы ўжо ня чуюць, што нас забівае ўжо ня ўлада, а сам час. Ён забівае нашыя жаданьні, думкі. Трэба разварушыцца, нешта рабіць, іначай нас проста ня будзе.

************************************************

## Удар па Скарынінскім цэнтры - **гэта ўдар па беларускай** нацыянальнай культуры!

Нядаўна рашэннем улад ліквідаваны Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны. Той самы Цэнтр, што існаваў дзеля працягу справы створанага ў дваццатыя гады мінулага веку Інбелкульта (так тады называўся Інстытут Беларускай культуры). Інстытут, з якога, як са своеасаблівага сімвала, пачалася тагачасная хваля беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння і які паклаў сабою пачатак Беларускай Акадэміі навук і Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Сімвалічнай была не толькі назва сучаснага Скарынінскага цэнтра - з імем вялікага беларускага асветніка Францішка Скарыны. Было дорага і тое, што месціўся ён на той жа вуліцы і ў тым жа самым будынку і пакоях, як і колішні, ужо легендарны Інбелкульт. Былі старанна адноўленыя нават унутранае абсталяванне і мэбля ў зале, дзе засядалі некалі знакамітыя беларускія вучоныя-адраджэнцы. Тыя самыя, што былі пастраляны Саветамі ў канцы жахлівых дваццатых гадоў (менавіта тады, раней на дзесяць год, на Беларусі "пачаўся" крывавы 37-ы), цені якіх, здавалася, і зараз маўкліва прысутнічалі на кожным пасяджэнні вучонай рады.

І вось гэты Цэнтр нібыта "з мэтай рэканструкцыі" далучаецца да Беларускага педагагічнага універсітэта. Падобна, гэта ўсяго толькі няўклюдная маскіроўка, пад якою хаваецца намер поўнай ліквідацыі нацыянальнай навукова-асветнай установы як юрыдычнай асобы. Ліквідацыя не толькі па форме, але і па вельмі істотным яго змесце і значэнні.

Але, калі падумаць, нічога тут дзіўнага няма: з савецкіх часоў улада, баючыся беларускага нацыянальнага адраджэння і беларускай дзяржаўнай незалежнасці, ніколі не спынялася перад ліквідацыяй беларушчыны ў любой форме. І таму гэта, на жаль, не нейкі там выключны, няўзважаны, адзінкавы выпадак, а чарговая ступень паслядоўнай лініі на знішчэнне беларускай нацыянальнай культуры і свядомасці народа.

Адным з першых крокаў сучаснай улады было масавае закрыццё беларускамоўных сярэдніх школ у гарадах і амаль што поўнае выгнанне беларускай мовы з нашых вышэйшых навучальных устаноў, не кажучы ўжо аб пастаянных, публічна выказаных зняважлівых адносінах да яе з боку высокага дзяржаўнага кіраўніцтва. Затым - закрыццё адзінага беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Цяпер - ліквідацыя Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны, што само па сабе ўжо набывае не толькі шкодны, а і відавочна дэманстратыўны характар: маўляў, мы сёння ля дзяржаўнага руля - і робім, што хочам. А ці ёсць на гэта такое права?

Такое робіцца цалкам свядома, з адзінай выразнай мэтай - далучыць да Расійскай Федэрацыі нашу незалежную пакуль што Рэспубліку Беларусь. Да той самай Расіі, народ якой даведзены зараз да жабрацкага стану. Сённяшняе кіраўніцтва ўсходняй суседкі ўяўляе сабе такое далучэнне толькі як "аншлюс" - паглынанне Беларусі Расійскай імперыяй, далучэнне ў якасці правінцыяльнай губерніі кшталту колішняга Паўночна-Заходняга краю. Ні аб якой беларускай культуры, а тым болей аб беларускім дзяржаўным суверэнітэце ніякай размовы тут няма і ў прынцыпе не мяркуецца. Яе і быць не можа.

Нацыянальная культура і дзяржаўны суверэнітэт, як вядома, звязаны паміж сабой непарыўнай сувяззю і існаваць адно без другога ў прынцыпе не могуць. Скарынінскі цэнтр, яшчэ задоўга да вядомай урадавай ініцыятывы аб стварэнні дзяржаўнай ідэалогіі, пачаў распрацоўку праблемы беларускіх грамадскіх ідэалаў, без якіх, вядома, не магчымыя ні нацыянальная культура, ні народная свядомасць, ні дзяржаўны суверэнітэт. Тыя распрацоўкі паступова ператвараліся ў вядучую тэму праблематыкі беларускага культурнага адраджэння.

Таму за ліквідацыяй Цэнтра крыецца дрэнна прыхаваная спроба знішчэння нацыянальнай культуры. І невыпадкова шэраг прадстаўнікоў беларускай грамадскасці (і не толькі навукоўцы) выказваюць сваю рашучую нязгоду з такімі дзеяннямі ўлад.

Веранiка ПУШЧЫК. /Н. Воля./

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Пратэст супраць ліквідацыі Цэнтра ім. Ф. Скарыны

Усеагульны Сход Польскага Беларусазнаўчага Таварыства прыняў заяву, у якой выяўляе глыбокае незадавальненне ў сувязі з загадам уладаў Рэспублікі Беларусь ліквідаваць Беларускі Навукова-Асьветніцкі Цэнтар імя Ф.Скарыны ў Менску – вельмі заслужаную ўстанову ў галіне разьвіцьця навукі, культуры й мовы. Цэнтар імя Ф.Скарыны ўнёс агромністы ўклад у справу папулярызацыі Беларусі ў шырокім сьвеце.

Польскае Беларусазнаўчае Таварыства лічыць, што ліквідацыя Цэнтра выкліча велі адмоўныя вынікі гэтак у самой Беларусі, як і па-за яе межамі. Могуць яны праявіцца ў наступных дзеяньнях:

- у паглыбленьні ізаляцыі Рэспублікі Беларусь на міжнароднай арэне,

- у падтрымцы тых сіл на сьвеце, якія ўважаюць, што беларусы пазбаўленыя нацыянальнай годнасьці й гордасьці і праяўляюць схільнасьці да зьняволеньня й сэрвілізму ў адносінах да чужынцаў,

- у паглыбленьні і ўмацаваньні перакананьня пра бязмэтнасьць навуковага, культурнага й асьветніцкага супрацоўніцтва зь Беларусяй,

- у глыбока крытычных адносінах да ўладаў Рэспублікі Беларусь з боку ўсіх тых урадаў краін на цэлым сьвеце, якія ўважаюць, што нацыянальныя каштоўнасьці маюць фундамэнтальнае значэньне для існаваньня кожнай сувэрэннай дэмакратычнай дзяржавы.

У сувязі з гэтым Польскае Беларусазнаўчае Таварыства спадзяецца, што ўлады Рэспублікі Беларусь адыдуць ад прынятай пастановы ў справе ліквідацыі Навукова-Асьветніцкага Цэнтра імя Ф.Скарыны хаця б з тае прычыны, што яго існаваньне ёсьць доказам беларускай годнасьці й гордасьці, а яго ліквідацыя будзе ўспрынятая як праява беларускага нігілізму.

*********************************************

# А трубачы трубяць: "Альтэрнатывы - няма!"

Ніл **ГІЛЕВІЧ**

/Нешта новае і цікавае/

Трубяць з тэлеэкрана, па радыё, са старонак газет. Трубяць, што ў нас у Беларусі няма людзей, якія могуць быць альтэрнатывай (канкурэнтамі) сённяшняму пану начальніку дзяржавы, і таму разлік і намеры апазіцыі асуджаны на правал. Глупства трубяць, прашу прабачэння. Бздура - і толькі. У нас ёсць дзесяткі людзей маштабнага дзяржаўнага мыслення, разумных, дасведчаных, талковых, сумленных, надзеленых пачуццём чалавечай і нацыянальнай годнасці, - людзей, якія маюць поўнае маральнае права прэтэндаваць на самую высокую ў дзяржаве пасаду. Не стану пералічваць імёны, якія ў нашай беларускай грамадзе ўжо даўно "на слыху". Пішу гэтыя радкі для таго, каб заклікаць грамадзян краіны звярнуць самую пільную ўвагу на яшчэ аднаго выдатнага чалавека і грамадзяніна Беларусі - на генерала Валерыя Дзмітрыевіча Фралова.

Яго імя ў нашым грамадска-палітычным жыцці пачало гучаць параўнаўча нядаўна, мабыць, гады тры назад, і, наколькі магу меркаваць, было ўспрынята адзінаверцамі, калі хочаце, - аднапалчанамі, з несумнеўнай сур'ёзнасцю і зацікаўленасцю. Прыйшла пара і ўсяму грамадству гэтак жа сур'ёзна і зацікаўлена прыгледзецца і прыслухацца да генерала Фралова. Мяне пераканала ў гэтым яго вялікае інтэрв'ю ў газеце "Народная воля" за 11 сакавіка гэтага года - пад вельмі выразным і, я сказаў бы, бліскучым загалоўкам: "Я не баран, живущий для того, чтобы пощипывать травку". Выказанае ў гэтым інтэрв'ю В.Дз.Фраловым дае падставы ўпісаць яго імя ў лік самых верагодных прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка дзяржавы ў блізкай будучыні. Што мяне схіляе так думаць? А тое, што ён валодае ўсімі пералічанымі вышэй якасцямі і некаторымі (надзвычай каштоўнымі) звыш таго.

Так, гэты чалавек валодае розумам сапраўды дзяржаўнага мужа, у яго - цвярозае, яснае бачанне рэальнага стану рэчаў і зусім пэўнае (у інтарэсах незалежнай Беларусі) разуменне задач унутранай і замежнай палітыкі, у прыватнасці - наконт ключавога пытання: узаемаадносіны з Расіяй. Ён верыць у здаровыя, рацыянальныя сілы грамадства, у прафесіяналаў і майстроў і бачыць іх. У яго - разумная пазіцыя ў дачыненні да беларускай моладзі, да яе руху і арганізацый. Моладзь - архіважны фактар, ігнараваць які — значыць асудзіць на паразу ўвесь рух за незалежную дэмакратычную Беларусь. Генерал Фралоў гэта разумее. Як і належыць вайскоўцу-прафесіяналу, В.Дз.Фралоў - чалавек валявы, надзелены дастаткова харызматычным характарам (а што быў бы за генерал без гэтага?). Надзелены і той мудрасцю, якая найвышэй цанілася і цэніцца ў народзе: трэба шкадаваць і шанаваць салдата і не ваяваць з цывільным насельніцтвам. (З Літвы ў 1991 годзе ён вывеў сваю дывізію без адзінага стрэлу.) І пачуццё годнасці і гонару ў яго - не толькі афіцэрскае. "Я не баран, які жыве для таго, каб паскубваць траўку". Вось іменна! Не для таго прыходзіць чалавек на свет, каб пасвіцца ў статку.

Асабіста мне імпануе яго веданне сацыяльнай псіхалогіі і яго па-народнаму здаровы густ. Цытую генерала: "Назву прыдумалі для аб'яднання такую - каб ніхто не зразумеў. "Народная кааліцыя". У мяне простыя чалавечы слых ёсць. Гучыць - не гучыць. Зразумела - незразумела". Прызнацца, я не ў захапленні таксама - ні ад "кааліцыі", ні ад "пяці плюс". У нашай беларускай сітуацыі - для нашага народа - тэрміналогія павінна быць іншая. Рэч у тым, што назва - момант далёка не фармальны. Успамінаю, як, будучы членам аргкамітэта БНФ, я даказваў, што слова "фронт" устаўляць у назву руху не трэба, беларускім народам яно не будзе прынята, бо фронт - гэта вайна і кроў; на жаль, і З.Пазьняк, і В.Быкаў хацелі, каб гучала ваяўніча, і мае довады катэгарычна адрынулі. Іменна - на жаль. За пятнаццаць прамінулых гадоў, здаецца, пераканаліся, што гэта была вялікая памылка.

Тое, што мы пачулі з выказванняў В.Дз.Фралова ў "Народнай волі", - гэта, канешне ж, заяўка на лідэрства, і заяўка вельмі сур'ёзная. Гэта па-сутнасці - Праграма, хоць і не зведзеная ў адно цэлае. Разам з тым - гэта палітычны, сацыяльны і маральна-псіхалагічны партрэт чалавека, які практыкаваннямі ў палітычным красамоўстве займацца не намераны - зусім не той характар. Адчуваю: гэта чалавек, які не стане пладзіць хлусню сам і не будзе яе цярпець у сваім атачэнні. Не сумняваюся, што і каманда ў яго складзецца адпаведна сур'ёзная - з людзей сумленных, прынцыповых, дзелавых, з таварышаў-паплечнікаў, якія таксама не церпяць хлусню, крывадушша, танны папулізм і цынічную сацыяльную дэмагогію.

Грамадзянам, якім не імпануе, што В.Дз.Фралоў - генерал, нагадаю: лепшымі ў свеце прэзідэнтамі пасля Другой сусветнай вайны былі генерал Дэ Голь і генерал Эйзенхаўэр. Ну, а чаму Беларусі і не ўзяць прыклад з Францыі і ЗША? Наш генерал выклікае не толькі сімпатыі, але і давер. Як кажуць у народзе: "З такім і за такім можна ісці смела".

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Стратэгія перамогі

Апошнім часам у друку актыўна абмяркоўваецца стратэгія і тактыка выбарчай кампаніі 2004 года. Праявіліся тры падыходы. Народная кааліцыя "Пяцёрка плюс" прапануе змагацца ў кожнай акрузе за адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл. Другія грамадска-палітычныя сілы бачаць больш шанцаў, калі будзе 5-7 кандыдатаў. А Зянон Пазьняк наогул выступае за байкот парламенцкіх выбараў.

У мяне іншы погляд на гэтую выбарчую кампанію.

Галоўны сегмент - трэці

Ключавая праблема - адэкватна ацаніць сітуацыю ў краіне. Сёння, згодна з сацыялагічнымі апытаннямі, беларускае грамадства па палітычнай арыентацыі дзеліцца на тры сегменты: 25% электарату падтрымлівае ўладу; 25% - паслядоўныя прыхільнікі апазіцыі; астатнія 50% характарызуюць расчараванне ўладай і недавер апазіцыі. Менавіта ад волі людзей, якія ўваходзяць у трэці сегмент, залежаць вынікі любых выбараў. Тут трэба шукаць стратэгію перамогі.

Новая грамадская сіла

Незадаволенасць уладай нарастае. На кухні, у магазінах, на вуліцы, у транспарце людзі ўсё часцей і часцей абураюцца дзеючым рэжымам. Разам з тым назіраецца такі парадокс. Расчараванне ўладай не павялічыла прыхільнікаў апазіцыі.

Як гэта растлумачыць? Адказваю: з моманту ўтварэння першых апазіцыйных арганізацый і па сённяшні дзень слугі ўлады паліваюць іх брудам, скажаюць іх праграмы, фарміруюць імідж ворагаў народа. Інфармацыйная блакада не дазваляе абвергнуць гэты паклёп. Гульня, як кажуць, ідзе ў адны вароты.

У свядомасці электарату сегмента №3 замацаваўся стойкі стэрэатып, што апазіцыя - сіла небяспечная, што ёй нельга даверыць уладу. Такая палітычная рэальнасць. Яна і дыктуе нам формы дзейнасці. У асяроддзі сегмента №3 неабходна ўтварыць новую грамадскую сілу. Такой сілай можа стаць народны рух "За перамены!".

Патрэбна альтэрнатыва

Мы добра ведаем людзей сегмента №3, іх асаблівасці. Большасць іх не разумеюць, для чаго патрэбны грамадскія арганізацыі, палітычныя партыі і нават парламент. У савецкія часы дэпутат парламента выконваў функцыі выбівалы розных матэрыяльных фондаў для свайго раёна, і гэта падвышала яго статус. Цяпер жа, калі Лукашэнка зрабіў дэпутатаў кішэннымі і безгалосымі, цікавасць выбаршчыкаў да іх прапала. Выбары для многіх людзей ператварыліся ў дробную павіннасць. Пайшоў у краму, купіў бохан хлеба, па дарозе заглянуў на выбарчы ўчастак і прагаласаваў. За каго? Якая розніца!

Гэтыя людзі звыкліся з думкай, што ўсе праблемы народа вырашае кіраўнік дзяржавы. Іх мары і пажаданні зводзяцца да аднаго: нам бы добрага цара! У 1994 годзе ім падалося, што такім царом будзе Аляксандр Лукашэнка. Яго абралі прэзідэнтам і нават далі царскія паўнамоцтвы.

З цягам часу адносіны да цара сталі мяняцца. У многіх ужо наступіла глыбокае расчараванне: цар не зрабіў народ шчаслівым.

І ўсё ж вера ў добрага цара не знікла. Размовы пра тое, што трэба гуртавацца і разам змагацца за перамены, за лепшую долю гэтых людзей не грэюць. Іх цікавіць толькі адно: хто заменіць Лукашэнку? У канцы кожнай гаворкі гучыць пытанне: "У вас ёсць альтэрнатыва прэзідэнту?"

Гэтым людзям трэба паказаць чалавека, які цвёрда і ўпэўнена заявіць ім: я бяру на сябе адказнасць за ваш лёс, за ваш дабрабыт, за перамены да лепшага.

Наша альтэрнатыва

Сітуацыя прымушае ісці на парламенцкія выбары, вызначыўшы прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта. За перыяд палітычнай дзейнасці мне давялося пазнаёміцца і пасябраваць з многімі выбітнымі дзеячамі нашай Бацькаўшчыны. Магу назваць дзесяткі імён, якія па сваім інтэлекце і прафесійнай падрыхтоўцы здольны займаць пасаду прэзідэнта.

У нашых умовах перамагчы зможа толькі той прэтэндэнт, які валодае пэўнымі здольнасцямі і мае некалькі характэрных асаблівасцяў. Менавіта гэтыя асаблівасці робяць яго асобу прывабнай для большасці народа. Назаву іх.

Першая. Яго імя не будуць звязваць ні з цяперашняй уладай, ні з радыкальнай апазіцыяй. Электарат сегмента №3 будзе лічыць яго сваім чалавекам.

Другая. Яго ведае і яму даверае значная частка цяперашняй наменклатуры. Яна яго не баіцца і пры пэўных умовах можа актыўна яго падтрымаць.

Трэцяя. Яго імя не напалохае і апазіцыю. Большасць апазіцыі ведае дакладна, што курс Лукашэнкі ён працягваць не будзе.

Сярод многіх такога прэтэндэнта шукаць і перабіраць не давядзецца. Так склалася, што гэтымі асаблівасцямі, на мой погляд, валодае адзін чалавек. Завуць яго Аляксандр Ільіч Ярашук.

Стратэгія перамогі

Сутнасць стратэгіі перамогі заключаецца не ў тым, каб прайсці ў парламент. Па-першае, гэты парламент нічога не вырашае. Па-другое, кожны з нас ведае, у якой краіне жывем і як праходзяць "выбары". Адміністратыўны рэсурс улад такі, што яны здольны "заваліць" любога яшчэ на этапе рэгістрацыі. Прывяду адзін прыклад.

Падчас парламенцкай кампаніі 1999 года ў Гродне рэгістраваўся кандыдатам прадстаўнік Беларускай патрыятычнай партыі. Яму камісія адмовіла ў рэгістрацыі з той прычыны, што ён у дэкларацыі не адзначыў, што мае аўтамабіль. На самай справе аўтамабіля ў яго не было. Але старшыня камісіі паказаў даведку і прапанаваў яму ісці разбірацца ў міліцыю.

Пасля доўгага высвятлення гэтага пытання ў міліцыі яму нарэшце сказалі: "Прабачце. Выйшла памылка". Калі ж ён, задыхаўшыся, прыбег у камісію, то там рэгістрацыя ўжо скончылася. Цягнік пайшоў.

Трэба адзначыць, што так "пракінулі" прадстаўніка партыі, якая, вобразна кажучы, пастаянна драла горла за Лукашэнку. Гэты чалавек яшчэ доўга пісаў скаргі ў розныя інстанцыі і спадзяваўся, што прэзідэнт пакарае вінаватых. Не дачакаўся.

З гэтай гісторыі можна зрабіць важкую выснову. Улада не дзеліць кандыдатаў на апазіцыйных, незалежных, памяркоўных і г.д. У яе адзін падыход: свой і чужыя. А чужых трэба "мачыць".

Стратэгічныя задачы неабходна фармуляваць на рэальнай глебе. Усе намаганні трэба накіраваць на падрыхтоўку прэзідэнцкіх выбараў.

Ёсць неабходнасць утварыць аргкамітэт для разгортвання народнага руху "За перамены!" і сфарміраваць групы падтрымкі аргкамітэта па ўсёй Беларусі.

Пасля, у прыдатны момант, аргкамітэт запросіць сваіх прадстаўнікоў з рэгіёнаў на ўсенароднае веча, дзе і будзе аб'яўлена аб утварэнні народнага руху "За перамены!" і яго мэтах. Відавочна, што лідэр народнага руху стане прэтэндэнтам №1 на вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты.

Парламенцкая кампанія дае шырокія магчымасці для згуртавання беларускага грамадства вакол такой альтэрнатывы. Падчас парламенцкіх выбараў будуць вырашацца асноўныя задачы:

разгортванне народнага руху "За перамены!";

раскрутка прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта і яго праграмы;

фарміраванне каманды будучага кандыдата ў прэзідэнты.

Уся гэтая дзейнасць падрыхтуе глебу, на якой вырасце ўраджай перамогі 2006 года.

Не дапусцім "нямых" у парламент

Вызначыўшы стратэгію перамогі, усе мы можам паіншаму паглядзець на парламенцкую кампанію. Зрабіць пэўныя карэктывы і нават пайсці на нейкія эксперыменты.

На мой погляд, у кожнай выбарчай акрузе трэба вылучыць 1-2 кандыдатаў - ад народнай кааліцыі "Пяцёрка плюс" і 1-2 - ад іншых грамадскіх сіл. Усе яны маюць шанц на перамогу ў тым выпадку, калі агульнымі намаганнямі выб'юць кандыдата ад улады. Логіка выбарчай кампаніі дыктуе тактыку дзеяння: кожны кандыдат агітуе і за сябе, і супраць стаўленіка ўлады. Адначасова дэмакратычныя кандыдаты аб'яўляюць марафорый на спрэчкі паміж сабою.

Дэпутаты, якіх падбірае і падтрымлівае ўлада, маюць адну асаблівасць: яны безгалосыя. У тым сэнсе, што перад грозным поглядам Лукашэнкі яны нямеюць.

Адсюль напрошваюцца лозунгі выбарчай кампаніі: "Не дапусцім "нямых" у парламент!", "Кішэнным не месца ў парламенце!", "Далоў безгалосых!".

Падчас выбарчай кампаніі ў парламент прапануецца такі эксперымент. Трэба ва ўсіх выбарчых акругах падабраць па адным кандыдаце, які будзе праводзіць

сустрэчы з выбаршчыкамі інакш, чым другія, пасвойму. Дапусцім, ён скажа так:

"Шаноўныя выбаршчыкі! Беларускі парламент фактычна бяспраўны. Самыя годныя людзі ў парламенце нічога зрабіць не могуць. Новы парламент не прынясе перамен у наша жыццё. Сапраўдныя перамены прыйдуць пасля абрання новага прэзідэнта. Я ведаю прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта, працую ў яго камандзе і раскажу вам пра яго палітычныя і эканамічныя погляды".

Найбольшага эфекту ад эксперыменту можна чакаць, калі дэмакратычныя сілы дамовяцца вылучыць адзінага прэтэндэнта да пачатку парламенцкай кампаніі. У гэтым выпадку інфармацыя пра альтэрнатыўнага кандыдата будзе распаўсюджана па ўсёй Беларусі. Разам з тым падвышаюцца шанцы кандыдатаў у парламент, якія ўдзельнічаюць у эксперыменце. Цікаўнасць да іх можа перарасці ў падтрымку.

Вядома ж, прапановы, якія я выклаў у гэтым артыкуле, некаму пакажуцца дыскусійнымі. Што ж, давайце павядзем гаворку шырока, адкрыта...

Яўген ЛУГІН. /Н.В./

# Народ нельга перамагчы,

перамагчы можна "ветвь русского народа"

Я поўнасцю згодны з думкамі спадара М.Канаховіча, якія ён выклаў у нататцы "Утопія спадара Марыніча, ці Хітрыкі маскоўскага Крамля". 26 ліпеня адбылася сустрэча з дэпутатамі групы "Рэспубліка", у якой прымаў удзел і М.Марыніч. Пры гэтым мяне здзівілі словы "рэспубліканца" У.Парфяновіча, што Беларусь павінна аддаць частку суверэнітэту Расіі дзеля інтэграцыі з ёй, што, маўляў, усе краіны, робяць так...

Канешне, са мной могуць не пагадзіцца ні дэпутаты гэтай групы, ні асабіста М.Марыніч. Але я абсалютна ўпэўнены, што беларускі народ, амаль цалкам перайшоўшы на рускую мову, ужо аддаў вялізную частку свайго суверэнітэту Расіі. Па моўнай прыкмеце Беларусь ужо сёння - яе калонія. Хіба раяцца палякі з немцамі адносна таго, якога прэзідэнта ім выбіраць? А немцы - з французамі? Чаму ж тады беларусы, хай сабе і "прагрэсіўныя", ездзяць кансультавацца з Крамлём? Цяпер яму, падобна, спатрэбіўся больш "памяркоўны" беларускі кіраўнік!

...Сітуацыя беларускага народа архіскладаная менавіта таму, што пры амаль поўнай зрусіфікаванасці ён не адчувае сваёй трагедыі. З пераходам на чужую мову ў многіх змянілася ўся сістэма каардынат і каштоўнасцей: сваё стала чужым, чужое - сваім, сваё - горшым, чужое - лепшым. Беларусы (у тым ліку і прэзідэнт) - ахвяры русіфікацыі - не адчуваюць небяспекі з боку Расіі таму, што размаўляюць з ёю на адной мове. І ў прамым, і ў шырокім сэнсе слова. Толькі зрусіфікаваныя "дэмакраты" ў Беларусі могуць змагацца за ўладу... бязмоўнага народа.

Зрусіфікаваны беларускі начальнік - чужынец усяму беларускаму. Вось і Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа ліквідуецца рукамі "сваіх" фактычна на карысць Масквы, якая імкнецца заключыць у свае абдымкі не беларускі народ (народ ніколі не пойдзе ў такія "абдымкі"), а ўсяго толькі - "ветвь русского народа". Чым менш застаецца ў Беларусі беларускага, тым лепш для Масквы.

Палітыка русіфікацыі - гэта палітыка кіравання нашай краінай праз мову, бо мова - самая моцная зброя. Далёка не ўсе з нашых суграмадзян усведамляюць: у каго мова - у таго і ўлада. Пакуль будзе дамінаваць у Беларусі руская мова, намі будзе кіраваць Крэмль. У святле гэтага дзіўнымі выглядаюць словы яшчэ аднаго "рэспубліканца" В.Фралова аб "бервяне", узяўшыся за якое, беларускі народ змог бы "пратараніць сцяну" (уладу).

Усе фактычныя калоніі СССР - Балгарыя, Венгрыя, Чэхія, Літва, Эстонія, Латвія і г.д. - здолелі стаць суверэннымі краінамі дзякуючы перш за ўсё таму, што захавалі ці аднавілі мову свайго народа. Як негры ў Амерыцы змагаліся за свабоду сродкамі джаза (гэта была іх зброя, і магутная!), так для ўсіх каланіяльных народаў зброяй была іх родная мова, а не "бервяно". Пакуль зрусіфікаваныя беларусы (апазіцыя, партыі, журналісты, бізнесмены, дэпутаты), якія змагаюцца за фармальную дэмакратыю і абстрактную грамадзянскую супольнасць без уліку канкрэтнага беларускага народа з яго канкрэтнымі праблемамі, не ўсвядомяць, што наша зброя - не "бервяно" і не "каўбаса", а мова, да той пары яны будуць марна шукаць нацыянальную ідэю. На чужой мове нацыянальная ідэя не фармулюецца і незалежнасць краіны не абараняецца.

Формула жыццядзейнасці чалавека: думка - слова (мова) - справа плюс энергія ("каўбаса"). Якая мова - такая думка і справа. Пэўны час таму беларусы з двух жыццёва неабходных кампанентаў (мовы і "каўбасы") выбралі "танную каўбасу". Танную таму, што якасная (высокія тэхналогіі) магчымы ні ў якім разе не на трасянцы, а на якаснай думцы-мове. Есці ж "танную каўбасу" не думаючы бязмоўна, могуць і жывёліны. Кансалідацыя народа магчыма разам і на "каўбасе", і на мове. Але сёння, пакуль з "каўбасой" яшчэ так-сяк, першая справа, якую павінен зрабіць беларускі народ пры дапамозе інтэлігенцыі, каб не знікла ўсё канчаткова і ён сам, - дабіцца адмены дзяржаўнасці рускай мовы на тэрыторыі Беларусі. Потым зрабіць гэта будзе немагчыма. Адмена гэтага закона і будзе канкрэтным змаганнем за незалежнасць. За незалежнасць ад Расіі.

Кажуць, дома сцены дапамагаюць. Родная мова і ёсць гэтыя сцены. "Сцяна" ж, якую хоча прабіць В.Фралоў, - расійская, яна падзяліла беларускі народ па моўнай прыкмеце, яе не праб'еш "бервяном". Трэба зрабіць інакш: даць шырокую дарогу на Беларусі беларускай мове, тады і "прабіваць" нічога не трэба! А потым будзем рабіць далейшыя крокі.

...У прэсе абмяркоўваюцца ўжо варыянты трэцяга тэрміну прэзідэнцтва А.Лукашэнкі. Разумеючы, што Беларусь - арэна змагання за сферы ўплыву на яе з боку як расійскіх, так і ўнутраных сіл, прэзідэнт вымушаны будзе змагацца на два франты. Калі пераможуць прарасійскія сілы (руская мова) - прэзідэнтам будзе расійская крэатура. Калі беларускія - прэзідэнтам стане той, хто ведае, што такое нацыянальная ідэя і што яна немагчыма без вяртання бязмоўным сёння беларусам украдзенай у іх роднай мовы...

Дарэмна расійскія эмісары спадзяюцца на слабасць Аляксандра Рыгоравіча. У яго яшчэ шмат запасных козыраў у кішэні. Ён пачаў ужо шматхадовую камбінацыю, а зрусіфікаваныя палітыкі шукаюць гэтыя хады на іншым полі. А.Лукашэнка можа абысціся без новай Канстытуцыі ці перакройвання існуючай, без рэферэндумаў ці Усебеларускага сходу, без камбінацыі з адстаўкай і хуткім вяртаннем, без Палаты прадстаўнікоў ці Канстытуцыйнага суда...

Мала хто заўважыў, што з ліпеня FM-станцыі пачалі даваць у эфір 50% беларускай музыкі (вось зброя беларускіх сіл!). Музыканты і (галоўнае) беларуская моладзь успрынялі гэтае рашэнне з патрыятычным уздымам. Гэта толькі пачатак. За той час, пакуль непаваротлівая Расія правядзе свае парламенцкія і прэзідэнцкія выбары, не выключаю, што А.Лукашэнка добра падрыхтуецца да прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі: выкарыстае самую моцную зброю - родную мову. І як гэта ні фантастычна гучыць зараз, магчымым можа стаць амаль немагчымае: адмена дзяржаўнасці рускай мовы на тэрыторыі Беларусі і наша ж краіна - яшчэ не суб'ект Расійскай Федэрацыі. А Нацыянальнаму гуманітарнаму ліцэю будзе вернуты яго ранейшы статус, і вінаватыя ў яго закрыцці будуць пакараны...

Пачнецца паступовая беларусізацыя ў сферы адукацыі і культуры, вуліцы гарадоў атрымаюць назвы ў гонар вялікіх беларускіх сыноў і дачок. Нароўні з існуючым рускамоўным Беларускім дзяржаўным універсітэтам будзе створаны першы Нацыянальны роднамоўны універсітэт. Народ, які ўпершыню за 200 апошніх гадоў адчуе сябе беларускім народам, адчуе і сэнс жыцця на гэтай зямлі і падтрымае прэзідэнта ў новай, сапраўды беларускай палітыцы. І самі выбары і вынікі іх стануць незалежнымі (праз незалежнасць беларускай мовы ад рускай!) ад самой Расіі. А беларускі народ прагаласуе - без усялякіх фальсіфікацый - за трэці тэрмін прэзідэнцтва А.Лукашэнкі. Беларусь зробіцца незалежнай ад Расіі, прэзідэнт А.Лукашэнка - цалкам легітымным. Беларусь вернецца ў Еўропу. А.Лукашэнка пачне сапраўдныя рэформы, прыватызацыю, атрымае інвестыцыі з Захаду... За такое і я не супраць прагаласаваць.

І хаця ў маёй фантазіі-мары не надта многа шанцаў стаць рэальнасцю, усё ж - чаму б не? Няўжо гэта такая радасць - быць "кішэнным" стаўленікам Расіі на зямлі продкаў, якія галовы паклалі за незалежнасць Бацькаўшчыны, а іх нашчадкі яе аддалі?

Алесь РАШЧЫНСКІ,кампазітар.

# Лямант у пустыні?

Не. І гэта, думаецца, разумее Аляксандр Лукашэнка.

З Жэневы прыляцела вестка: Камісія па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прыняла чарговую рэзалюцыю па Беларусі.

Нехта скажа: лямант у пустыні. Маўляў, колькі ўжо было розных рэзалюцый, а нашыя высокія чыноўнікі і вокам не маргнулі.

Мне здаецца, на гэты раз давядзецца не толькі вокам маргнуць. Кальцо, як кажуць, сціскаецца, і хочаш - не хочаш, а трэба нешта рабіць.

Камісія па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый асуджае парушэнні правоў асобы ў нашай краіне. У рэзалюцыі адкрыта сказана, што яна заклапочана "з нагоды з'яўлення інфармацыі з дакладных крыніц, уключаючы заявы былых следчых і вышэйшых афіцыйных асоб праваахоўных органаў урада Беларусі, што ўказваюць на дачыненне вышэйшых афіцыйных асоб Беларусі да знікнення і/або адвольнага пакарання смерцю трох палітычных апанентаў існуючай улады і журналіста".

Камісія "настойліва заклікае" ўрад Беларусі звольніць альбо часова адхіліць ад займаемай пасады прадстаўнікоў праваахоўных органаў і дзяржаўных чыноўнікаў, якія маюць дачыненне да выпадкаў знікнення і/або адвольнага пакарання смерцю, да правядзення належнага расследавання".

Вядома, што напярэдадні разгляду рэзалюцыі Камісіі ААН па Беларусі да еўрапейцаў звярнуліся родныя зніклых палітыкаў і журналіста, якія ў сваім лісце просяць ААН "выкарыстаць усе магчымыя сродкі ціску на беларускія ўлады" з тым, каб нарэшце грамадскасць даведалася праўду аб тым, што адбылося з іх блізкімі, хто вінаваты ў трагедыях.

- Камісія па правах чалавека ААН заклікала беларускія ўлады гарантаваць незалежнасць судоў, вызваліць усіх вязняў, затрыманых па палітычных матывах.

Не менш важны пункт рэзалюцыі - рашэнне аб назначэнні спецыяльнага дакладчыка па Беларусі, які вывучыць становішча з правамі чалавека ў нашай краіне і прадставіць адпаведны даклад на 61-й сесіі Камісіі.

Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН Сяргей АЛЕЙНІК у інтэрв'ю расійскаму агенцтву "Новости" назваў рэзалюцыю ААН палітызаванай і "поўнай жадання аказаць палітычны ціск на кіраўніцтва Беларусі". Кіраўнік жа забароненага ўладамі праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь БЯЛЯЦКІ, які таксама прысутнічаў у Жэнэве і меў сустрэчы з прадстаўнікамі нацыянальных дэлегацый у Камісіі, так ацаніў у інтэрв'ю "Радыё Свабода" жэнеўскія падзеі: "Гэта наступны крок, які паказвае ўсё большую занепакоенасць міжнароднай супольнасці сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі".

Так, міжнародная супольнасць занепакоена сітуацыяй у Беларусі. І гэта не лямант у пустыні. Калі А.Лукашэнка сапраўды хоча мець добрыя адносіны з цывілізаваным светам, то яму трэба безадкладна выконваць патрабаванні рэзалюцыі. Інтарэсы Беларусі вышэй за інтарэсы, скажам, Шэймана ці нейкага іншага высокага чыноўніка.

Наталля ГАК. /Н. В./

## Вацлаў ГАВЕЛ, экс-прэзідэнт Чэхіі:

"Я веру, што Беларусь будзе наступнай краінай былога камуністычнага блока,у якой пераможа дэмакратыя і якая стане часткай аб'яднанай Еўропы"

У хуткім часе восем краін з былога камуністычнага блока стануць новымі сябрамі Еўрапейскага Саюза. Абдудзецца падзея, якую да нядаўняга часу амаль ніхто не мог сабе ўявіць. Краіны, у якіх яшчэ 15 гадоў таму панаваў таталітарны рэжым, што прыціскаў асноўныя правы і свабоды чалавека, краіны, лёсы якіх вызначала вузкае кола людзей пры дапамозе адзінай дзяржаўнай палітычнай партыі, якая абапіралася на ўзброеныя сілы, стануць часткай гістарычна першага наднацыянальнага згуртавання, якое заснавана на прынцыпах сапраўднай дэмакратыі, прызнання агульных каштоўнасцяў і ўзаемнай адказнасці за будучыню ўсяго кантынента. Умовай, на падставе якой краіны Сярэдняй і Усходняй Еўропы ўвогуле маглі прэтэндаваць на ўваход у Саюз, было прыняцце імі прынцыпаў дэмакратыі і прававрй дзяржавы.

Усходнім суседам пашыранага Еўрапейскага Саюза будзе таксама і Беларусь. Дзесяць гадоў аўтакратычнай ўлады Аляксандра Лукашэнкі прывялі краіну да глыбокай палітычнай ізаляцыі. Аднак гэта не павінна закранаць тых, хто жадае супрацоўнічаць з Еўропай.

Адной са спадарожных прыкмет несвабоднага рэжыму з'яўляецца непрыняцце насельніцтвам грамадскай актыўнасці і яго закрытасць перад усімі праявамі неабыякавасці і супольнай адказнасці за грамадскія справы. Менавіта гэта і адбываецца сёння на Беларусі, дзе грамадзяне штодня адчуваюць парушэнні сваіх асноўных правоў, якімі з'яўляюцца права на свабоду распаўсюджвання інфармацыі ці свабода выказвання. Крымінальны пераслед вольнадумных беларусаў, ціск на іх па месцы працы ці навучання сталіся звычайнымі ў штодзённым жыцці, дакладна так, як і мэтавыя змены заканадаўства. Калі ў несвабодных варунках рэпрэсіі і карупцыя ўспрымаюцца як грамадска-палітычная норма, то гэта вядзе да пашырэння погляду, паводле якога кожны мусіць перадусім клапаціцца сам пра сябе, што займацца грамадскай дзейнасцю бессэнсоўна і што крымінальны пераслед суграмадзян ці ў рэшце рэшт іх знікненні з'яўляюцца вынікам уласнай легкадумнасці гэтых грамадзян. Знешні погляд на Беларусь як на супольнасць грамадзян, якія змірыліся са сваім лёсам,ураўнаважваецца дзейнасцю шэрагу актывістаў ці аб'яднанняў, аб якіх прэзідэнт Лукашэнка добра ведае, што менавіта яны з'яўляюцца найбольшымі праціўнікамі карупцыі і зародкам насамрэч свабоднага сувыразшэння, якое пазней можа паступова перарасці ў свабодныя выбары. Іншымі словамі: свабодная будучыня Беларусі залежыць ад сённяшняй актыўнасці незалежных грамадскіх ініцыятыў.

Здаецца, што Беларусь арыентуецца на традыцыйныя шчыльныя сувязі з Расіяй ды мала цікавіцца Еўропай. Аднак вырастае генерацыя, якая бачыць сваю будучыню

менавіта ў Еўрапейскім Саюзе. Да яе перш за ўсё належаць тыя, хто імкнецца звярнуць увагу грамадства на карупцыю, хлусню ды перакручванне афіцыйнай інфармацыі, нягледзячы на ўласны камфорт, а часта і на ўласную бяспеку. Дакладна, як і ў выпадку чэхаславацкіх, польскіх ці венгерскіх дысідэнтаў, размова ідзе пра меншасць, чый уплыў, здавалася, быў мінімальны, а шанцы на прасоўванне лепшых ідэй - мізэрныя. Верагодна з гэтага сілкуецца няпэўнасць і скептыцызм еўрапейцаў адносна лёсу беларусаў, а таксама і пэўная бездапаможнасць перад тварам новага суседства.

Калі раней на існаванне лукашэнкаўскага рэжыму Еўропа рэагавала перш за ўсё крытыкай і палітычнай ізаляцыяй яго прадстаўнікоў, то зараз надышоў час пайсці насустрач тым, хто імкнецца да супрацоўніцтва і партнёрства з Еўропай. У выпадку Беларусі відавочна, што размова ідзе не пра афіцыйную палітычную рэпрэзэнтацыю, а хутчэй пра дэмакратычную апазіцыю, незалежныя ініцыятывы, пра студэнтаў і грамадзян, для якіх дэмакратычная Беларусь атаясамліваецца з еўрапейскай Беларуссю.

Я вельмі глыбока перакананы ў тым, што еўрапейцы мусяць не толькі ізаляваць афіцыйных беларускіх прадстаўнікоў, але перш за ўсё адчыніць як мага болей сваіх праграм і фондаў для тых суб'ектаў, якія зацікаўлены ў супрацоўніцтве, і нават у тым выпадку, калі афіцыйны рэжым будзе гэтаму перашкаджаць. Толькі так мы маем усе шанцы на змену тамтэйшай сітуацыі ды на стварэнне ўмоў для свабодных выбараў. Беларусы самі вырашаць, далучыцца ім да Еўропы ці не, гэта будзе іх справа, а мы ўсе будзем мусіць іх выбар паважаць. Але дзверы ў Еўропу мусяць застацца адчыненымі.

Я веру, што будучыня Беларусі цесна звязана з будучыняй Еўропы, а будучыня Еўропы - з будучыняй дэмакратычнай і незалежнай Беларусі. Я веру, што дзякуючы партнёрству з праеўрапейскай часткай беларускага грамадства можа адбыцца тое, што зараз мала хто можа сабе ўявіць - тое, што Беларусь будзе наступнай краінай былога камуністычнага блока, у якой перамога дэмакратыя і якая стане часткай аб'яднанай Еўропы.

*************************************************

# Вось такая перспектыва

**У Гродне няма беларускіх школ. Змяншаецца колькасць класаў з роднай мовай навучання. Яны пакуль што ёсць у СШ № 3, 5, 6, 26, 34 Кастрычніцкага і № 7, 21, 27, 32 Ленінскага раёнаў горада. Школьныя дысцыпліны па-беларуску вывучае 1.210 дзяцей (2,9 працэнта ад агульнай колькасці вучняў Гродна).**

На роднай мове вучацца ў асноўным дзевяцікласнікі, якія закончылі базавую беларускую школу (43,6 працэнта). Гэта апошняя плынь, якая пачынала вучобу ў часы беларусізацыі (1991-1994).

Цяпер праводзіцца набор вучняў выключна ў падрыхтоўчыя рускамоўныя класы. У гэтым сэнсе беларусы могуць па-добраму пазайздросціць польскай нацыянальнай меншасці. Яны маюць шмат праблем. Аднак ёсць дзве польскамоўныя школы (Гродна і Ваўкавыск). Як прадмет, польскую мову вывучае 1.425 падлеткаў у 14 школах абласнога цэнтра (3,4 працэнта ад агульнай колькасці школьнікаў горада). Штогод ствараюцца польскамоўныя падрыхтоўчыя класы.

Калі нічога не зменіцца ў лепшы бок, то праз 6-8 гадоў беларуская мова ў Гродне будзе вывучацца ў школах як прадмет сярод іншых прадметаў, і не больш. Альбо знікне «па просьбе бацькоў» наогул.

Сітуацыю можна паправіць пры ўмове неадкладнага стварэння ў абласным цэнтры беларускамоўнай школы (гімназіі, ліцэя). Аднак гэта патрабуе адкрыцця ў краіне аналагічных сярэдніх і вышэйшых навучальных установ, дзе выпускнікі маглі б працягваць вучобу на роднай мове.

Дэклараваная ў Канстытуцыі дзяржаўнасць мовы павінна падмацоўвацца яе развіццём.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# ЦЯЖКА ПЕРШЫЯ ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ

Ўсялякага роду юбілеі настройваюць на настальгічны лад. Дзе той энтузіязм і баявы запал, зь якім апазыцыйныя масы яшчэ, здаецца, нядаўна выходзілі 15 сакавіка на вуліцы беларускіх гарадоў, каб адзначыць Дзень Канстытуцыі? Пасьля лістападаўскага рэфэрэндуму 96-га году ды зьменаў у Асноўным Законе, якія надалі першаму прэзыдэнту Беларусі амаль неабмежаваныя паўнамоцтвы, канстытуцыя старога ўзору падалася многім ледзьве не Дэклярацыяй правоў чалавека, рэвалюцыйным маніфэстам, на вернасьць якому кляліся працiўнікі дыктатуры. І быццам забыліся былыя паплечнікі Лукашэнкі, якія зрабіліся яго галоўнымі крытыкамі, што менавіта Канстытуцыя ўзору 94-га году сталася першым крокам да прыходу яго да ўлады.

Зрэшты, тады здавалася, што беларуская заканадаўцы нарэшце падвялі рысу пад гісторыяй БССР і савецкім мінулым. У параўнанні зь дзеючай сёньня Канстытуцыяй РБ сталінская і брэжнеўская рэдакцыі Асноўнага Закону СССР 37-га і 77 гадоў выглядаюць музэйнымі экспанатамі. Але ж у гісторыі бываюць дзіўныя збліжэньні.

Сёлета споўнілася 70 гадоў "перамогі сацыялізму ў СССР па ўсім фронце". У студзені 34 году адбыўся 17-ы з'езд Усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў, які атрымаў назву з'езду пераможцаў. Вось фрагмэнт разьдзелу Кароткага курсу ВКП(Б), прысьвечанага тае падзеі.

"Тов. Сталин остановился, между прочим, на пережитках капитализма в сознании людей в области национального вопроса, где они особенно живучи. Партия большевиков боролась на два фронта – как против уклона к великорусскому шовинизму, так и против уклона к местному национализму. В ряде республик (Украина, Белоруссия и др.) партийные организации ослабили борьбу против местного национализма, дали ему разрастись до того, что он сомкнулся с враждебными силами, сомкнулся с интервенционистами, стал государственной опасностью. Отвечая на вопрос, какой уклон в национальном вопросе является главной опасностью, тов. Сталин говорил:

"Главную опасность представляет тот уклон, против которого перестали бороться и которому дали, таким образом, разрастись до государственной опасности".

Нешта знаёмае – ці ня праўда? Чытаецца проста як разьдзел з дапаможніка для сучасных палітінфарматараў, закліканых несьці дзяржаўную ідэалёгію ў масы. З аднаго боку, неабходна змагацца зь "вялікарускім шавінізмам" ( г.зн. – імпэрскімі памкненьнямі Масквы). З другога боку, трэба ўзмацняць барацьбу з "нацыяналізмам, які самкнуўся з варожымі сіламі". А хіба цяперашняя апазыцыя не кантактуе з амэрыканскімі агрэсарамі што ўчынілі інтэрвэнцыю спачатку ў братнюю Югаславію, а потым у дружалюбны Ірак? Дык якое у нас, кажучы словамі расейскага паэта, "тысячагодьдзе на двары"?

17-ы з'езд ВКП(б) увайшоў у гісторыю як з'езд, усіх удзельнікаў якога ( у тым ліку, беларускіх "нацыяналухілістаў") потым расстралялі. Вядомыя кадры, дзе правадыр нібы жартам цэліцца з трыбуны ў дэлегатаў з падараванай яму вінтоўкі. А яшчэ нехта тады прыслаў яму зь Сібэру ў падарунак тапор, на левым баку ляза якога было напісана: "Рубі левы ўхіл!", а на правым – "Рубі правы ўхіл!". На абуху ж быў надпіс: "Бі апазыцыю!". Вось так, з тапором у адной руцэ і канстытуцыяй у другой застаўся ў гісторыі народаў СССР таварыш Сталін. Краіны й Канстытуцыі зьмяняюцца, аматары "габляваць" іх тэксты ды лёсы людзей, па –свойму трактаваць свабоды правы чалавека не пераводзяцца. Зрэшты, кажуць, што жыць цяжка першыя сто гадоў. Ад прыняцьця першай канстытуцыяй незалежнай Беларусі прайшло ўсяго дзесяць.

В. Тарас

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Мэка Беларусі

**«Настаў час і гонар зведаць!» – патрабавалі палкаводцы, князі і беларусы-творцы, запёртыя ў каморках Айчыны.**

Гэта ж трэба было паехаць у Старыя Дарогі, каб зразумець, чаму мы не тое што не любілі, а не ўспрымалі гісторыю Беларусі. І калі на мяне ў музеі Анатоля Белага з усіх бакоў узнялі вочы адначасова сотні твараў нашых суайчыннікаў, я быў ашаломлены сваім невуцтвам. Але Анатоль паклаў руку на плячо і суцешыў: « І я да пары не ведаў, што яны існавал1, пакуль не пазнаёміўся з гісторыяй – каранём, з якога вырастаюць адначасова і чалавек, і Айчына».

Нарадзілася і пытанне: што ў такім выпадку рабілі гістарычныя кафедры і цэлыя інстытуты ўвесь гэты час? Зразумець дапамог усе той жа Анатоль Белы: тры разы яго «пракідвалі» на абароне кандыдацкай дысертацыі. Белы адстойваў і даказваў думку, што без праўдзівай гістарычнай памяці не бывае існага патрыятызму. І што яшчэ больш цікава, званне доктара навук ён атрымаў у Кембрыджскім універсітэце.

Калі ўпершыню і першым з Беларусі павёз выставу «Францыск Скарына і яго час» са свайго мастацкага фонду ў ЗША, беларусы Амерыкі плакалі. А нябожчыца Арсеньева, тая самая знакамітая паэтка, ніяк не магла супакоіцца, уткнуўшыся ў ягонае плячо. Па яе твары цяклі слёзы і словы: «Жыве, Беларусь, жыве...».

**Дарога пазнання Айчыны праз Старыя Дарогі**

Больш разумна і жыватворна было б, калі б гэтая дарога ляжала праз Мінск. Але Белы вывез са сталіцы 10 аўтобусаў з экспанатамі сваёй мастацкай калекцыі, паслабіўшы такім чынам яе гістарычную магутнасць на 1200 чалавек, якія вызначалі у свой час твар дзяржавы. Неадназаховыя звяртанні да гарадскіх уладаў аб набыцці пакояў пад музей разбіваліся аб інертнасць мінскіх чыноўнікаў. Гэтага патрабавалі князі, святчэннікі, палкаводцы, якія душыліся на антрэсолях і ў каморках. Яны прасілі змілавацца і пыталіся: «Можа, і нам настаў час зведаць гонар?».

Але і бацькоўская хатка здалася маленькай для ўсяго прывезенага. Так беларусы ў бронзе, карцінах, медальёнах, на злосць беларусам жывым, якім бронза не свеціць, прымусілі яго рабіць прыбудовы. У выніку з'явілася шыльда: «Музей мастацтваў. З фондаў Анатоля Белага». І сёння тут знайшлі прытулак больш 2 тысяч твораў мастацтва графікі, скульптуры, жывапісу, керамікі. На ўсіх – твары, твары беларусаў, якія адухаўлялі гісторыю Айчыны.

А пачыналася ўсе са звычайнага кнігазбору, чым, уласна кажучы, захапляліся ўсе выпускнікі навучальных устаноў таго часу. Але Беламу гэтага было недастаткова, веданне мастацтва падштурхоўвала да калекцыяніравання твораў. Спачатку ён захапіўся медальёнамі, цяпер у яго 600 твораў медальёрнага мастацтва. Гэта падштурхнула да графікі, яна, ў сваю чаргу – да жывапісу. Калекцыянеры ведаюць, што гэта за спакуса. Купляецца, прадаецца, абменьваецца – і ўсё нечага не дастае. Да таго ж, Анатоль Яфімавіч быў сваім для многіх мастакоў, яму дарылі карціны. Ён шмат пісаў як журналіст, дапамагаў рабіць выставы і лічыўся адным з лепшых знаўцаў беларускага мастацтва.

Яму пашчасціла зрабіць надзвычай шмат за 40 гадоў збіральніцтва. Можа таму, што ён пілот па сваёй сутнасці, які імчыць па экстрэмальных маршрутах. А лётчыкам ён быў, скончыў лётнае вучылішча і такі пілатаж – у нейкай ступені норма жыцця. Камэск сказаў: «Ты будзеш лятаць, сынок, але не на самалётах». І Белы вырашыў змяніць афіцэрскую шпагу на кнігу. І яшчэ ў яго фантастычны зрок. Гаворачы пра гэта, маю на ўвазе і бачанне, якое дазваляе ўспрымаць любую з'яву глыбей. Унікальная асоба.

**Пантэон занядбаных**

Тое, што ёсць у яго мастацкай калекцыі, апынулася не толькі па волі калекцыянера, а як бы ў пакаранне за шчырыя намеры добразычлівага беларуса. Ужо з'яўляючыся старшынёй клуба «Спадчына», Белы пранікнуўся думкай, што гістарычная праўда павінна ўзяць верх у тым сэнсе, што кожны раён краіны ў рэшце рэшт ушануе сваіх знакамітых землякоў.

У свой час у Зэльве дазволілі ўсталяваць помнік Ларысе Геніюш. Якая муха ўкусіла затым раённых «вертыкальшчыкаў» – невядома, аднак Белы атрымаў адказ. Што было рабіць ужо з адлітай у метале паэткай? І тады ён вырашыў устанавіць помнік акурат перад вокнамі дома-музея ў Старых Дарогах. І адкрыў, урачыста і прынародна. Геніюш ажыла, убачыла свет і паклала пачатак жыццю пантэону адвергнутых беларусаў. Да яе затым прымкнулі нікому непатрэбныя Адам і Максім Багдановічы (адзінае месца, дзе стаяць помнікі бацьку і сыну), гісторык Улашчык. Апошняга таксама не ўспрыняло начальства Дзяржынска.

Ну а пра тое, што Ляхавічы паставяць помнік Анатолю Бярозку, Белы нават і не марыць. У беларускіх чыноўнікаў генетычны страх перад словамі «эмігрант», «дысідэнт», «палітзняволены» і іншымі з гэтага сінанімічнага падбору. А Бярозка – арыгінальны паэт, рэдагаваў часопіс «Калоссе». У яго пачаў друкавацца Максім Танк. Да таго ж, ён адмысловы ўрач, які жыве цяпер у ЗША. Амерыканцы пры жыцці аддалі яму па заслугах, назваўшы буйны шпіталь яго імем. А беларусы?

Чакаюць свайго прызначэння і два вялізныя камянівалуны, пасаджаныя назаўсёды ў агародчыку радзімай хаты. На іх не будзе скульптур і бюстаў, адзін расквецiцца прозвішчамі 100 беларусаў-змагароў за родную мову. На другім камяні – 100 імён гісторыкаў і публіцыстаў, якія вярталі нам гістарычную памяць. Камень Мовы і Камень Гісторыі – яны, па меркаванню Анатоля Яфімав1ча, дзве высновы, на якіх трымаецца самасвядомасць любой нацыі. І стаяць яны побач з адвергнутымі скульптурамі на фоне вялізных літар на сцяне хаты ў выглядзе павучання-прароцтва: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не умерлі! Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная» (Францішак Багушэвіч).

Гэтая Мэка беларускасці далася Беламу надзвычай дарагой цаной, каб не выкарыстоўваць па максімуму музейныя плошчы. Але як чалавек творчы, Анатоль Яфімавіч пайшоў яшчэ далей, выкарыстоўваючы плошчу знешніх сценаў хаткі. Ён задумаў стварыць Сцяну Памяці па аналогіі са Сцяной Плачу ў Іерусаліме. Але ад «плакучай» назвы катэгарычна адмовіўся, маўляў, што мы не аплакваем, а памятаем тых, каго недастаткова памятаем.

На гэтай Сцяне даўжынёй у 25 метраў будуць барэльефы тых беларусаў, якія не ўвекавечаныя спаўна ні дзяржавай, ні дзеячамі мастацтва. Ужо ёсць Сапега і Ефрасіння Полацкая. Яны выкананы шляхам разьбы па метале. Да іх прымкнуць Каліноўскі, Касцюшка, князь Канстанцін Астрожскі і першы рэдактар газеты «Наша ніва» Аляксандр Уласаў. Напэўна, гаворыць Белы, гэта не самы выразны мастацкі варыянт, але тыя, хто ўбачылі і сталі відушчымі, зробяць лепей.

**Тварастварэнне радаводу**

Анатоль Яфімавіч прайшоў шлях гістарычнага невуцтва як і многія з нас. Пакуль на гарызонце не пачала праяўляцца постаць Міколы Ермаловіча. Белы неяк сказаў яму: «А ведаеш, Гедымін – князь літоўскі, усё ж паходзіў з Полацка. Давай зробім па тваіх распрацоўках радавод князёў». «Рабі», – адказаў Ермаловіч. У хуткім часе да ідэі былі далучаны мастакі, а таксама з'явіліся ўзятыя ў Варшаўскім замку копіі малюнкаў захаваўшыхся князёў. Калі іх ажывілі на палотнах, Белы прынёс радавод Ермаловічу. Той усхваліў зробленае, але сказаў: «Ты хоць ведаеш, што цябе будуць лупіць бязлітасна?». На першых малюнках былі зроблены слайды і плакат князёў полацкіх і вялікіх беларускіх (літоўскіх). 20 тысяч экземпляраў плаката прывялі, напэўна, у шок атрады гісторыкаў. Замест бquestions – ігнараванне поўнае. І толькі калі ўладыка Філарэт апублікаваў радавод у сваёй кнізе «Прападобная Ефрасіння Полацкая» і тым самым пацвердзіў ідэю, што Гедзміны бяруць пачатак з Полацка, у навуковым

асяроддзі пачалося браджэнне. Больш таго, ужо абітурыенты пачал1 здаваць уступныя экзамены па радаводу Белага. А Ермаловіч, абняўшы Анатоля Яфімав1іа, сказау: «Мы перамаглі!».

Князеў маляваў мастак Анатоль Крывенка. У яго было няпростае заданне, таму што да XVIII стагоддзя не было ніводнай выявы князя. Хіба што Ягайла. Таму вобразы самых першых грунтаваліся на маленькіх крупінках, літаральна, словах гістарычных летапісаў. Напрыклад, у Ізяслава быў вялікі гуз на ілбе, многія валодалі неймавернай фізічнай сілай. Белы гаворыць: «Няхай зробяць лепш, я не супраць гістарычнай праўды.

**Універсітэцкі дворык**

Калі у гэтым мілым сэрцу скверыку з'явіліся скульптуры, БДУ пастале на стагоддзе. І як бы аўтаматычна ўзвысіўся да старэйшых універсітэтаў Еўропы.

Белы ведаў, што Адашкевіч зрабіў помнік Скарыне. Закінутага асветніка ніхто не браў і скульптар за сімвалічную плату аддаў яго Беламу. Той перавёў яго у медзь і адліты Скарына суцішыўся у Доме літаратара, убіраючы ў сябе творчыя дыскусіі беларускіх літаратараў, якія ператвараліся ў пыл, які на ім і асядаў. Побач прымасціўся і помнік Гусоўскаму, работы гарадзенца Панцялеева (гэта быў яго дыпломны праект у майстэрні Анікейчыка). Белы і Гусоўскага перавёў у медзь. Так яны і стаялі сіротамі. І Белы не вытрымаў, звярнуўся да былога прарэктара Брыгадзіна: маўляў, што ж гэта мы, такія-сякія жывём, не ведаючы свойго мінулага? Пайшлі да рэктара, ужо таксама былога, Казуліна. А таму ідэя спадабалася, адразу і вырашылі: ставім! Так ва ўніверсітэцкім скверыку з'явіліся першыя вялікія беларусы. Такім жа чынам хутка «прыйшла» сюды і Ефрасіння Полацкая. Сквер пачаў набываць рысы сівой даўніны. Анатоль Яфімавіч, ведаючы па сабе стымулюючую сілу калекцыяніравання, прапанаваў рэктару: «А, можа, і Сапегу сюды «паклічам?». Але Казулін, ведаючы сутнасць сапегаўскага рэфарматарства і «вертыкальных» чыноўнікаў, ухіліўся ад канкрэтнага адказу.

А ў гэты час у Лондане ўстанавілі побач адразу два помнікі – Чэрчылю і Рузвельту. І кожны жадаючы мог паціснуць рукі і сфатаграфавацца на лавачцы паміж імі. Белы даведаўся аб гэтым і ідэю «лавачкі» перанёс ва ўніверсітэцкі гарадок, калі ставілі помнікі Сымону Буднаму і Васілю Цяпінскаму. Першым сфатаграфаваўся, як і трэба, рэктар, а за ім...

Затым асцярожненька выйшлі і на Кірыла Тураўскага. Скульптура ў свой час была падаравана ўладыку Філарэту. Хутчэй за ўсё, яна будзе ўстаноўлена пры адкрыцці Духоўнай Акадэміі імя вялікага святога.

Дарэчы, ужо зроблены помнік Ігнату Дамейку для геафака, але на ўстаноўку няма грошай. Разумеючы, што гэтаму не будзе канца, помнік устанавілі на радзіме Дамейкі у вёсцы Мядзведка Карэліцкага раёна. Перададзены барэльеф Льва Сапегі юрфаку, але і там нічога не зроблена. Журфаку прапанаваны помнік Кастусю Каліноускаму, які выпускаў першую нелегальную газету у Беларусі «Мужыцкая праўда». Калі ўсё гэта ажыццявіцца, то такога дворыка не будзе ні ў адным універсітэце свету!

І, безумоўна, не мог забыцца Анатоль Яфімавіч пра Міколу Ермаловіча. Помнікі гэтаму выдатнаму чалавеку і гісторыку Белы устанавіў у Маладзечне і Старых Дарогах. Тут жа побач стаяць і браты Луцкевічы. А летам гэтага года намячаецца ўрачыстае адкрыцце помніка Наталлі Арсеньевай...

Цяпер, спадзяюся, вы зразумелі, колькі можа адзін чалавек і чаму яго жыццё, як рызыкоўны пілатаж? І чаму менавіта ён узначальвае клуб «Спадчына»?

Аляксандр ХІЛІМОН. /Біржа інфар./

***

**Вывучайце гісторыю**

На свеце шмат розных навук. Адны вывучаюць чалавека, другія – жывёлаў і расліны, трэція – прыродныя з'явы. Ды ёсць навука, без якой немагчыма ўявіць наша жыццё. Гэта – гісторыя. Менавіта яна можа адказаць на шматлікія пытанні: дзе, калі і што было? Хто былі нашы продкі, славутыя і невядомыя? Што адбывалася да таго, як з'явіліся на свет мы з вамі?

Самае вялікае багацце чалавека – памяць. Яна захавала падзеі далёкага мінулага, імёны слаўных сыноў радзімы, песні і звычаі продкаў, назвы рэчаў, якімі сёння ўжо не карыстаюцца.

У кожным горадзе памятаюць былыя назвы вуліц, у кожнай вёсцы – як зваліся ці завуцца лясныя ўрочышчы, асобныя ўзгоркі, палі, лугі. Старажылы заўсёды скажуць, дзе быў вятрак, дзе вадзяны млын, якая рыба вадзілася ў рэчцы, раскажуць легенды, звязаныя з курганамі і валунамі.

Жылі нашы далёкія продкі ў лясных вёсачках, палявалі на дзікіх звяроў і аралі зямлю на невялікіх лапіках, адваяваных ад лесу. Яны пакідалі аб сабе памяць. Гэта рэшткі паселішчаў, хатнія рэчы, упрыгожанні, зброя. Усё названае знаходзяць пры раскопках археолагі, а пасля вывучаюць.

Пра гісторыю продкаў пазнейшага часу, узнікненне гарадоў нам расказваюць летапісы.

Свой маленькі летапіс можа быць у кожнай сям'і. Даведайцеся, кім былі, дзе працавалі, як жылі не толькі вашы дзядулі і бабулі, але і іх бацькі. Гэта вельмі цікава. Такія звесткі могуць перадавацца з пакалення ў пакаленне...

# Беларуская мова ў Польшчы

Беларуская мова займае значна шырэйшую тэрыторыю за тую, якая знаходзіцца ў межах беларускае дзяржавы, і ахоплівае памежныя рэгіёны: у Расеі – Смаленшчыну й Браншчыну, у Летуве – Віленшчыну, і ў Польшчы – паўднёва-ўсходнюю частку Падляшша.

На Падляшшы заходняя мяжа выступаньня беларускае мовы праходзіць з поўначы на поўдзень: ад Аўгустоўскага каналу, на захад ад ракі Бярозаўка і на ўсход ад гарадоў Гонёндз, Монькі, Кнышын да ракі Супрасьль пад Васількоўам; затым ідзе па Супрасьлі, паварочвае на поўдзень уздоўж ракі Нараў на ўсход ад горада Лапы, перасякае раку Нараў ды ідзе далей на поўдзень на ўсход ад горада Браньск і на захад ад горада Сямяцічы да ракі Буг.

На гэтай тэрыторыі жывуць беларусы ды іхная родная мова.

Праўда, трэба адзначыць, што беларуская мова на Падляшшы не аднародная. Выступаюць розныя гаворкі: на поўнач і ўсход ад Беластоку – акаючыя ды дзекаючыя й цекаючыя, а на поўдзень ад Беластоку – окаючыя і з захаванымі мяккімі д', т'. Мяжой, якая аддзяляе дзекаючыя гаворкі ад пераходных беларыска-ўкраінскіх, зьяўляецца пры блізна рака Нараў. Чым далей на поўдзень, тым больш у гэтых гаворках паяўляецца ўкраінскіх рысаў, аднак тыповы для ўкраінскай мовы ікавізм выступае толькі ў невялікім энкляве ў ваколіцах Чаромхі. Больш рысаў, характэрных для ўкраінскае мовы, знаходзім на поўдзень ад ракі Буг.

Варта сказаць яшчэ й пра тое, што на захадзе Падляшша, дзе беларуская мова кантактуецца з польскімі мазавецкімі гаворкамі, якім характэрная зьява мазурэньня – неразрозьніваньня ж й з – маем дачыненьне з пранікненьнем яе і ў беларускія гаворкі. Гэта з аднаго боку, а з другога – ёсьць таксама выпадкі ўплыву беларускае мовы на польскія гаворкі, асабліва на тыя, якія ўзьнiклі на беларускім субстраце.

У сёньняшняй моўнай сытуацыі Падляшша адлюстроўваюцца пасяленчыя працэсы з XIV-XV стагодзьдзяў, зьвязаныя з калянізацыяй і загаспадараваньнем вялікіх лясных масіваў, якія знаходзіліся на гэтай тэрыторыі. У той час, а таксама і ў пазьнейшыя стагодзьдзі, на тэрыторыю Падляшша наплывала насельніцтва з 4 напрамкаў: з заходняга – мазавецкае, з паўночна-ўсходняга (з ваколіцаў Гародні й з-над Нёмана) – беларускае й летувіскае ды яцьвяскае, з усходняга (з ваколіцаў Ваўкавыска) – беларускае, ды з паўднёвага ўсходу (з ваколіцаў Берасьця й Валыні) – беларускае і ўкраінскае. Зразумела, у той час панэцьце нацыяў не было сфармуляванае, але, карыстаючыся сёньняшнімі катэгорыямі, сьмела можна сказаць, што яно прынесла з сабою мову, характэрную для рэгіёнаў іхнага ранаейшага пражываньня. Нягледзячы на ўзаемнае кантактаваньне, на Падляшшы ўзьнік даволі выразны падзел на гаворкі польскае, беларускае, украінскае й летувіскае мовы.

Апрача гэтага ёсьць некалькі населеных пунктаў у Сувальскім, Аўгустоўскім і Сэйнэньскім паветах, у якіх людзі карыстаюцца расейскай мовай. Гэта выхадцы з-пад Пскова й Ноўгарада, якія пасяліліся на Падляшшы, не пагадзіўшыся з рэлігійнай рэформай Нікана

Зразумела, гэта вельмі адлеглая гісторыя, але яна паўплывала на сёньняшнюю этнічную й моўную сытуацыю паўночна-ўсходняй Польшчы. Зазіраючы на старонкі бліжэйшых падзеяў, зьвязаных з жыцьцём беларускай нацыі ў межах польскае дзяржавы, варта зьвярнуць увагу на паваенны пэрыяд. Згодна дадзеным, апублікаваным у працах: Веслава Харужы - Białorusini w Polsce w latach 1945-1990 (Беларусы ў Польшчы ў гадох 1945-1990), Марыюша Кавальскага - Polacy na Białorusi, Białorusini w Polsce – obraz pogranicza dwóch narodów(Палякі на Беларусі, беларуссы ў Польшчы – вобраз памежжа двух народаў) і Яўгена Мірановіча ды Алега Латышонка – Krótka historia białoruskiej mniejszości narodowej w Polsce w latach 1944-2001 (Кароткая гісторыя беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы ў гадох 1944-2001), пасьля 1944 году ў межах Польшчы жыло больш за 150 тысяч беларусаў. З часам гэтая колькасьць стала зьмяншацца. Амаль поўнасьцю палянізавалася насельніцтва рыма-каталіцкага веравызнаньня, якое атаесамлівалася з польскай нацыяй.

З дасьледаваньняў сацыёляга Анджэя Садоўскага, праведзеных у 1990-х гадох, вынікае, што сьвядомыя беларусы складаюць 30% ад 250-тысячнага праваслаўнага жыхарства, значыць каля 75 тысяч чалавек.

Тым часам у Рапарце для Генэральнага Сакратара Рады Эўропы з рэалізацыі Рэспублікай Польшча пастановаў Асноўнай Канвэнцыі Рады Эўропы аб ахове нацыянальных меншасьцяў, падрыхтаваным у 2002 годзе Міністэрствам Унутраных Справаў і Адміністрацыі, падаецца ацэначная колькасьць беларусаў у Польшчы ад 200 тысяч да 300 тысяч чалавек.

Гэтых аптымістычных даных не пацьвердзіў аднак Перапіс насельніцтва з 2002 году, у якім было пытаньне пра нацыянальнасьць. Вынікае зь яго, што беларусы складаюць каля 50 тысяч грамадзянаў Польшчы.

З гэтага ж перапісу вынікае, што бальшыня насельніцтва Падляскага ваяводзтва карыстаецца польскай мовай – 97,5% усіх жыхароў ваяводзтва. Польскай мовай як адзінай мовай карыстаецца 93,9% насельнікаў. Няпольскімі мовамі паслугоўваюцца 4,7% жыхароў Падляскага ваяводзтва, прычым найчасьцей гэтыя мову выкарыстоўваюцца напаремну з польскай мовай. Такіх насельнікаў ваяводзтва ёсьць 3,7%. Выключна іншымі мовамі, няпольскімі, карыстаецца толькі 1% жыхароў Падляскага ваяводзтва, з чаго рашучая бальшыня – беларускай мовай. Такіх адказаў было 39 тысяч 900 пры агульнай колькасьці беларусаў у Падляскім ваяводзтве – 46 тысяч 400 асобаў. На другім месцы апынулася летувіская мова – 5 400 адказаў.

У польскай Канстытуцыі, прынятай 2 красавіка 1997 году, запісана, што „Рэспубліка Польшча запэўнівае польскім грамадзянам, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасьцяў, свабоду захоўваньня й разьвіцця сваёй мовы, звычаяў і традыцыяў ды сваёй культуры. Нацыянальныя й этнічныя меншасьці маюць права ствараць уласныя адыкацыйныя й культурныя ўстановы, ды ўстановы, якія служаць ахове рэлігійнай тоеснасьці, а таксама прымаць удзел у вырашаньні справаў, датычных іхнай культурнай тоеснасьці." Так гаворыцца ў 35 артыкуле Канстытуцыі. У сваю чаргу ў артыкуле 27 сказана, што „ў Рэспубліцы Польшча дзяржаўнай мовай зьяўляецца польская мова, але гэтае правіла не парушае правоў нацыянальных меншасьцяў, якія вынікаюць з ратыфікаваных міжнародных дамоваў".

Афіцыйная палітыка ўраду ў дачыненьні да моваў нацыянальных меншасьцяў не абмяжоўваецца толькі да канстытуцыйнага запісу. Распараджэньнем № 49 Старшыні Рады Міністраў з 20 чэрвеня 1997 году была пакліканая Міжведамасная Камісія па справах Нацыянальных Меншасьцяў, якая зьяўляецца калегіяльным ацэначна-дарадчым органам прэм'ер-міністра па пытаньнях выпрацоўваньня й каардынацыі палітыкі ўраду ў дачыненьні да нацыянальных меншасьцяў. Дадатковае заданьне для ўраду зьвязанае з ажыцьцяўленьнем Асноўнай Канвэнцыі Рады Эўропы аб ахове нацыянальных меншасьцяў, ратыфікаванай прэзыдэнтам 10 лістапада 2000 году, якая забавязвае сыгнатарыяў да аховы й прамоцыі рэгіянальных і меншасных моваў у розных галінах жыцьця.

Міжведамасная Камісія па справах Нацыянальных Меншасьцяў паклікала дарадцаў альбо ўпаўнаважаных ваяводаў па справах нацыянальных меншасьцяў. У рамках гэтай Камісіі дзейнічае Падкамісія па справах Адукацыі Нацыянальных Меншасьцяў, якая займаецца, між іншым, навэлізацыяй адукацыйных законаў, праграмамі навучаньні й падручнікамі.

Прынцыпы і ўмовы карыстаньня грамадзянамі РП з свабоды да захаваньня й разьвіцьця нацыянальнымі меншасьцямі сваёй роднай мовы, звычаяў, традыцыяў і культуры запісаныя ў Законе аб нацыянальных і этнічных меншасьцях у Рэспубліцы Польшча з 2002 году. З сьнежня 2002 году было выдадзена Распараджэньне Міністра Нацыянальнай Адукацыі й Спорту ў справе ўмоваў і спосабу выконваньня школамі й граамдзкімі ўстановамі заданьняў, якія спрыяюць падтрымцы

нацыянальнай, этнічнай, моўнай і рэлігійнай тоеснасьці вучняў, што належаць да нацыянальных меншасьцяў і этнічных групаў, а 22 сьнежня 2003 году – Распараджэньне Міністра Нацыянальнай Адукацыі й Спорту ў справе спосабу падзелу часткі агульных адукацыйных субвэнцыяў для адзінак тэрытарыяльных самакіраваньняў у 2004 годзе.

Таксама мясцовыя ўлады вядуць сваю палітыку ў дачыненьні да нацыянальных меншасьцяў. Як я ўжо згадвала, у Падляскім ваяводзтве быў паклікаsuccessful ўпаўнаважаны ваяводы па справах нацыянальных меншасьцяў. Штогод адбываецца сустрэча ваяводы з прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў – апошняя адбылася 3-га сакавіка бягучага году.

У праграме Самакіраваньня Падляскага ваяводзтва, у якім вызначаецца стратэгія разьвіцьця гэтага рэгіёну, гаворыцца пра дзейнасьць на карысьць польскасьці, пра разьвіцьцё й кшталтаваньне нацыянальнай, грамадзянскай і культурнай тоеснасьці жыхароў, а таксама пра падтрымку й разьвіцьцё рэгіянальнай, лякальнай тоеснасьці.

Праграма Разьвіцьця Адукацыі Падляскага ваяводзтва на гады 2002-2007, вызначаючы стратэгічныя мэты адукацыі на Падляшшы, узяла пад увагу м.ін. шматкультурнасьць рэгіёну.

Да заданьняў Аддзелу Адукацыі Дэпартаманту Адукацыі й Культуры Падляскага ваяводзтва належыць, м.ін.:
- падтрымка дзейнасьці на карысьць павышэньня ўзроўню адукацыі грамадзянаў, у тым пялегаваньня й разьвіцьця рэгіянальнай, лякальнай тоеснасьці,
- заснаўваньне грамадзкіх адукацыйных установаў і ўстановаў павышэньня кваліфікацыі настаўнікаў, пэдагагічных бібліятэкаў, а таксама школаў рэгіянальнага значэньня, што акрэсьлена ў распараджэньні Рады Міністраў.

Моўныя пытаньні вызначаюцца таксама шляхам судовых правілаў. Артыкул 5 закону з 27 ліпеня 2001 году Права аб судовай сыстэме дае права асобам, якія не валодаюць у дастатковай ступені польскай мовай, выступаць перад судом на той мове, якую ведаюць, і карыстацца бясплатнай дапамогай перакладчыка. Падобным чынам правілы закону з 6 чэрвеня 1997 году Крымінальнага Кодэксу прызнаюць абвінавачанаму ды іншым асобам, якія бяруць удзел у судовым працэсе й не валодаюць польскай мовай, права да перакладчыка. Аб прызнаньні перакладчыка вырашае суд, які займаецца справай у першай інстанцыі. Просьбай аб прызнаньне перакладчыка, унесенай падчас працэсу, займаецца суд тае інстанцыі, у якой знаходзіцца дадзеная справа.

Мовы нацыянальных меншасьцяў падтрымліваюцца заканадаўствам Эўрапейскага Зьвязу. Рада Эўропы прыняла ў 1994 годзе Асноўную Канвэнцыю аб Ахове Нацыянальных Меншасьцяў, у якой гаворыцца пра:
- карыстаньне мовай нацыянальных меншасьцяў у прыватным і грамадзкім жыцьці, а таксама ў розных установах,
- права да ўжываньня імя й прозьвішча ў гучаньні роднай мовы,
- права да зьмяшчаньня прыватных напісаў у мове меншасьці,
- права да зьмяшчаньня ў мовах нацыянальных меншасьцяў традыцыйных назоваў мясцовасьцяў, назоваў вуліц ды іншых тапаграфічных назоваў.

Гэтая Канвэнцыя папаўняе Эўрапейскую Хартыю Рэгіянальных і Меншасных Моваў, падпісаную ў 1992 годзе, якая абавязвае сыгнатарыяў да аховы й прамоцыі рэгіянальных і меншасных моваў у навучаньні, адміністрацыі, судовай справе, СМІ, эканамічным абароце, аднак без дыскрымінацыі большасьці.

У Падляскім ваяводзтве, у Беластоцкім Аддзеле Асьветы існуе інспэктар, які адказвае за каардынаваньне справаў, зьвязаных з навучаньнем мовы нацыянальных меншасьцяў. Беластоцкі Аддзел Асьветы дапамагае настаўнікам. Супольна зь беларускім бокам – Раённым Аддзелам Народнай Асьветы ў Горадні – арганізуе конкурс „Настаўнік году". Конкурс прызначаецца настаўнікам беларускай мовы на Беласточчыне й польскай мовы на Гарадзеншчыне. Адным з асноўных заданьняў конкурсу зьяўляецца прэзэнтацыя аўтарскіх праграмаў, якія потым прадстаўляюцца Міністэрству Адукацыі дзеля іх зацьверджаньня. Конкурс зьяўляецца адным з пунктаў паразуменьня паміж Беластоцкім Аддзелам Асьветы й Раённым Аддзелам Народнай Асьветы ў Горадні, падпісанага 25 чэрвеня 2003 году. Мэтай конкурсу зьяўляецца, м.ін.:
- пашырэньне й дасканаленьне супрацоўніцтва паміж настаўнікамі беларускай мовы з Польшчы й настаўнікамі польскай мовы зь Беларусі,

У конкурсе могуць браць удзел настаўнікі ўсіх адукацыйных узроўняў, калі ў іх ёсьць прафэсійная падрыхтоўка й калі рыхтуюць вучняў да розных конкурсаў (прадметных, дэкляматарскіх, тэатральных) і да алімпіядаў.

У Беластоку існуе адзін дзіцячы садзік (№ 14) з польскай і беларускай мовамі навучаньня. Беларускай мовы вучыцца ў ім 20 дзетак. Гэты дзіцячы садзік узьнік у палове 1990-х гадоў. Раней увогуле не было ў Польшчы такой магчымасьці, каб дзеці вучыліся сваёй роднай мове ў дзіцячым садку.

На Падляшшы існуюць пачатковыя школы, у якіх вядзецца навучаньне беларускае мовы як дадатковага прадмета. Беларуская мова не зьяўляецца абавязковым прадметам – вучацца толькі тыя дзеці, бацькі якіх згаджаюцца на гэта.

Згодна з дадзенымі Раённага Аддзелу Асьветы ў Беластоку, у 2002 годзе ў пачатковых школах вучылася 1773 вучняў, і 1009 вучняў у гімназіях. Разам – 2782 вучняў. Назіраецца выразнае зьмяншэньне колькасьці вучняў на Беласточчыне, якія вывучаюць беларускую мову.

У 1960-х гадох беларускую мову вывучала 10-11 тысяч дзяцей і моладзі. Рэкордная колькасьць была ў 1967/1968 навучальным годзе – 12 504 вучняў. 1970-я гады запісаліся як катастрафічныя для навучаньня беларускае мовы. Школы зь беларускай мовай навучаньня былі замененыя на школы з навучаньнем беларускае мовы як дадатковага прадмета. Колькасьць гадзінаў, прызначаных на гэты прадмет, панізілася з 6 да 4 гадзінаў у тыдзень. Амаль цалкам спынілася падрыхтоўка й друк падручнікаў. У выніку гэтых дзеяньняў колькасьць вучняў, якія вывучалі родную мову, упала да 4068 у 1980/1981 навучальным годзе. Гэта быў вялікі ўдар па беларускай асьвеце ў Польшчы, пасьля якога яна не была ўжо ў стане падняцца да ранейшага ўзроўню.

У 1980-х гадох наступіла далейшае скарачэньне колькасьці дзяцей, якія вывучалі беларускую мову. У 1990/1991 навучальным годзе іх колькасьць складала толькі 3677 дзетак.

Гэтыя дадзеныя апублікаваныя ў працах: Веслава Харужы – Białorusini w Polsce w latach 1945-1990 (Беларусы ў Польшчы ў гадох 1945-1990), Мар'юша Кавальскага – Polacy na Białorusi, Białorusini w Polsce – obraz pogranicza dwóch narodów (Палякі ў Беларусі, беларусы ў Польшчы – вобраз памежжа двух народаў), ды Раённага Аддзелу Адукацыі ў Беластоку – Szkoły i placówki. Szkoły z nauczaniem języków mniejszości narodowych (Школы й пляцоўкі. Школы з навучаньнем моваў нацыянальных меншасьцяў).

Беларуская мова ў Польшчы вывучаецца таксама ў сярэдніх школах. Існуюць два агульнаадукацыйныя ліцэі, у якіх беларуская мова зьяўляецца дадатковым прадметам навучаньня. Гэта II Агульнаадукацыйны Ліцэй зь Беларускай Мовай Навучаньня ім. Браніслава Тарташкевіча ў Бельску Падляскім ды Комплекс Школаў з Дадатковым Навучаньнем Беларускай Мовы ў Гайнаўцы, у якім знаходзіцца ліцэй і гімназія. У ліцэях беларуская мова зьяўляецца абавязковым прадметам навучаньня.

Паводле дадзеных Раённага Аддзелу Асьветы ў Беластоку, у 2002 годзе ў ліцэях беларускай мове вучылася 830 вучняў. Тут не назіраецца зьмяншэньня колькасьці ахвотных вучыцца, утрымліваецца сталая тэндэнцыя. Вялікаму зацікаўленьню ліцэямі сярод моладзі спрыяе высокі ўзровень навучаньня, напр. да 1998 году ў ВНУ паступіла 85,4% выпускнікоў Агульнаадукацыйнага Ліцэя ў Бельску Падляскім. Дарэчы, пра гісторыю абодвух ліцэяў – бельскага й гайнаўскага – можна пазнаёміцца на старонках парталу www.bialorus.pl

Вывучаць беларускую мову можна таксама ў польскіх вучэльнях. Выкладаецца яна на Katedrach Беларускай Філялёгіі ў Варшаўскім Унівэрсытэце, Унівэрсытэце ў Беластоку ды Унівэрсытэце імя Марыі Кіры-Складоўскай у Любліне. Каля 2000 году было спыненае навучаньне беларускае мовы ў Каталіцкім Люблінскім Унівэрсытэце.

Беларусістыку ў Польшчы вывучае каля 270 студэнтаў. Варта заўважыць, што да 1995 году назіраўся рост колькасьці студэнтаў беларусістыкі, а з 1995 году – спад. Меншае зацікаўленьне беларусазнаўствам вынікае з абмежаваньня функцыяў беларускае мовы ў Рэспубліцы Беларусь.

Больш за 90% настаўнікаў беларускай мовы на Падляшшы мае вышэйшую адукацыю. Зьяўляюцца яны ў асноўным выпускнікамі беларускай філялёгіі. Невялікая колькасьць настаўнікаў, якія працавалі ў школах з дадатковым навучаньнем беларускае мовы безь неабходнай філялягічнай адукацыі, закончылі беларусістыку ў 1980-х гадох у Катэдры Беларускай Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту.

Апошнім часам у Польшчы асабліва шмат было зроблена ў справе новых падручнікаў для розных тыпаў школ з дадатковым навучаньнем беларускай мовы. Цягам 14 гадоў выйшла друкам 16 падручнікаў па беларускай мове, што прычынілася да павышэньня якасьці навучаньня. Іх аўтарамі зьяўляюцца навуковыя супрацоўнікі Катэдры Беларсукай Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту ды настаўнікі школаў з дадатковым навучаньнем беларускае мовы. Сярод згаданых 16 падручнікаў 11 прызначаныя для пачатковых школаў, 1 падручнік для гімназіяў, 3 падручнікі для ліцэяў і 1 хрэстаматыя.

Найбольш прадуктыўнай аўтаркай зьяўляецца Тэрэса Ясіньска-Соха з КБФ ВУ, якая апрацавала 8 падручнікаў. Гэта:
- Сябрынка (падручнік для 4 клясы пачатковай школы), Варшава 1998.
- Беларуская мова (падручнік для 5 клясы пачатковай школы), Варшава 2002.
- Крынічка (падручнік для 6 клясы пачатковай школы), Варшава 1999.
- Беларуская мова (падручнік для 6 клясы пачатковай школы), Варшава 2003.
- Моўная хвілінка (сшытак практыкаваньняў для 3 клясы пачатковай школы), Варшава 2000.
- Мова і слова (сшытак практыкаваньняў для 4 клясы пачатковай школы), Варшава 2000.
- Родная мова (падручнік для гімназіі), Варшава 2002.
- Практычная беларуская граматыка для сярэдніх школ, Варшава 2000.

Сярод іншых аўтараў трэба назваць наступныя прозьвішчы:
- Тамара Русачык, Літарынка (падручнік для 2 клясы пачатковай школы), Беласток 1997.
Ларыса Бурыло, Заранachка (падручнік для 3 клясы пачатковай школы), Варшава 1996.
- Люба Раманюк, Ян Чыквін, Крыніцы (падручнік для 7 клясы пачатковай школы), Варшава 1998.
- Надзея Панасюк, Беларуская скарбніца (падручнік для 8 клясы пачатковай школы), Варшава 1994.
- Тамара Русачык, Вольга Сянкевіч, Са словам праз стагоддзе (падручнік для 1 клясы сярэдняй школы), Варшава 2002.
- Ялянта Грыгарук, З васільковых крыніц (падручнік для 2 клясы сярэдняй школы), Варшава 2002.
- Ян Карчэўскі , Сучасная беларуская літаратура (падручнік для 3 клясы сярэдняй школы), Варшава 2003.
- Вольга Сянкевіч, Ялянта Грыгарук, Беларуская літаратура. Хрэстаматыя для школ, Варшава 2002.

Такі імпануючы сьпіс падручнікаў па беларускай мове навучаньня, выдадзеных у Польшчы толькі цягам апошніх 14 гадоў. Да гэтага пераліку трэба дадаць яшчэ падручнікі па гісторыі аўтарства Яўгена Мірановіча й Алега Латышонка, падручнік па беларускай мове Ніны Саевіч з Унівэрсытэту Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне ды вялікую колькасьць навуковых апрацаваньняў, якія паяўляліся й надалей паяўляюцца ў унівэрсытэцкіх асяродках перш за ўсё Беластоку, Варшавы й Любліна.

У Беластоку існуе Цэнтар Адукацыі Настаўнікаў, які вядзе курсы павышэньня кваліфікацыі для настаўнікаў розных прадметаў. У прапанове на 2003/2004 навучальны год знаходзіцца, між іншым курсы з галіны культурнай спадчыны ў рэгіёне пад назовам „Беласточчына – мая Малая Айчына".

Настаўнікі могуць разьлічваць таксама на прафэсійную дапамогу з боку мэтадычнага дарадцы .

Ніна Баршчэўская /Варшава/

*******************************************

# Прыйдзе час...

Прыйдзе час, калі выкладчык геаграфіі або фізікі, уваходзячы ў клас, будзе казаць дзецям не "Здравствуйте", а "Добры дзень"; калі замест шыльдаў з подпісам "Магазин" будзе красавацца надпіс: "Крама"; калі дзяржаўны сцяг нашай краіны будзе нагадваць нам не пра тысячы расстраляных і рэпрэсаваных жыхароў Беларусі, а пра слаўнае і гераічнае мінулае нашай Радзімы.

І прычынай гэтаму ўсяму будуць людзі, – людзі, якія не забылі і не адракліся ад сваёй Бацькаўшчыны; людзі, якія з малаком маці ўвабралі ў сябе любоў да ўсяго беларускага і да Беларусі. Людзі, для якіх "у векавечнай бацькаўшчыне клёны" будуць даражэй за ўсё.

І гэта – не ўтопія, гэта – не мара пра нацыю, якая будзе гаднейшая або вышэйшая за ўсе краіны і народы – не, гэта – вера ў Беларусь. І гэтая вера надта ж нагадвае белы неабсяжны рамонкавы акіян, на якім доўгай і на дзіва роўнай касой чырванеюць макі.

Зямля Беларусі заўжды была багата на людзей, якія ахвяравалі жыццём дзеля Вольнасці, Мовы і Шчасця Бацькаўшчыны. Зараз пра іх пішуць: "Ёсць, дзякуй Богу, і цяпер каму павесці за сабою". А амаль сто гадоў назад Янка Купала пісаў: "Жылі і памiралі на стражы Беларушчыны... Паміралі: палаючы да апошніх скону хвілін вялікай святой ідэяй, і гэтая праца... лепшых беларускіх людзей над падняццем свае роднае культуры не была дарэмнай!" Аналізуючы мінулае, гледзячы наперад, хочацца сказаць толькі адно: "І ўсё ж мы дойдзем да Беларусі".

*******************************************

**НАШУ ГАЗЭТУ ЧЫТАЮЦЬ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЎМЕЮЦЬ І ХОЧУЦЬ ДУМАЦЬ...**

# ПАД ЗНАКАМІ АРЛА Й ПАГОНІ

Беларускі рух стабілізаваўся каля 1908 году, замацаваўшыся ў досыць сьціплых маштабах, калі параўноўваць яго зь іншымі нацыянальнымі рухамі: украінскім, летувіскім альбо латыскім (ня кажучы ўжо пра польскі). Бракавала не актыўных ды інтэлігентных адзінак, але грошай. У культуры нічога не самафінансуецца; патрэбныя датацыі, дапамога багатых. „Нашу Ніву", несумненна, страхаваў сваімі фальварковымі даходамі Аляксандар Уласаў з-пад Радашковічаў, хоць і ад яе экзэмплярнага распродажу ды рэклямы на апошніх старонках быў, відаць, неблагі абарот. Выдавецкая суполка „Загляне сонца і ў нашэ ваконцэ" мела падобнага добрага дзядзьку ў асобе Браніслава Эпімах-Шыпілы, высокаплатнага дацэнта Пецярбурскага Ўнівэрсытэту. Што гэта так было, сьведчыць кароткі лёс наступнай значнай беларускай ініцыятывы, а менавіта, заснаванага напрыканцы таго ж 1908 году кнігавыдавецкага таварыства „Наша Хата" зь сядзібаю ў Вільні. У сьпісе яго фундатараў бачым зусім малавядомыя прозьвішчы: Ігната Даніловіча, Ігната Манькоўскага, Анатоля Бонч-Асмалоўскага, але й Аляксандра Уласава. Фірма праіснавала каля двух гадоў, няшмат зрабіла й ціха збанкрутавала. Пакінула па сабе сякі-такі сьлед, выдаўшы *Другое чытаньне для дзяцей беларусаў* Якуба Коласа, дзеля коштаў друку якога падаслаў крыху рублёў каапэратыў Браніслава Эпімах-Шыпілы (або й ён сам асабіста); затым вядомую ананімную паэму *Тарас на Парнасе*, і, што цікава, пераклад апавяданьня Марыі Канапніцкай *Дым* і Станіслава Віткевіча *Дзядзька голад*. Чытацкая база аказалася вузкай, абмежаванай да самавукаў роднай мовы, пры тым безь лішняе капейкі ў кішэні. Ня надта было на кім зарабіць тады.

Развіцьцё культуры без прафэсійнасьці ў ёй — гэта ўтопія альбо наіўнасьць. Сьледам за літаратураю, публіцыстыкай, навуковай і грамадзкай дзейнасьцю ўсталяваўся й прафэсійны беларускі тэатар. Ягоны стваральнік, Ігнат Буйніцкі, таксама прайшоў праз кола інфлянцкіх цывілізаваных інсьпірацыяў, закончыўшы землямерную вучылішча ў Рызе, адкуль падаўся ў прыватную драматычную студыю ў Вільні. Спачатку хлеб еў з таго, што працаваў каморнікам (трэба сказаць, нават адэкватны занятак дзеля назіраньняў за людзкімі тыпамі). У 1907 годзе ў сваёй мясцовасьці Палівачы, што на Глыбоччыне, арганізаваў аматарскі гурток, на падставе якога ў 1910 годзе было апавешчана ўтварэньне першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага. Падтрымліваў ён гэты тэатар уласнымі сродкамі — сьцьвярджаюць знаўцы эпохі. Праграма была мяшаная: песьні, танцы, сцэнкі, але выступалі й поўныя спэктаклі, напрыклад, *У зімовы вечар* паводле Элізы Ажэшкі. З чужаземнай клясыкі — быў пастаўлены твор Антона Чэхава *Сватаньне*. Вядома, захапляючых амбіцыяў не магло быць у гэтага гурта, бо жыў ён з вандраваньняў па Беларусі. Выконваў адначасна мэсіянскую ролю будзіцеля нацыі. Шмат хто, у іх ліку й сам нэстар, прайшлі перш польскую драматычную школу, бывалі акторамі польскае сцэны.

Беларускае адраджэньне анімавалі асобы зь незвычайным характарам ды непраўдападобнай актыўнасьцю ў самых розных напрамках. Свайго роду маляўнічай постацьцю зьяўляецца Алесь Бурбіс, пасьлейшы намесьнік міністра замежных спраў Беларускай ССР. Гэты віленчук амаль ад нараджэньня займаўся беларускай дзейнасьцю: у васемнаццацігадовым узросьце стаяў у цэнтры арганізацыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады; неўзабаве быў зьняволены й пасаджаны ў вязьніцу; пасьля прыняў удзел у тэатры Буйніцкага ды ў Беларускім Музычна-Драматычным гуртку ў Вільні як актор і рэжысэр, выканаўца драматычных і камэдыйных роляў; перакладаў польскія, расейскія і украінскія п'есы для патрэбаў беларускай сцэны; пісаў працы па эканамічнай геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі, сельскай гаспадарцы, банкаўскай справе. І чым ён толькі не займаўся, а ўсенька выконваў акуратна, не павярхоўна; шмат чытаў і грунтоўна рыхтаваўся да кожнай працы, за якую браўся. Ня дзіва, што ягонае сэрца ня вытрывала, памёр ён у пушкінскіх гадох. Крыўдна й роспачна робіцца на душы ад усьведамленьня таго, што месца такіх людзей займалі розныя філістры, нейкія чалавечыя адпадкі, люмпэнскія фрустраты.

Сусьветная вайна паклала канец нашаніўскай пары. Фронт каціўся на Вільню й пад Менск, у армію мабілізавалася інтэлігенцкая моладзь (бачым на фатаграфіі й Янку Купалу ў афіцэрскай форме). Чамусьці найчасьцей накіроўвалася яна на румынскі фронт, на якім фармаваліся ў рэвалюцыю 1917 году беларускія вайсковыя часьці. Але пакуль да гэтага дайшло, прамінула некалькі вельмі важных беларускай справе гадоў, на якія зьвяртае нашую ўвагу маладзенькі акадэмік Браніслаў Тарашкевіч — у гімназійныя свае часы ўдзельнік польскай незалежніцкай канспірацыі, у якую адкрыў сябе беларусам і — стаўшы вучоным — стварыў *Беларускую граматыку для школ*.

Нямецкае нашэсьце моцна прысьпешыла ход палітычных падзеяў. Беларускае пытаньне нарэшце перастала быць перш за ўсё ўнутрырасейскім. Бэрлінская палітыка імкнулася распарваць дзяржаву Раманавых па этнічных швах. Палякам кайзэр гарантаваў у 1916 годзе каралеўства, а беларусаў зь літоўцамі спадцішка падбівалі адтуль да ідэі аднаўленьня даўняга Вялікага Княства. Галоўная ўступка была зроблена ім аднак ня ў сфэры тайнае дыпляматыі, якая была яшчэ віламі па вадзе пісана, але ў дапушчэньні да арганізацыі асьветы ў вёсках і мястэчках; беларускае слова было ўведзена ў мясцовую адміністрацыю нараўні з польскім і нямецкім, фінансаваліся некаторыя культурныя й грамадзка-палітычныя акцыі, газэтныя выданьні, што выклікала пазытыўны шок у супастаўленьні з адносінамі царскага рэжыму. Вядома, немцы мелі ў гэтым уласны разьлік, але гэта Нямеччына, а не Расея, палічыла патрэбным і важным займець на свой бок сымпатыю беларусаў. Надышоў той унікальны гістарычны момант, у які ўзьнік шанец паставіць пытаньне аб утварэньні прынамсі нейкай формы беларускай дзяржаўнасьці. Але, калі славутую лязанскую мэморыю рэдагаваў Браніслаў Эпімах-Шыпіла — чалавек культуры, а не палітыкі — то адразу ясна, што палітыкаў Беларусь ня мела; яны аб'явіліся толькі ў 1918 годзе — запозьненыя ды няўмелыя. Награшыла ў гэтым Беларуская Сацыялістычная Грамада, якая была наскрозь пранізаная культурніцтвам, будаваньнем нацыі, але не была падрыхтаваная да міжнароднага партнэрства.

* * *

У 1912 годзе мела месца агромністая засуха. Астролягі ня вельмі памыліліся ў той раз, прарочачы голад і вайну. Хлеб, што праўда, быў, хоць і падаражэлы, але стыхійная бяда выклікала ў Беларусі й суседніх краінах тэндэнцыю да эміграцыі. Малазямельныя гаспадарнікі рушылі ў Сыбір, дзе сталыпінская рэформа стварыла ім спрыяльныя ўмовы, перш за ўсё падатковыя ды інвэстыцыйныя. У эканамічным сэнсе гэта трэба ацэньваць пазытыўна: узьнікла магчымасьць паменшыць, альбо й запыніць, працэс раздробленасьці вёскі. Быў дзеля гэтага някепскі прыклад з Жамойці, адкуль дзесяцігодзьдзем раней вывандравала ў Амэрыку амаль трэцяя частка сялянскай галоты, якая потым нярэдка вярталася назад з сякім-такім капіталам, ажыўляючы вытворчасьць. На ўрадлівых заходнесыбірскіх пустэчах і ў Забайкальлі асела амаль мільён беларусаў. І калі б не вайна ды пасьлейшае зьнішчэньне Расеі бальшавікамі, тая беларуская каланізацыя, несумненна, адыграла б сваю збаўленчую ролю ў дачыненьнях з Бацькаўшчынай. Цікава тут адзначыць, што „Наша Ніва" й іншыя часопісы мелі ўжо падпісчыкаў за Уралам, як і, дарэчы, крыху каля Нью-Ёрку ды ў Чыкага.

Адступаючы, расейская армія ўлетку 1915 году арганізавала гэтак званае бежанства, гэта значыць, уцёкі разам зь ёю пераважна праваслаўнага насельніцтва, каб нямецкія сілы ня мела істотнай апоры на месцы. Маскоўскім прапагандыстам акцыя ў значнай меры закончылася ўдачаю, што давяло пасьля заходнія тэрыторыі Беларусі да гаспадарчага краху. Беларускую дзейнасьць з традыцыйным ёй віленскім цэнтрам фронт абмежаваў на практыцы да Гарадзеншчыны й сярэдняй паласы Віленшчыны. Натуральна, не магла яна быць так імпульсыўнай, як да вайны, але, што галоўнае, зьмянілася, і то моцна, ейны характар, а менавіта, абмежавалася да рыма-каталіцкага этнасу, што відаць па тагачасных выданьнях, друкаваных амаль выключна лацінкаю (напрыклад, часопіс „Гоман"). Тыя акалічнасьці — нядаўна пашыраная эміграцыя на сыбірскую волю й масавае „бежанства" — паслабілі дэмаграфічны патэнцыял, а затым і матэрыяльны, беларускага арэалу. У руках грамадоўскіх палітыкаў заставалася мала козыраў у кантактах як з армейскім камандаваньнем, гэтак і з бэрлінскімі міністэрствамі. Выхаваныя ў маладосьці, як правіла, у духу польскай культуры, усе без выключэньняў былі меншымі альбо большымі паланафіламі, што неўзабаве скончылася ім цяжкімі расчараваньнямі. Арыентацыя на Польшчу ня мела пад сабою рэальных падставаў, акрамя як маральных спадзяваньняў, што сама яна, вызваляючыся ад царскае няволі, прыйдзе з дапамогай і суверэнітэту Беларусі. Не прыйшла, а зьявілася з войскам, каб анэктаваць.

Што ж здарылася яшчэ да гэтага, што захавалася ў нашай стэрэатыпнай памяці як 1920 год? Трэба прызнаць, што няшмат. Беларускі рух быў вельмі малады, у арганізаванай форме існаваў усяго крыху больш за дзесяць гадоў. Калі ў 1902 годзе распаўсюджвалася ў Пецярбурзе сакрэтная адозва „Да інтэлігенцыі", выпушчаная Беларускай Рэвалюцыйнай партыяй, стан дзеяньняў можна без памылкі палічыць нулявым, а тая партыя ўяўляла сабою гаманлівы студэнцкі гурток, утвораны маладзюсенькім Вацлавам Іваноўскім. „Наша Ніва" праіснавала восем гадоў; іншыя — год, два. Нельга гаварыць пра сфармаваньне беларускай палітычнай думкі й адпаведных ёй арганізацыйных структураў за такі кароткі час, выпаўнены пры тым амаль цалкам культурнаю працаю. Нямецкая адміністрацыя цікавілася занятымі землямі, не адразу зразумеўшы, што яны беларускія; трактавала іх як інтэгральную частку Расеі. Вядомы дзяржаўны дзеяч Нямеччыны Людэндорф пісаў: *„Беларус не лічыўся, палякі забралі яму ягоную нацыянальнасьць, не даючы нічога ўзамен. Восеньню 1915 году хацеў я сарыентавацца ў разьмяшчэньні беларусаў. Спачатку літаральна нідзе ня змог я іх адшукаць. І толькі пасьля выявілася, што гэта цалкам распаўсюджаны народ, аднак, на першы погляд, надта палянізаваны й знаходзіцца на такім нізкім культурным узроўні, што, каб магчыма было аказаць яму нейкую помач, патрэбнае вельмі доўгае ўзьдзеяньне на яго"*. Цывілізацыйнае найперш.

Ваенныя законы — зрэшты, па абодвух бакох лініі акопаў — забаранялі якую-колечы палітычнасьць. Калі палякам уяўлялася гэта ўсяго фармальнай перашкодаю, якую трэба ўмела абысьці, дык у выпадку беларускай арганізатарскай мізэрнасьці — раўнялася прысуду. Архівы не выяўляюць нават дробнага сьледу нейкай патаемшчыны сярод грамадоўцаў, калі ня браць пад увагу іхных пачынаньняў за згоды камэнданцкай цэнзуры. У публікацыях „Гоману" прапагандавалася ідэя ўзнаўленьня Вялікага Княства Літоўскага, што свабодна зьмяшчалася ў рамках дапушчальнага; Бэрлін ня меў намераў далучаць Беларусь, задавальняючыся плянамі ўзьяднаньня сваёй колішняй прыбалтыйскай калёніі разам з Жамойцю ды рэстытуцыяй буфэрнага Польскага Каралеўства, каб забясьпечыць прускую правінцыю ад поўдня. Тая жменька дзеячаў, што засталася ў падняменцкай Вільні: браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Уладзіслаў Талочка, Казімер Салавей, Пётар Сьвятаполк-Мірскі сваю палітычную актыўнасьць фактычна засяроджвалі на складаньні мэмарыялаў для пераконваньня нямецкіх вярхоў адносна сэнсу аднаўленьня таго ж Вялікага Княства. Немцы слухалі, але не сьпяшаліся прызнаваць ім рацыю. За сьпінамі тых шаноўных дзеячаў ня бачылі яны шырэйшых грамадзкіх уплываў, значыць, і іхнай карыснасьці. Рэальная палітычная вартасьць асобаў спраўджвалася ў арганізацыі школаў, якіх — у параўнаньні з многімі сотнямі польскіх — налічвалася нешта пад дзевяноста (у самой Вільні — адна-аднюсенькая!). Акупанты выдалі забарону навучаць па-русску. Ініцыятыву адразу перанялі ксяндзы, забараняючы вернікам пасылаць сваіх дзяцей у беларускія — груба называючы іх такімі ж рускімі. Немцы ня ўмешваліся ў гэтую калатню, якая, дарэчы, аказалася ім карыснай. Захоўвалі нэўтралітэт.

Абуджаная да самастойнасьці Варшава глядзела на Беларусь як на тэрыторыю, на якую будзе пашырана ейная дзяржаўнасьць, сустракаючыся ў сваіх намерах з падтрымкай у маёнтках ды ў насычаных прыхільнасьцю да польскасьці рыма-каталіцкіх асяродзьдзях сялянскіх і плебэйскіх масаў.

Так фіналізавалася беларуска-польскае сужыцьцё на працягу стагодзьдзяў. Праваслаўныя адштурхоўваліся ў абдымкі Масквы.

КАМУНІКАТ

**Сакрат ЯНОВІЧ**

*(працяг будзе)*

## Два мільёны Палякаў у Беларусі?!

Ксёндз прафесар Раман Дзванкоўскі з Каталіцкага Люблінскага універсітэта (КУЛ) даказваў, што ў Беларусі пражывае 2 мільёны católікаў. Звыш 90 працэнтаў з іх гэта палякі. Ксёндз спаслаўся на Аляксандра Лукашэнку, які публічна сказаў, што ў Беларусі каля 14 працэнтаў насельніцтва складаюць вернікі Каталіцкага касцёла. Раней прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч сказаў у Ватыкане рымскаму папу, што выступае ад імя 2 мільёнаў беларускіх католікаў. „Хто ведае лепей чым улады Беларусі", — рытарычна спытаў ксёндз-прафесар. Аднак польскасць на Беларусі апынулася пад вялікай пагрозай, гаварыў вучоны з КУЛ. Ідзе вялікі ціск на беларусізацыю багаслужбы. Ксёндз даваў зразумець, што гэта вынік палітыкі ўлад. Без падтрымкі з боку Польшчы цяжка будзе затрымаць гэтую хвалю, якая вядзе да абмежавання польскасці.

- разгледзець пытанне аб мэтазгоднасці знаходжання на пасадзе старшыні Белтэлерадыёкампаніі А.Р.Сталярова". І гэтак далей.

Кастрычнік 1995 года. Робіцца яшчэ адна спроба біць у званы, пазмагацца за свабоду СМІ. З наступнай канкрэтнай нагоды. Не выйшаў у свет чарговы нумар маладой, але ўжо даволі папулярнай незалежнай "Народнай волі". У заяве, адрасаванай Камісіі па пытаннях галоснасці і сродкаў масавай інфармацыі, галоўны рэдактар газеты, дэпутат Іосіф Сярэдзіч паведаміў: тыражаваць нумар адмовілася друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Яно матывуе скасаванне дагавора распараджэннем начальніка галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта У.Замяталіна і экспертным заключэннем Міністэрства юстыцыі, згодна з якім газета нібыта парушыла Закон аб друку. Вырашаем са старшынёй камісіі Сяргеем Давідовічам правесці ў тэрміновым парадку пасяджэнне і абмеркаваць пытанне. Прымаецца пастанова, дзе зазначаецца, што рэдакцыя газеты "Народная воля" не парушыла закон, што, наадварот, яго парушае так званае галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі, якое ўзяло на сябе функцыі сумна вядомага агітпропа і цэнзара. "У гэтай сувязі Камісія, - гаварылася далей у пастанове, - асуджае як супрацьзаконныя, антыканстытуцыйныя спробы з чыйго б ні было боку ўмешвацца ў дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі і разглядае такія спробы, як замах на гарантаванае законам права грамадзян Рэспублікі Беларусь "бесперашкодна шукаць, атрымліваць, выкарыстоўваць і распаўсюджваць інфармацыю пры дапамозе друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, свабодна выказваць праз іх свае думкі, погляды і перакананні" (артыкул 3 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі"). І яшчэ ў пастанове, прынятай 18 кастрычніка 1995 года, фармулявалася перасцярога: "Сёння, ва ўмовах пераходнага перыяду, палітычных і сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў і ўсталявання дэмакратычных інстытутаў, важную ролю заклікань адыграць менавіта сродкі масавай інфармацыі. Без свабоднага, незалежнага, дэмакратычнага друку краіна не зможа стаць свабоднай, незалежнай, дэмакратычнай дзяржавай".

Вось такія яны, некаторыя перыпетыі нашага нядаўняга беларускага гістарычнага часу.

Вядома, маюць рацыю тыя, хто (асабліва тагачасныя выбаршчыкі) крытычна ацэньвае некаторыя бакі і вынікі дзейнасці Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання. Маюць падставы для папрокаў у наш адрас. Сапраўды, было шмат адмоўнага. Гэта і неапраўданая эйфарыя, і палітычны інфантылізм, і тое, што на мове класічнай логікі называюць "ad populum" ("да публікі"), гэта значыць падмена разумных аргументаў і абгрунтаваных доказаў эмацыянальным уздзеяннем на людзей, ігрой на іх пачуццях. Што і не дзіўна, калі мець на ўвазе асаблівасці моманту: мяняўся не толькі накірунак плыні, але і само рэчышча. Ды, з другога боку, - як бачым, як сведчаць стаўшыя архіўнымі матэрыялымі дакументы, - давалі пра сябе ведаць і адказнае, цвярозае ўсведамленне, і спробы адэкватна ацэньваць сітуацыю, і трывожныя звароты-папярэджанні, пастановы-перасцярогі. Іншая справа - наколькі ўсе гэтыя захады былі дзейснымі, выніковымі, якую рэальную карысць справе давалі. Але гэта ўжо "калі б" ды "каб", той самы ўмоўны лад, які не прызнае гісторыя...

Кастрычнік 1990 -лістапад 2003 гг.

# Дзьве даты

В. Тарас, «Радые Рацыя»

*Дзьве гэтыя даты стаяць у календары амаль побач – 9 красавіка 1989-га і 12 красавіка 1995-га. 15 гадоў назад лекар хуткай дапамогі з Рыгі падняўся на трыбуну першага з'езду народных дэпутатаў СССР нібыта для заўвагі па рэглямэнце і прапанаваў ушанаваць памяць загiблых у Тбілісі ад рук савецкіх салдатаў. Дзевяць гадоў таму дэпутаты ад апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі былі гвалтоўна выкінутыя спэцназам з залы паседжаньняў, дзе яны праводзілі галадоўку пратэсту.*

Непасрэднай сувязі паміж гэтымі зусім рознымі падзеямі, безумоўна няма. Але абедзьве яны, кожная для свайго часу, сталі прыкметай таго новага, нечаканага, нават лёсавызначальнага, што нараджалася ў грамадстве на зломе эпохаў. Толькі ў адным выпадку гэтае новае несла пазытыўны зарад, а ў другім... Дзень касманаўтыкі ў Беларусі цяпер выклікае асацыяцыю пераважна з "касманаўтамі" у чорнай вопарацы і ў масках, якія зьбівалі й выносілі дэпутатаў з будынку парлямэнту. Відэастужка, на якой зафіксаваны акт беззаконьня, пакуль што ляжыць у невядомым архіве, чакае свайго часу.

Форум такога маштабу як Першы з'езд народных дэпутатаў упершыню трансьляваўся наўпрост на ўвесь СССР. Дзякуючы гэтаму, усе даведаліся ў падрабязнасьцях пра злачынства ў Тбілісі, дзе супраць удзельнікаў мірнай маніфэстацыі, сярод якіх былі дзеці й цяжарныя жанчыны, былі ўжытыя сапёрныя рыдлёўкі. Калі дэпутат Таптуноў з Латвіі прапанаваў ушанаваць памяць ахвяраў – адбылося невераготнае. Пасьля кароткага замяшаньня зала ўстала. Атрымалася так, што даніну памяці загiблым аддалі і інтэлігэнты, дзеячы культуры, якіх нямала было сярод тагачасных народных дэпутатаў, і партыйныя бонзы ўсіх узроўняў, улучна з Гарбачовым, гэнэралы Савецкай Арміі, міліцыі ды КГБ. Зараз у гэта цяжка паверыць, але сярод тых, хто прадстаўляў тады ў крамлёўскае зале Беларусь, былі й Алесь Адамовіч з Васілём Быкавым (ад грамадскіх арганізацыяў), быў і тагачасны першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў, і малады дэпутат-адмандатнік Аляксандар Дабравольскі, і шмат хто яшчэ чыіх імёнаў зараз ня ўспомніць.

Ня меней цяжка было б уявіць сёньня уаднае залі побач з лепшымі людзьмі нацыі, да якіх належалі Быкаў з Адамовічам, цяперашняе кіраўніцтва Беларусі. Гэтыя новыя кіраўнікі хутчэй за астатніх скінулі з сябе здранцвеньне, якое ахапіла прыканцы 80-х – на пачатку 90-х камуністычныя ўлады ды ўсё тагачаснае начальства, і ўзяліся аднаўляць мінулае. Гібель імпэрыі, якая пачалася з падзеяў у Курапатах, Баку й Тбілісі аказалася немінучай. А вось перамога дэмакратыі была ўяўнай. Першы прэзыдэнт незалежнай Беларусі, аднак, адрынуў ня толькі дэмакратычныя прынцыпы. Спусьціўшы спэцназ (праўда, тады ён дзейнічаў яшчэ асьцярожна, у начы) на дэпутатаў, кіраўнік дзяржавы канчаткова разбурыў веру абывателя ў старыя савецкія інстытуцыі – у Вярхоўны Савет, напрыклад, у дэпутацкую недатыкальнасьць ды іншыя савецкія прывілеі ды забабоны. А заадно разбурыў і ілюзіі апазыцыі наконт прыроды новай улады. Так, новы кіраўнік адразу ж пачаў ствараць сваю намэнклятурную сыстэму – вертыкаль улады і такія прывілеі для яе, якія нават ня сьніліся 15 гадоў таму самым высокапастаўленым дэлегам першага з'езду народных дэпутатаў СССР. Але ж гэта, як кажуць, ужо зусім іншая гісторыя.

****************************************

# «Візітная картка Беларусі» ў 9 тамах

Вікторыя **ЦЕЛЯШУК** /З-да/

Мала хто ведае, што напрыканцы красавіка адзначаецца Сусветны дзень кнігі і аўтарскага права. Між іншым, менавіта да гэтай даты выдавецтва «Мастацкая літаратура» прымеркавала нядаўнюю прэзентацыю Збору твораў Янкі Купалы ў 9 тамах і 10 кнігах. Падкрэслю — Поўнага збору. Гэта важная акалічнасць.

Справа ў тым, што — не паверыце! — «поўны» Купала выдаецца ў нашай рэспубліцы ўпершыню. Дагэтуль падобны гонар мелі толькі творы іншага беларускага класіка — Максіма Багдановіча (але ж мы са школьных гадоў памятаем, наколькі невялікую, на жаль, творчую спадчыну паэт пакінуў нашчадкам). Далей у чарзе на «поўнага» стаіць, хутчэй за ўсё, Якуб Колас.

«Я лічу, што нарэшце завершана вельмі значная і патрэбная справа, — адзначыў падчас прэзентацыі дырэктар Інстытута літаратуры (які, дарэчы, носіць імя Я.Купалы) НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў. — Бо Купала — гэта тая візітная картка, па якой беларускую нацыю пазнаюць у свеце. Як рускія шануюць Пушкіна, украінцы — Шаўчэнку, так мы ганарымся Купалам... Запозненны рамантык, ён аб'яднаў у сваёй індывідуальнасці і вытанчанае XIX, і мадэрністкае XX стагоддзі. Не трэба думаць, што творчасць Купалы такая простая («Я мужык-беларус, пан сахі і касы») — яна надзвычай глыбокая, касмічная нават, поўная асаблівай энергетыкі...».

Падрыхтоўка да выдання поўнага збору Купалы пачалася яшчэ ў васьмідзесятыя гады, і можна смела сказаць, што ў пошуку, рэдагаванні, навуковым каментаванні твораў прыняло ўдзел не адно пакаленне беларускіх літаратуразнаўцаў. Першы том Збору выйшаў у 1995 годзе тыражом 6000 асобнікаў, другая кніга дзевятага тома — у мінулым годзе, тыражом 5800 асобнікаў. Розніца ў тыражы тлумачыцца лёгка: у першыя тамы ўвайшлі мастацкія, папулярныя сярод шырокай аўдыторыі творы, апошнія ж кнігі сабралі дакументы і перапіску, цікавую больш вузкаму колу спецыялістаў.

«Упершыню пры складанні гэтага Збору мы адмовіліся ад падзелу спадчыны Янкі Купалы на да- і паслярэвалюцыйны перыяд, — расказвае намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп. — За аснову ўзялі жанравахраналагічны падзел. Упершыню ж асобна надрукавалі розныя рэдакцыі твораў, выправілі ранейшыя друкарскія памылкі і недакладнасці».

Дарэчы, спачатку супрацоўнікі выдавецтва меркавалі, што кніг у Зборы будзе ўсяго дзевяць. Аднак, пакуль збіралі крупінкі інфармацыі з разнастайных архіваў і дакументаў Інстытута літаратуры, зрабілі нечаканае мноства цікавых адкрыццяў — давялося выдаваць апошні том у дзвюх кнігах. Так, напрыклад, сюды ўвайшлі перапіска і нават звесткі з запісных кніжак паэта, службовыя дакументы і дароўныя надпісы Купалы. Амаль выпадкова высветлілася, што паэтычныя творы ў «Ідыліі» Дуніна-Марцінкевіча належаць пяру Купалы — іх таксама змясцілі ў Зборы. «Мы пастараліся таксама адшукаць цікавыя, раней нідзе не надрукаваныя фотаздымкі, — паведаміла рэдактар выдавецтва Наталля Семашкевіч. — Думаю, што такі Купала, якім ён прадстаўлены ў гэтых дзевяці тамах, будзе цікавы кожнаму чытачу».

Дарэчы, каштуюць апошнія тамы з Поўнага збору твораў Купалы па сённяшнім часе нядорага: прыкладна 4 тысячы рублёў. І набыць іх (пакуль што) свабодна можна ў кніжных магазінах...

****************************************



# Літва пад далоньню Расеі

**Пасьля імпічмэнту прэзыдэнта Раландаса Паксаса ў літоўскіх палітычных элітаў па-ранейшаму пануе трывога. На думку многіх палітолягаў, адбітая асобная атака, але пагроза ўплыву Крамля на палітычны і асабліва эканамічны курс краіны па-ранейшаму рэальная. Новы пострах літоўскае палітыкі — Віктар Успаскіх, расеец зь літоўскім грамадзянствам, мільянэр, лідэр папулісцкай Партыі працы, які абяцае адстойваць інтарэсы «працоўных масаў». Партыя была створаная паўгоду таму, але ўжо цяпер налічвае ў сваіх шэрагах 7 тысячаў сяброў і карыстаецца падтрымкай 25% насельніцтва.**

«Вялікая частка грамадства і цяпер яшчэ марыць пра новага мэсію, які накорміць і адзене. А гэта значыць, што Літве, якая толькі што мела справу з плянам А, створаным у лябірынтах маскоўскай выведкі, адразу давядзецца сутыкнуцца і з плянам Б — Віктарам Успаскіх», — піша Рымвідас Валатка, уплывовы камэнтатар найбуйнейшай газэты «Lietuvos Rytas». Ні ў кога няма сумневаў, што менавіта Ўспаскіх атрымаў найбольшыя дывідэнды ад «паксасгейту».

На Паксаса забыліся. Раней хваляваліся, як бы перакрыць гэтаму лётчыку-авантурысту дарогу да паўторнага ўдзелу ў прэзыдэнцкіх выбарах. Плянавалася прыцягнуць Паксаса да крымінальнай адказнасьці за раскрыцьцё дзяржаўнай таямніцы, што зрабіла б яго паўторнае балятаваньне на выбарах немагчымым. Аднак цяпер пракуратура не выстаўляе яму ніякіх абвінавачаньняў. Хоча толькі заслухаць яго як сьведку ў справе ўцечак сакрэтнай інфармацыі ў СМІ падчас ягонага кіраваньня. «Кіраўніцтву бракуе палітычнай волі, каб пасадзіць Паксаса за краты. Пракуроры чакаюць больш выразных знакаў», — кажуць літоўскія журналісты.

Віктар Успаскіх зрабіўся для літоўскага істэблішмэнту ворагам нумар адзін. Палітычныя эліты лічаць, што цяпер Паксас не такі небясьпечны, як Успаскіх.

**«Успаскіх ex machina»**

Успаскіх прыехаў у Літву ў сярэдзіне 80-х і працаваў зваршчыкам на будаўніцтве літоўскага адрэзку газаправоду да партоў Балтыкі. Пасьля аддзяленьня Літвы ад СССР на гандлі паміж Літвой і Расеяй ён зарабіў свае першыя вялікія грошы. Потым, дзякуючы старым знаёмствам, увайшоў у ласку шэфаў «Газпраму», зрабіўся адным з галоўных пасярэднікаў — прадаўцоў расейскага газу ў Літве і зарабіў на гэтым мільёны. Сёньня свой капітал Успаскіх ацэньвае прыблізна ў 70 млн даляраў.

Калі ў 2000 г. яго выбралі ў Сойм, ён прадаў акцыі кампаній, якія гандлююць газам, і абвясьціў, што з гэтага часу ня мае нічога супольнага з «Газпрамам». Сёньня Ўспаскіх ужо нават ня хоча размаўляць па-расейску, толькі па-літоўску, але гадзіньнік на ягоным пісьмовым стале ўсё яшчэ паказвае маскоўскі, а ня віленскі час.

Што прапануе Ўспаскіх выбаршчыкам? «Усё, чаго яны пажадаюць, — лічыць Андрус Бачыуліс, камэнтатар тыднёвіка «Vendas». — Ён кляне Сойм, урад і іншыя дзяржаўныя інстытуты. Тлумачыць, што за 14 гадоў незалежнасьці ў Літве практычна нічога добрага не было зроблена, і абяцае людзям, што, прыйшоўшы да ўлады, адразу расправіцца з карупцыяй (пры гэтым заменіць тысячу найважнейшых чыноўнікаў), павялічыць пэнсіі (сродкі, мяўляў, ёсьць, толькі трэба іх інача падзяліць), створыць высокааплатныя працоўныя месцы (пара пакончыць зь дзікім капіталізмам!)».

На нядаўнім зьезьдзе сваёй партыі абвясьціў, што праз 1111 дзён пасьля выбараў, якія ён выйграе, у Літве запануе проста рай. І выбаршчыкі ўсё больш і больш яму вераць. І ня толькі расчараваныя пераменамі прыхільнікі зьнятага Паксаса, але — як паказваюць сацыялягічныя апытаньні — таксама прыхільнікі левых і цэнтрыстаў. Цяпер Партыя працы перагнала ўсе астатнія палітычныя сілы і карыстаецца амаль 25-працэнтнай падтрымкай насельніцтва. Другая па папулярнасьці сацыял-дэмакратычная партыя ня мае і 15%. І гэта нават не паварушыўшы пальцам! (Так напісалі біскупы Касьцёлу ў спэцыяльнай душпастырскай адозьве, у якой яны перасьцерагаюць вернікаў перад Успаскіх і ягонай партыяй ды заклікаюць не галасаваць за яе. Успаскіх пабойваецца і вялікая частка інтэлектуалаў). /Наша Ніва/

************************************

# Мінкульт забараніў паказ у Беларусі фільма пра Быкава

**Дзяржаўны рэгістар кінавідэафільмаў Міністэрства культуры адмовіў незалежнай студыі "Тацяна" ў выдачы пракатнага пасьведчання на паказ дакумэнтальнага фільма пра жыццё і творчасць Васіля Быкава "Доўгая дарога дадому... Рэквіем". Міністэрскія чыноўнікі, забараняючы паказ кінафільма на тэрыторыі Беларусі, спасылаюцца на тое, што кінастужка нібыта можа адмоўна паўплываць "на маральна-этычныя асновы жыцця беларускага народу".**

Аднак аўтары і галоўныя героі фільма перакананыя, што сапраўднай прычынай ёсьць страх перад вышэйшымі ўладамі Беларусі, якія нэгатыўна ставяцца да Васіля Быкава.

"Доўгая дарога дадому... Рэквіем" — распачынаецца з паказу выявы вялікага драўлянага крыжа з расьпяцьцем Ісуса Хрыста. Гэтыя кадры зьмяняе кінахроніка Другой

усясьветнай вайны: нямецкая свастыка, калёны тэхнікі й войскаў на чале з Гітлерам — даюць адчуваньне бязьлітаснай фашыстоўскай навалы, зь якой праз усю вайну са зброяй у руках змагаўся Васіль Быкаў. Затым паказана тэлефонная трубка на працоўным стале пісьменьніка, адкуль гучыць расейскамоўная пагроза: "Як доўга вы, таварыш Быкаў, зьбіраецеся ачарняць савецкую ўладу?"

А далей пра нялёгкі жыцьцёвы й творчы шлях пісьменьніка выказваюцца ягоныя блізкія сябры і паплечнікі: Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі ды іншыя. Менавіта кадры кінахронікі з выяваю Гітлера, якія ніяк не камэнтуюцца, нібыта і сталіся галоўнаю прычынаю забароны на паказ фільма. Пра гэта ў інтэрвію Радыё Свабода паведаміў кіраўнік Дзяржрэгістру Юры Цьвяткоў: "Многія эпізоды фільма не выклікаюць ніякіх пытаньняў, але ёсьць, якія з гледзішча маральна-этычнага пра франтавіка ня самыя лепшыя. Да прыкладу, калі ў пралёгу мантуюцца кадры Гітлера з усьмешкай — ну, давайце паглядзім на творчасьць Васіля Быкава: нідзе ён з добрай адзнакай не гаварыў пра гэтую пэрсону. Гэта ўвасабленьне фашызму: не Італія, не Мусаліні, а менавіта Гітлер. І калі фільм пачынаецца з гэтых кадраў, ну й шэраг нейкіх дробязяў — я бы сказаў".

Паводле спадара Цьвяткова, акрамя Дзяржрэгістру, рашэньне пра забарону прымалі яшчэ дзьве камісіі — рэспубліканская экспэртная і клясыфікацыйная, што здараецца толькі ў асобных выпадках. Таксама адметна, што чыноўнікі ацэньвалі фільм з улікам інструкцыі аб паўнамоцтвах Дзяржрэгістру, якой афіцыйна яшчэ не існуе. Пракамэнтаваць фармулёўку, што, нібыта, кінастужка "можа мець адмоўны ўплыў на маральна-этычныя асновы жыцьця беларускага народу", я папрасіла адначго з героях кінастужкі, пісьменьніка Валянціна Тараса: "Гэта абсурдна — патрабаваць ад 26-хвіліннай стужкі, каб яна адлюстравала ўвесь ход Вялікай Айчыннай вайны, дала ацэнку Гітлеру, дала ацэнку творчасьці Васіля Быкава — гэта і невуцтва, і неправамерна. Вы пакажыце фільм гледачу, вы што думаеце — людзі самі ня здольныя зрабіць нейкую выснову, даць ацэнку фільму? Абсалютна перакананы. Што сапраўдная прычына ў тым. што яны не прымаюць Быкава як грамадзяніна, як пісьменьніка, як чалавека пэўнай пазыцыі".

Адна з аўтараў фільму, рэжысэрка Ірына Пісьменная гэтаксама перакананая, што сапраўднай прычынай забароны ёсьць страх міністэрскіх чыноўнікаў перад вышэйшымі ўладамі, якія да Васіля Быкава ставяцца варожа нават пасьля ягонай сьмерці: "За Быкавым стаялі людзі, якія былі няўгодныя гэтай уладзе. Таму на ўсялякі выпадак, лепей не пусьціць фільм пра Быкава, чым пусьціць, а потым трымаць за гэта нейкую адказнасьць. Ведаеце, напісаць такія словы, што гэта можа нашкодзіць народу — гэткае можна прыдумаць толькі ў момант жудаснага страху".

Як паведаміла Ірына Пісьменная, фільм "Доўгая дарога дадому... Рэквіем" рыхтуецца да паказу на расейскім тэлеканале ТВЦ, а яе нямецкія калегі цяпер спрабуюць высьветліць, чаму прэм'ера адбудзецца ня ў Менску, а ў Маскве.

**Галіна АБАКУНЧЫК**, *"Радыё Свабода"*

*****************************************************

## Лукашэнка мог «праляцець» раней Паксаса

Наталля Гак, «Народная воля»

*"Літоўскі парламент упершыню ў еўрапейскай гісторыі зняў з пасады прэзідэнта, які парушаў закон. Чаму Вы не здолелі зрабіць тое ж самае ў лістападзе 1996 года?", -- з такім пытаннем мы звярнуліся да некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія амаль восем гадоў таму ініцыіравалі імпічмент прэзідэнту Лукашэнку.*

Людміла ГРАЗНОВА:

-- Нам не ўдалося зрабіць гэта па дзвюх прычынах: унутранай і знешняй. Справа не толькі ў тым, што некаторыя з Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда спужаліся і не давялі запланаванае да канца. А справа ў тым, што народ у той час не быў гатовы да такіх радыкальных дэмакратычных дзеянняў па выкананні Канстытуцыі. Ён усё яшчэ спадзяваўся на адзіную думку чалавека, які выконваў прэзідэнцкія функцыі. Знешні фактар адыграў, натуральна, вельмі важную ролю ў тых умовах, у адрозненне ад сённяшняй Літвы, Расія не згадзілася б з такім развіццём падзей у 1996-м, і яна ўсё зрабіла для таго, каб захаваць Лукашэнку пры ўладзе.

Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

-- Галоўныя прычыны няўдачы імпічменту-96 -- здрада Валерыя Гур`евіча Ціхіні, які фактычна "заложил" 76 дэпутатаў, што падпісалі імпічмент, а таксама абмежаванасць розуму Сямёна Шарэцкага, які падпісаў незаконную дамову з Чарнамырдзіным, Строевым і Селязнёвым. У Літве зараз высокі ўзровень кваліфікацыі палітыкаў, яны дзейнічаюць па законе, у адпаведнасці са сваёй Канстытуцыяй і сваімі перакананнямі.

Андрэй КЛІМАЎ:

-- Літоўскі сцэнарый у нас тады не прайшоў, папершае, таму, што мы занадта рускія, мы яшчэ ў часы знаходжання ў складзе Савецкага Саюза ідэнтыфікавалі сябе як рускіх. І таму любая дапамога ад "старэйшага брата" ўспрымалася не толькі як дапамога, а як кіраўніцтва да дзеянняў. Цяжка сабе ўявіць сітуацыю, каб зараз Фрадкоў з Міронавым прыехалі ў Літву і паспрабавалі "ўрэгуляваць" сітуацыю з імпічментам прэзідэнту...

Па-другое, гэта была здрада старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, які падпісаў дамову, а фактычна -- акт капітуляцыі, не прадугледжаны Канстытуцыяй. Яшчэ да роспуску Вярхоўнага Савета Лукашэнкам менавіта Шарэцкі сваім подпісам яго распусціў. Гэта была і здрада старшыні Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіні, які ў парушэнне працэдуры, перавышая свае паўнамоцтвы, прыпыніў разбіральніцтва справы аб імпічменце Лукашэнку.

У гэтай сітуацыі нельга абвінавачваць ні народ, які сабраўся бараніць Вярхоўны Савет, ні дэпутатаў, якія паставілі свае подпісы пад імпічментам. Былі, канешне, тыя, хто зняў свой подпіс: гэта Уладзімір Навасяд, цяпер дэпутат ППНС, і Генадзь Грушавы, які зараз у Польшчы. Іх дзеянні я не расцэньваў бы як здраду, гэта хутчэй маладушша і боязь, кагосьці купілі...

Зараз, калі з намі няма Ганчара, Захаранкі, Карпенкі, Завадскага і Красоўскага, я прыходжу да высновы, што тады, у 1996 годзе, нам трэба было быць больш мэтанакіраванымі -- трэба было далучаць верных Канстытуцыі афіцэраў МУС і арміі, прыцягваць да адказнасці ва ўстаноўленым парадку за парушэнні Канстытуцыі Ярмошыну разам з Лукашэнкам.

Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:

-- У 1996 годзе Беларусь была аўтарытарнай дзяржавай, а Літва 2004 года -- гэта прававая, дэмакратычная дзяржава, дзе працуе закон.

Валерый ШЧУКІН:

-- У беларусаў і літоўцаў розны менталітэт. Калі літоўцы аддаюць перавагу свабоднаму жыццю, то большасць беларусаў гатовы поўзаць на каленях. Акрамя таго, літоўцы заўсёды дрэнна ставіліся да рускіх -- я гэта на ўласнай скуры не раз адчуваў. А Паксаса злавілі на сумніўных пагадненнях з рускімі, вось яму і адгукнулася. Паколькі нашы народы розныя, то і дэпутаты розныя. Літоўскія дэпутаты не баяліся выказваць свае думкі, а некаторыя нашы, як толькі ім прыгразілі, адразу ж, прабачце, здрэйфілі.

*****************************************************

Захар ШЫБЕКА:

## "Веданне гісторыі -гэта сапраўдны капітал"

Беларускі ПЕН-цэнтр уручыў прэмію імя Францішка Багушэвіча аўтару "Нарыса гісторыі Беларусі. 1795-2002" доктару гістарычных навук, прафесару Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта Захару ШЫБЕКУ.

Трэба адзначыць, што сёлета ў спісе лаўрэатаў было толькі адно імя, і камісія адзінагалосна прыняла рашэнне аб уручэнні ганаровага дыплома і медаля сапраўднаму прадстаўніку Адраджэння.

Тыя, хто браў слова і віншаваў аўтара, шчыра дзякавалі яму за працу. Кніга Шыбекі з'явілася першай несавецкай працай такога кшталту. У рэкламе выданне не мае патрэбы, бо ўвесь тыраж разышоўся імгненна.

Сам Захар Шыбека, выказаўшы ўсім падзяку, крыху распавёў пра шлях да гэтай прэміі. Як высветлілася, сваёй найбольш удалай кнігай ён лічыў зусім не "Нарыс гісторыі Беларусі. 1795-2002", а "Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада".

"У "Нарысе гісторыі" я першым сказаў нешта новае аб пасляваенным часе. Кніга не савецкая, але і не антысавецкая. Я стараўся памяркоўна асэнсаваць факты. Каб нікому не стала брыдка", - сказаў Захар Шыбека.

Пасля завяршэння афіцыйнай часткі вакол лаўрэата самкнулася шчыльнае кола жадаючых павіншаваць аўтара ці ўзяць аўтограф. І ўсё ж карэспандэнту "Народнай волі" давялося дачакацца доктара гістарычных навук і задаць яму некалькі пытанняў.

- Захар Валянцінавіч, Вы сёння атрымалі столькі віншаванняў з нагоды выхада кнігі!.. Цікава, а наколькі важная для Вас сама прэмія?

- Трэба адзначыць, што гэта не першая мая прэмія. За "Нарыс гісторыі Беларусі. 1795-2002" я ўжо маю прэмію польскага часопіса "Пшэглёнд Всходні". Гэта кніга раней выйшла на польскай мове і перамагла ў намінацыі "Даследаванні замежных гісторыкаў". Але калі атрымліваеш падзяку на сваёй радзіме, ад вядомых пісьменнікаў, ад інтэлігенцыі, вартасць гэтай прэміі, натуральна, узрастае ў некалькі разоў. Таксама сімвалічна тое, што я атрымаў прэмію 25 сакавіка - у дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Такая абстрактная падзея для мяне як гісторыка ператварылася ў падзею асабістую. А гэта ўручэнне яшчэ больш прывязала мяне да традыцый БНР...

- На Ваш погляд, чаму на гэтую прэмію была прадстаўлена толькі адна праца?

- Гэта залежала ад арганізатараў. Але я хацеў бы сказаць, што апошнім часам з'явілася вельмі шмат даследаванняў па гісторыі Беларусі. Напэўна, мая кніга мае перавагу над іншымі толькі ў тым, што ў ёй упершыню ў такім абагульняючым выглядзе асэнсоўваецца гісторыя Беларусі.

На жаль, беларусы слаба ведаюць сваю гісторыю. А веданне гісторыі - гэта сапраўдны капітал. І сёння нам трэба пачынаць разумець, вывучаць калекцыю набыткаў сваёй гісторыі, каб не заставацца простымі калекцыянерамі, а быць яшчэ і знаўцамі.

Дар'я ГАЎРЫЛАВА

*****************************************************

## Колькі трэба грошай, каб паехаць у Польшчу

Інтэрфакс

Іншаземцы, якія ўязджаюць на тэрыторыю Польшчы з рознымі мэтамі, з 1 мая павінны мець неабходную колькасць фінансавых сродкаў ці дакументы, якія могуць пацвердзіць іх наяўнасць.

«Іншаземец, які ўязджае на тэрыторыю Польшчы, павінен мець пры сабе фінансавыя сродкі на пакрыццё расходаў на пражыванне, харчаванне, пераезд і выезд з тэрыторыі Польшчы ў памеры 100 злотых на кожны дзень знаходжання, але не менш чым 500 злотых, ці раўназначную суму ў замежнай валюце, калі яму споўнілася 16 гадоў; 50 злотых на кожны дзень знаходжання, але не менш за 300 злотых, калі яму не споўнілася 16 гадоў. Іншаземец, які ўязджае на тэрыторыю Польшчы на тэрмін не больш за 3 дні, павінен мець пры сабе не менш за 300 злотых, калі яму споўнілася 16 гадоў, 150 злотых, калі яму не споўнілася 16 гадоў», — удакладнілі ў пасольстве.

Дакументамі, якія пацвярджаюць наяўнасць у іншаземца фінансавых сродкаў, з'яўляюцца дарожны чэк ці крэдытная картка, даведка аб наяўнасці плацежных сродкаў у польскім банку, выдадзеная не пазней чым за месяц да перасячэння граніцы, арыгінал запрашэння, падрабязны пералік турыстычных паслуг і пацвярджэнне аплаты турыстычнай паслугі.

Іншаземец, які ўязджае на тэрыторыю Польшчы з мэтай навучання, удзелу ў навуковых даследаваннях ці праходжання курсаў, павінен мець пры сабе суму ў памеры 1600 злотых, ці яе эквівалент у замежнай валюце на працягу першых двух месяцаў знаходжання, ці суму ў памеры 300 злотых на кожны дзень знаходжання на працягу месяца.

Іншаземец, які з'яўляецца ўдзельнікам турпаездкі, спартыўнага спаборніцтва, маладзёжнага лагера, які мае аплачанае знаходжанне на тэрыторыі Польшчы ці накіроўваецца ў лячэбна-санаторную ўстанову, павінен мець пры сабе 20 злотых на кожны дзень знаходжання, але менш за 100 злотых, а таксама суму ў памеры 300 злотых на пакрыццё расходаў на лячэнне на кожны дзень знаходжання.

У апошнім выпадку дакументамі, якія пацвярджаюць мэту перасячэння граніцы, з'яўляюцца пацвярджэнне ўдзелу ў маладзёжным лагеры ці спартыўных спаборніцтвах, пацвярджэнне ўнесеных расходаў на пасяленне і харчаванне, накіраванне ў лячэбна-санаторную ўстанову.

*****************************************************

23 красавіка ў Нацыянальнай акадэміі навук падчас выбараў членаў-карэспандэнтаў "пракаціў" кандыдатуру старшыні Канстытуцыйнага Суда Рыгора Васілевіча.

Дагэтуль у Акадэміі навук налічвалася 100 членаў-карэспандэнтаў. Прэзыдыюм акадэміі даў дазвол абраць яшчэ 40 членаў-карэспандэнтаў. Пасьля абвешчаньня конкурсу пачаткова ўдзельнічаць у ім вырашыў і кіраўнік АН, доктар эканамічных навук Міхаіл Мясьнікові́ч. Аднак потым ён зьняў кандыдатуру. Кажуць, ня быў упэўнены, што пройдзе, бо галасаваньне працэдуры таемнае.

А Рыгор Васілевіч вырашыў рызыкнуць і прэтэндаваць на званьне члена-карэспандэнта ў галіне права. Хаця, як кажуць дасьведчаныя асобы ў акадэміі, папярэдні этап выбараў ён прайшоў дзякуючы адміністрацыйнаму рэсурсу. І паплаціўся за фанабэрыстасьць.

-- Спадар Рыгор Васілевіч заўсёды быў дзіўным вучоным, -- пракамэнтаваў правал кіраўніка Канстытуцыйнага суду доктар фізіка-матэматычных навук, намесьнік старшыні Партыі БНФ Юры Хадыка. -- Колькі я яго памятаю, яшчэ зь Вярхоўнага Савету савецкіх часоў ён займаўся выключна абслугоўваньнем улады, праяўлючы ў гэтым зайздросную гнуткасьць. Рэдкі выпадак: я ганаруся складам акадэмікаў нашай Акадэміі, якія адмовіліся прызнаць яго як раўнаpraўнага навукоўца. Як гаворыцца, кесару кесарава, а Богу Божае.

# Што нас чакае пасля пашырэння ЕС?

Леанід ЛАХМАНЕНКА /Звязда/

Сёлета 1 мая 10 новых краін увойдуць у Еўрапейскі саюз. Гэта будзе самае масавае і, бадай, самае істотнае папаўненне ЕС за ўсю гісторыю яго існавання. Колькасць краін — удзельніц ЕС дасягне 25. Асобныя з іх — Польшча, Літва і Латвія стануць з намі суседнічаць ужо ў якасці паўнамоцных членаў ЕС. Для Беларусі гэта ў многім новая сітуацыя. Адносна нядаўна тры вышэйназваныя краіны былі прынятыя ў НАТО. Праз два тыдні іх прымуць у ЕС. І жыць цяпер яны будуць у асноўным па яго пісаных і няпісаных законах і правілах. У тым ліку Польшча, Літва і Латвія будуць вымушаны па-новаму будаваць і адносіны са сваімі бліжэйшымі суседзямі. Гэта значыць і з намі.

Пра відавочныя і верагодныя змены ў адносінах з ЕС і яго новымі членамі ішла размова на прэс-канферэнцыі ў МЗС. Намеснік міністра замежных спраў Аляксандр Міхневіч закрануў розныя аспекты маючага адбыцца пашырэння ЕС, адказаў на шматлікія пытанні, якія датычыліся пераважна адной тэмы: што нас чакае пасля пашырэння ЕС? Якія наступствы гэтага кроку для Беларусі?

Як вынікае з прэс-канферэнцыі, нічога экстраардынарнага не адбудзецца.Так, узнікнуць пэўныя праблемы, але пра іх ніжэй. А пачнём з таго, што А. Міхневіч заявіў літаральна наступнае: мы вітаем працэсы інтэграцыі на Еўрапейскім кантыненце, у тым ліку і працэсы пашырэння ЕС. Ён нясе ў сабе шмат пазітыўнага. У выніку мы зможам больш актыўна карыстацца вопытам краін — удзельніц ЕС.

Аляксандр Юр'евіч таксама адзначыў, што 10 новых краін на працягу 50 гадоў былі нашымі блізкімі саюзнікамі. Там добра ведаюць рускую мову, захаваліся як дзелавыя, так і чалавечыя сувязі з нашай краінай, там падобны з нашым менталітэт. Дадайце сюды і той факт, што ў новых краінах ЕС жыве прыкладна 700 тысяч беларусаў, большасць з якіх падтрымліваюць сувязі з этнічнай радзімай. А гэта важны фактар для ўсталявання добрасуседства, які разам з іншымі фактарамі дазволіць пазбегуць узнікнення новых раздзяляльных ліній на кантыненце.

Паводле слоў намесніка міністра, найбольш грунтоўна ўдалося пралічыць эканамічныя наступствы пашырэння ЕС. На мінімізацыі верагодных праблем былі засяроджаны намаганні МЗС на працягу апошніх паўтара года. І многае было зроблена ў гэтым накірунку. Напрыклад, значна палепшыцца мытны тарыф у гандлі з ЕС, у сярэднім прыкладна ўдвая зменшацца мытныя пошліны для нашых вытворцаў.

Аднак не ўсё можна сёння прадбачыць. Мы ўжо паступова прывыкаем да таго, што Польшча, Літва і Латвія ўвялі візы для беларускіх грамадзян. Напрыклад, пэўныя непрыемнасці для нас прынясе аўтаматычнае пашырэнне антыдэмпінгавых мер да «старога» ЕС на яго навічкоў. Квоты на тэкстыль па-ранейшаму застаюцца вострым пытаннем у адносінах з ЕС, як, дарэчы, і перагаворы аб продажы калійных угнаенняў у былых аб'ёмах на рынкі краін, якія пасля 1 мая ўвойдуць у ЕС.

Разам з тым, сказаў А. Міхневіч, станоўчае сальда гандлю з ЕС, якое сёння складае каля 1 млрд. дол. ЗША, можа павялічыцца ў 2005 годзе на 150—200 млн. дол. А некаторыя віды тавараў атрымаюць больш выгадны экспартны рэжым. Гэта ў першую чаргу трактары, іншая сельгастэхніка, нафтапрадукты, оптыка, хімічная прадукцыя.

Чакаецца, што і беларуская сельгаспрадукцыя таксама будзе карыстацца попытам у краінах ЕС, бо яна экалагічна чыстая і больш натуральная, чым тыя прадукты харчавання, якія выпускаюцца ў Заходняй Еўропе для масавага спажывання.

Але, як прызнаўся намеснік міністра, разам з тым мы яшчэ да канца не можам уявіць і ацаніць усе палітычныя, эканамічныя і іншыя аспекты наступстваў пашырэння ЕС для Беларусі. Толькі канкрэтны вопыт і час дадуць адказы на многія пытанні.

*************************************************

# ДУХОЎНАСЦЬ

ЖЫВЫЯ ЦЕНІ

Чалавек нясе на сабе гонар і грахі ўсяго чалавецтва. Кожны з нас пазначаны адметнасцямі развіцця папярэднікаў. Усё, што было з імі (ды і з намі), пра што думалі, чаго жадалі, не знікае ў прасторы, не рассейваецца бясследна. Энергія, вылучаная ў працэсе дзейнасці (фізічнай працы ці духоўна-інтэлектуальнай творчасці), расплываецца над зямной паверхняй, зблажаецца-групуецца паводле эмацыйнай зараджанасці і ахутвае сучаснікаў (і наступнікаў), працінае іх душы, пабуджае іх да руху, дзеяння...

Гісторыя чалавецтва – гэта гісторыя яго духоўнай культуры. Не гісторыі манархічных дынастый, не час манапольнага ўладарання ў свеце якой-небудзь дзяржавы і нават не форма адносінаў да сродкаў вытворчасці ці вехі ў вынаходніцтве кладуцца ў аснову перыядызацыі грамадства. Жыццё людзей грунтуецца на высакароднай духоўнасці, і таму яе крытэры аб'ектыўна выступаюць мераю вызначэння межаў паступальнага развіцця чалавецтва, яго адметных перыядаў.

Удасканаленне формаў духоўных узаемаадносінаў з'яўляецца найпершай задачай і надзённай патрэбай усіх зямлянаў. Развіццё навукі і тэхнікі дасягнула такой ступені, што далейшыя іх крокі без духоўнага напаўнення прывядуць сучасную цывілізацыю да самазнішчэння. Падзеі, што адбываюцца сёння ў свеце, пераканальна сведчаць пра нетрываласць людской супольнасці, пра магчымасць яе татальнага краху, пра элементарныя непаразуменні, якія з кожным днём памнажаюцца і ў міжнародных, і ва ўнутрысямейных зносінах. Толькі светланосная духоўнасць гартуе і мацуе грамаду, робіць яе дзейнасць стваральнай. Людзі без такой духоўнасці – жывыя цені...

# Нам трэба выжыць...

*Так разумна кажа Ўладзімір Карызна, паэт...*

...Зараз нам моцна не стае духоўнасці, інтэлігентнасці, культуры. Не бачыцца у сённяшнім дні сапраўднага мастацтва. Узгадвае сваю працу на радыё і кажа, што там — адна «папса», яна «хвошча па душы і па сэрцы, і словы песень, якія можа напісаць кожны — як чарвякі, што пажыраюць прыроду».

— Але жывуць, дзякуй Богу, Шамякін, Пташнікаў, якія разумеюць: будзе жыць наша роднае слова — будзем жывыя і мы, будзе жыць народ. Не будзе нашых новых твораў — станем з сябе ж смяяцца... Трэба быць людзьмі, патрыётамі, любіць сваю зямлю, свой край, каб душа заўсёды заставалася маладой і здаровай!

**Укралі Радзіму**

Вельмі перажывае Уладзімір Іванавіч за слова наша беларускае, за далейшы лёс мовы.

— Я не адчуваю так глыбока рускае слова. Беларускае для мяне больш тонкае, далікатнае, эмацыянальная афарбоўка ў яго больш выразная.

Ён нямала пабыў за мяжой, наведаў Вялікабрытанію, Японію, Канаду, ЗША, Бельгію. І паўсюль яго прасілі гаварыць па-беларуску, і паўсюль разумелі, пра што казаў пісьменнік — разумелі, нават не ведаючы мовы, сэрцам, душою, на падсвядомым узроўні. Бо ёсць у словах мелодыка, невымерная энергія, непаўторная інтанацыя, характар. А мы ж, з горыччу заўважае Карызна, «упускаем сваё роднае — ні на тэлебачанні, ні на радыё амаль не чуваць беларускай мовы».

Усё дарагое нам спалілі,
як Хірасіму.
Сярод чужынцаў
мне месца адведзена,
як пілігрыму.
Укралі Радзіму!

— Мы ціхія, спакойныя, і мова ў нас такая — мілагучная, павольная. А мы гвалтоўна мяняем душу, характар. Не стане мовы — не будзе і нас, беларусаў. Застанецца адна пародыя на нацыю. Трэба ведаць уласныя культуру, музыку, гісторыю, а асабліва — сваё роднае слова. Яно павінна быць святым...

*********************************************

## Рада Эўропы абвінавачвае Беларусь!

Лідэр беларускай апазыцыйнай арганізацыі Бізнэс-Ініцыятыва Міхаіл Марыніч арштаваны і абвінавачаны ў крадзяжы сакрэтных дзяржаўных дакумэнтаў, а таксама ў нелегальным захоўванні зброі. У сваю чаргу, у сваім найноўшым рапарце Рада Эўропы абвінавеціла Беларусь у мэтанакіраваным замаруджванні сьледзтва па справе нявысьветленых зьнікненьняў людзей, якія адбыліся ў 1999-2000 гадох.-чытаем на старонках прэстыжнага выданьня "Rzeczpospolita".

М. Марыніч, былы міністар на справах эканамічных адносінаў з замежжам, а таксама былы амбасадар Беларусі ў Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі быў выкліканы на размову ў КДБ. Толькі на месцы аказалася, што яго арыштоўць. Падставай арышту былі знойдзеныя ў хаце Марыніча сакрэтныя дзяржаўныя дакумэнты, два газавыя пісталеты і 90 тысячаў даляраў.

Паводле лідэраў беларускай апазыцыі, гэта праца палітычнага перасьледу напярэдадні парлямэнцкіх выбараў у Беларусі.

"Арышт Марыніча, падобным чынам, як і сьледзтва супраць мяне, гэта элемэнт падрыхтоўкі ўладаў да парлямэнцкіх выбараў "- лічыць лідэр Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі Анатоль Лябедзька, які некалькі дзён таму сам даваў чарговыя паказаньні ў пракуратуры. Лябедзька абвінавачаны ў паклёпе на Аляксандра Лукашэнку, што верагодна адбылося падчас выступленьня апазыцыянэра ў расейскай дзяржаўнай тэлевізіі. На думку Лябедзькі афіцыйныя ўлады хочуць ізаляваць палітыкаў з гэтак званага "чорнага сьпісу", асноўных лідэраў апазыцыі.

Нядаўна Рада Эўропы абвінаваціла беларускія ўлады ў замаруджваньні сьледзтва па справе зьнікненьняў апазыцыйных палітыкаў. У рапрце, між іншым, былі названыя прозьвішчы: Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага ды Зьмітра Завадзкага.

Парлямэнцкая Асамблея Рады Эўропы заклікала да "максымальнага палітычнага націску" на Менск з мэтай высьвятленьня справы - чытаем на старонках прэстыжнага выданьня "Rzeczpospolita".

***********************************************

# ДЗЬВЕРЫ ЗАЧЫНЯЮЦЦА

Парлямэнцкая Асамблея Рады Эўропы ў Страсбургу прыняла рэзалюцыю па Беларусі, у якой рэзка скрытыкавала беларускае кіраўніцтва за праводжаную ў краіне антыдэмакратычную палітыку. За прыняцьце рэзалюцыі выказаліся амаль сто адсоткаў чальцоў ПАРЭ. У Менск вяртаюцца прадстаўнікі дэмакратычных арганізацыяў Беларусі, якія бралі ўдзел у сэсіі ПАРЭ.

Сярод тых, хто браў удзел у сэсіі ПАРЭ ў Струсбургу – былы міністар сельскае гаспадаркі, былы палітвязень Васіль Лявонаў. У чацьвер журналісты сустракалі яго ў Нацыянальным аэрапорце "Мінск"-2, дзе ён коратка адказаў на іх пытаньні. Паводле словаў Лявонава, вельмі цяжка выказаць пачуцьці, калі прысутнічаеш на такіх мерапрыемствах.

**В. Л.:** - Вельмі цяжка казаць, калі прысутнічаеш на разглядзе такіх пытаньняў і прыняцьці такіх рашэньняў. Гэта двайное пачуцьцё. Па-першае, сорамна, што ты прадстаўляеш краіну, кіраўніцтва якое падазраецца ў цяжкіх злачынствах. Зь іншага боку, добра тое, што разбор пайшоў. Паводле словаў Васіля Лявонава, за прыняцьцё рэзалюцыі прагаласавалі літаральна ўсе ўдзельнікі сэсіі ПАРЭ. Спадар Лявонаў зазначыў, што жорсткая рэзалюцыя не азначае, што дзьверы эўрапейскае супольнасьці перад Беларусьсю зачыненыя.

**В. Л.:** - Усё будзе залежаць ад таго, як беларускае кіраўніцтва будзе рэагаваць на дазеную рэзалюцыю. Усё ўзаемазьвязана, што й пацьвердзіў Палітычны падкамітэт, калі разглядалася пытаньне з выбарамі ў Беларусі. Будзем гаварыць так: дзьверы засталіся адчыненыя. Пры жаданьні ўлада можа канструктыўна працаваць.Шта да арышту былога калегі Міхаіла Марыніча, то Васіль Лявонаў сказаў.

**В. Л.:** - Для мяне гэта не зьяўляецца нечаканасьцю. Я думаю, гэта не апошні арышт. Так што чакаем наступных. Разам з Васілём Лявонавым на сэсіі ПАРЭ прысутнічалі жонкі зьніклых Ірына Красоўская й Сьвятлана Завадзкая. Яны разам с дакладчыкам ПАРЭ Хрыстасам Пургу рыдысам распавялі эўрапейскім дэпутатам аб праблеме палітычных зьнікненьняў у Беларусі.

************************************************

# БЕЗ ТАРМАЗОЎ

Алькагалізацыя насельніцтва ў Беларусі набывае імклівы характар – б'юць трывогу мэдыкі. У сталіцы краіны паўстала пытаньне аб адкрыцьці другога пункту для правядзеньня эспэртызаў на стан алькагольнага ап'яненьня: першы й адзіны працуе ў тры зьмены й не спраўляецца зь вялікай колькасцью аналізаў. Колькасьць афіцыйна зарэгістраваных алькаголікаў дасягнула рэкорднай за апошнія гады лічбы – 225 тысяч чалавек.

*****************************************

## Як пражыць 116 гадоў

Шмат працаваць на сьвежым паветры, есьці сала і час ад часу піць алькаголь. Такі просты рэцэпт на доўгія гады жыцьця ў жыхаркі Менску Анны Барысэвіч. 5 траўня ёй споўніцца 116 гадоў!

Да нядаўняга часу найстарэйшай жанчынай сьвету - рэкордаў Гінэса – лічылася 113-гадовая японка. Высьвятляецца, што Анна Барысэвіч – старэйшая.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Адноўлены выхад газэты "Свабода"

**Рэдактарам адноўленага выданьня стаў вядомы беларускі публіцыст і сталы аўтар Радыё Свабода Сяргей Дубавец. Газэта пакуль будзе выходзіць раз на месяц на 24 старонках і невялікім накладам. Матэрыялы адноўленай "Свабоды" ў асноўным маюць палітычна-культурніцкі й філязофскі характар. Паводле галоўнага рэдактара, мэта гэтага выданьня — падымаць маральны дух беларускай інтэлігенцыі.**

Галоўны рэдактар газэты "Свабода" Сяргей Дубавец распавядае, чаму ён вырашыў аднавіць выхад гэтага выданьня: "Чатырнаццаць гадоў таму газэта пачала выходзіць. Я яе рэдагаваў год, а пасьля перадаў Германчуку, які тады быў у Вярхоўным Савеце, каб яе раскруціць. І зрабіць такім сур'ёзным агульнанацыянальным мэдыйным праектам. Што ён і зрабіў. А пасьля ўмяшаліся ўсялякія прычыны аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару, і яна зьнікла. Але, калі я яе пачынаў у 1990 годзе, у мяне не было плянаў, каб яна куды-небудзь зьнікла. І таму прайшоў час, я паглядзеў, што няма Германчука, няма нікога, хто б рабіў гэтую газэту далей. А сам сымбаль быў абраны — свабода для Беларусі, якой у Беларусі няма.

# Беларускай эміграцыі прысвячаецца

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" абвяшчае конкурс сярод студэнтаў і маладых навукоўцаў (да 35 гадоў) на лепшы артыкул, прысвечаны беларускай эміграцыі:
- яе гісторыі, сучаснасці, культуры,
- філасофіі беларускай дыяспары,
- яе асяродкам, асобным дзеячам, помнікам, цэрквам,
- выданням беларускай дыяспары,
- падзеям,
- тэрмінам, актуаліям ды іншаму.

Працы павінны быць арыгінальным даследаваннем аўтараў і насіць энцыклапедычны характар (грунтоўна і ўсебакова асвятляючы тэму). Лепшыя працы ўвойдуць у энцыклапедыю беларускай дыяспары (спачатку - электронную версію на сайце МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"), а пераможцы будуць узнагароджаны. Адбор прац будзе ажыццяўляцца кампетэнтнай экспертнай камісіяй.

Праца павінна ўтрымліваць каардынаты (пры наяўнасці - навуковую ступень) аўтара, бібліяграфію да артыкула. Памер - да 8 друкаваных старонак (шрыфт Times New Roman 14 пт, праз 1,5 інтэрвалу).

Працы прымаюцца да 20 верасня па адрасе: 220030, Рэспубліка Беларусь, г.Мінск, вул.Рэвалюцыйная, 15, для МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Тэл. для даведак(017) 289-31-94,e-mail: zbsb@lingvo.minsk.by

## Тураў рыхтуецца да свята

На падрыхтоўку святкавання Дня беларускага пісьменства, які будзе адзначацца ў старажытным Тураве (Жыткавіцкі раён Гомельскай вобласці), ужо зрасходавана 300 млн. рублёў са сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Пра гэта БелаПАН паведаміў намеснік старшыні Жыткавіцкага райвыканкама Уладзімір Гулюта.

Паводле яго слоў, гэтыя сродкі накіраваны на добраўпарадкаванне гарадскога пасёлка Тураў. Сярод аб'ектаў добраўпарадкавання - цэнтральная вуліца Ленінская, уздоўж якой устанаўліваюцца новыя платы, а таксама мемарыял выдатнаму асветніку Кірыле Тураўскаму. Ідзе рамонт помнікаў, у тым ліку землякам, загінуўшым у гады вайны, а таксама на брацкіх магілах воінаў, якія загінулі за вызваленне Турава ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Акрамя таго, вядуцца работы па зносе старых пустых будынкаў пасёлка і іншых закінутых збудаванняў. Як адзначыў У.Гулюта, прадугледжаны рамонт этнаграфічнага і гісторыка-краязнаўчага музеяў, а таксама выпуск сувенірных паліграфічных выданняў і выданне зборніка твораў мясцовых пісьменнікаў.

Паводле слоў У. Гулюты, на правядзенне ўсіх запланаваных работ неабходны "не адзін мільярд рублёў". "Паколькі дзяржава не мае такіх грошай, Гомельскі абласны аргкамітэт па правядзенні Дня беларускага пісьменства ў Тураве аб'явіў збор сродкаў на аднаўленне помнікаў нацыянальнай гісторыі і культуры вобласці", - паведаміў намеснік старшыні райвыканкама.

## Падтрымаем "Аляксандру і Канстанціна"

Да падрыхтоўкі да міжнароднага конкурсу песні "Еўрабачанне-2004" планеуцца падключыць Міністэрства спорту і турызму Беларусі. Пра гэта паведаміў 13 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску міністр культуры Леанід Гуляка.

Паводле слоў Л.Гулякі, ён звярнуўся да міністра спорту і турызму Юрыя Сівакова, "каб у перыяд, калі будзе праходзіць конкурс, стварыць беларускім удзельнікам -- дуэту "Аляксандра і Канстанцін" -- утульнасць знаходжання ў Стамбуле і спланаваць на гэты час турыстычныя паездкі, каб там з'явіліся беларускія турысты". Паводле слоў міністра, з падобнымі просьбамі ён таксама звярнуўся і ў вядучыя турагенцтвы краіны.

Акрамя таго, Л.Гуляка звярнуўся да пасла Беларусі ў Турцыі з просьбай пасадзейнічаць арганізацыі прэзентацыі беларускіх выканаўцаў. Паводле слоў міністра, пасля ўдзелу дуэта ў конкурсе магчыма арганізацыя гастроляў "Аляксандры і Канстанціна" ў Турцыі. Можа быць, гэта адбудзецца ў наступным годзе, дадаў Л.Гуляка.

Ён таксама нагадаў, што сёлета на конкурсе "Еўрабачанне" упершыню прынята "новая форма правядзення спаборніцтва". Конкурс будзе складацца з паўфіналу, які пройдзе 12 мая, і фіналу - 15 мая. У "Еўрабачанні" возьмуць удзел 36 краін. Прадстаўнікі 14 краін, паказаўшых на леташнім конкурсе высокія вынікі (Францыя, Нямеччына, Іспанія, Турцыя, Аўстрыя, Бельгія, Расія, Польшча і іншыя), ужо допушчаны да ўдзелу ў фінале. Беларускі дуэт у ліку прадстаўнікоў 22 дзяржаў будзе дэбютаваць у паўфінале. Дзесяць з гэтых удзельнікаў выйдуць у фінал.

Каб вызначыць чарговасць выступленняў паўфіналістаў, у прамым эфіры адразу пасля паўфіналу будзе праведзена жараб'ёўка. Такім чынам, у фінале возьмуць удзел 24 краіны.

Месцам правядзення конкурсу стане адзін з самых вялікіх у Стамбуле спартыўных комплексаў, разлічаны на 7.500 месцаў. 36 краінам-удзельніцам прадастаўляецца 540 білетаў на касцюміраваныя рэпетыцыі і самі канцэрты.

Асноўная канцэпцыя шоу гэтага года - "Пад адным небам". Сёлета ж у конкурсу з'явіўся новы афіцыйны лагатып з вывай сэрца.

Штогод конкурс "Еўрабачанне" прыцягвае ўвагу больш чым 100 мільёнаў тэлегледачоў. Праектны бюджэт спаборніцтва гэтага года дасягае 11 мільёнаў швейцарскіх франкаў.

## Афіцыйны Мінск адмаўляецца прадаставіць Варшаве спіс расстраляных палякаў

Яшчэ ў 1943 годзе немцы апублікавалі інфармацыю пра жудасныя знаходкі ў беларускай Катыні, дзе савецкія ўлады расстралялі палонных польскіх жаўнераў.

Доўгі час савецкія ўлады адмаўляліся ад гэтага і абвінавачвалі немцаў у фальсіфікацыі.

У савецкі палон пасля савецка-польскай вайны 1939 года трапіла каля 25 тысяч польскіх жаўнераў. Амаль трэць з іх была расстраляна.

Афіцыйны Мінск, у адрозненне ад афіцыйнага Кіева, дзе таксама праводзіліся расстрэлы, адмаўляецца, паводле слоў Андрэя Тухольскага (кіраўніка архіваў Інстытута нацыянальнай памяці Польшчы), прадаставіць Польшчы спіс расстраляных.

## Лозунг "Он должен уйти!" у цэнтры Мінска

13 красавіка ў 17.00 шэсць актывістаў незарэгістраванага руху "Зубр" выйшлі на мост цераз вуліцу Няміга. Яны разгарнулі шасціметровы плакат са словамі "ОН ДОЛЖЕН УЙТИ!" і на працягу некалькіх хвілін замацавалі яго на поручнях моста, затым разышліся.

Расцяжка правісела крыху больш за 10 хвілін. Аднак за гэты час яе ўбачылі тысячы людзей, што праходзілі і праязджалі па ажыўленай вуліцы. Затым плакат сарвалі супрацоўнікі міліцыі.

Пасля акцыі людзі ў цывільным затрымалі актывістку "Зубра" Дар'ю Малдаванаву. Таксама быў затрыманы мужчына нападпітку, які выказаў сваю "сознательность" і намагаўся зняць плакат. У адносінах да Малдаванавай састаўлены пратакол па парушэнне арт.167-1 КоАП (Парушэнне парадку правядзення дэманстрацый і пікетавання). Ёй уручана позва ў Цэнтральны РУУС Мінска.

*************************************************

## Зянон Пазьняк: восем гадоў з правам перапіскі

Кірыла ПАЗНЯК

**24 красавіка адзін з самых вядомых і ў свой час уплывовых палітыкаў у нашай краіне Зянон Пазьняк адзначае 60-гадовы юбілей. Цяпер у грамадска-палітычным жыцці Беларусі фізічна ён не прысутнічае — толькі эпісталярна: вось ужо восем гадоў дасылае сваім паплечнікам, апошнім часам — па КХП-БНФ, лісты з-за мяжы. Менавіта эміграцыя ў 1996 годзе і перадвызначыла выпаданне Пазьняка з вялікай беларускай палітыкі.**

У апошніх сваіх лістах з эміграцыі Зянон Пазьняк даводзіць слушнасць тактыкі байкоту што да парламенцкіх выбараў, якія пройдуць у кастрычніку 2004 года. У той час калі ўся астатняя апазіцыя будзе браць у іх удзел. Многія лічаць, што Пазьняк папросту адарваўся ад палітычных рэаліяў і ўжо не мае адэкватна іх успрымаць і ацэньваць. У сваю чаргу ён значную частку апазіцыі называе кіраванай і больш кажа не пра палітычную барацьбу, а пра неабходнасць ні больш ні менш нацыянальна-вызвольнага руху. Але рэвалюцыя ў Беларусі — гэта ўсё-такі ілюзія.

Як і Зянон Пазьняк — прэзідэнт. Хаця многія і цяпер, як у часе першай прэзідэнцкай кампаніі ў Беларусі, могуць сказаць: "Лепш Пазьняк, чым ніколі!". Нагадаем, у 1994 годзе лідэр тады яшчэ адзінага БНФ заняў у першым туры прэзідэнцкіх выбараў трэцяе месца з амаль 13 працэнтамі галасоў (Лукашэнка — 45%, Кебіч — 18%), што для палітыка з рэпутацыяй нацыянал-радыкала ў беларускіх умовах — вельмі неблагі вынік.

Як палітык Зянон Пазьняк нейкіх вялікіх перспектываў ужо не мае. Многія беларусы на яго проста забыліся, і нават ўлады ўжо куды меней робяць з ягонай асобы пужала апазіцыі. Дарэчы, непаспяховасць палітычнай кар'еры Пазьняка якраз тлумачыцца і тым, што ён увесь час быў цэляй для татальнага антыпіяру. І гэта яшчэ мякка кажучы. Пазьняк, бадай, не мог і не стане прэзідэнтам таму, што пры ўсёй ягонай харызме і прамоўніцкім майстэрстве (вартым суперпнікам тут з усіх беларускіх палітыкаў можа быць толькі Лукашэнка) у ягоным іміджы пераважае негатыў. Многія называюць яго не інакш як фашыстам. Хаця для некаторых ён – апостал нацыі. Прыкладам, Пазьняка так называў Васіль Быкаў.

Яшчэ адна прычына палітычных няўдачаў Пазьняка — шчырасць, якая ў палітыцы ператвараецца ў мінус. Гэтая шчырасць выяўлялася і ў палітычнай жорсткасці і зацятасці Пазьняка. Яму не ставала цынізму ці гнуткасці (як заўгодна), каб недзе змаўчаць, а там-сям сказаць тое, што народ хоча пачуць.

У звязку з абвастрэннем беларуска-расійскіх дачыненняў апошнім часам многія палітыкі і аналітыкі заўважаюць, што Аляксандр Лукашэнка пачаў паводзіць сябе і рабіць заявы а ля Зянон Пазьняк. Цікава, для каго з іх гэта больш камплімент ці, наадварот, абраза? Здаецца, усё-такі і аднаму, і другому гэткае параўнанне павінна быць прыемным. Лукашэнка такім чынам здабывае сімпатыі "правага" электарату і нібыта эвалюцыянуе у нацыянальна арыентаванага лідэра. Лепш Лукашэнка, чым ніколі?! Ну а Пазьняк, можна разважаць так, паўстае дальнабачным палітыкам, з форай што да Лукашэнкі ў цэлых дзесяць гадоў. Але тое ў тэорыі. На практыцы Лукашэнка аказаўся больш своечасовым. І цяпер на тых жа прэзідэнцкіх выбарах ён можа даць Пазьняку велічэзную фору.

Яны абодва ўвойдуць у беларускую гісторыю. Лукашэнка — як першы прэзідэнт нашай краіны. Пазьняк – калі не як палітык, які мог стаць годным прэзідэнтам, дык як гісторык, што сказаў беларускаму народу праўду пра Курапаты.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Беларускіх дэмакратаў падтрымалі ў Варшаве

*22 красавіка на запрашэньне Калегіюму Ўсходняй Эўропы Варшаву наведалі прадстаўнікі беларускай дэмакратычнай апазыцыі. Зь ініцыятывы Яна Новака-Езяраньскага, легендарнага "кур'ера з Варшавы" часоў Другой сусьветнай вайны, былога старшыні польскай службы радыё «Свабодная Эўропа» адбылося іх спатканьне зь міністрам Марэкам Сіўцам, дзяржаўным сакратаром канцылярыі Прэзыдэнта Рэспублікі Польшчы й шэфам Бюро нацыянальнай бясьпекі. У спатканьні зь міністрам Марэкам Сіўцам узялі ўдзел: Ян Новак-Езяраньскі - заснавальнік і ганаровы старшыня Рады Калегіюму Ўсходняй Эўропы, Андрэй Саньнікаў - былы намесьнік міністра замежных справаў Беларусі, каардынатар Эўрапейскай кааліцыі "Свабодная Беларусь", Вінцук Вячорка - старшыня Партыі БНФ, адзін зь лідэраў Народнай кааліцыі "Пяцёрка плюс", Алесь Бяляцкі - кіраўнік зьліквідаванага ўладамі праваабарончага цэнтру "Вясна" й Ян Анджэй Дамброўскі - старшыня Калегіюму Ўсходняй Эўропы.*

Падчас спатканьня абмяркоўваліся пытаньні, зьвязаныя з польска-беларускімі дачыненьнямі пасьля пашырэньня Эўрапейскага Зьвязу й уваходу Польшчы ў эўрапейскія структуры. Абодва бакі падкрэсьлілі значэньне пашырэньня ЕЗ для эканамічнага й палітычнага становішча Беларусі. Выказвалася таксама патрэба ў выпрацоўцы "Ўсходняга вымярэньня" Эўрапейскага Зьвязу. Польшча як найбліжэйшы ўсходні сусед Беларусі павінна ў гэтым пытаньні - паводле беларускага боку - адыграць вядучую ролю.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Насельніцтва Беларусі можа знікнуць да 2180 г. ?

Інтэрфакс

Беларускае аддзяленне Міжнароднай акадэміі геранталогіі (БА МАГ) распрацавала матывацыйны тэст, па якім можна вызначыць біялагічны ўзрост чалавека.

Паводле слоў герантолагаў, «цяпер спецыялістамі абследавана больш за 10 тысяч чалавек ва ўзросце ад 6 да 90 гадоў, і гэтыя даследаванні паказалі, што насельніцтва рэспублікі, як правіла, старэйшае за свой узрост, указаны ў пашпарце, на 10—30 гадоў».

Спецыялісты адзначылі, што «ў Беларусі, як і ў большасці еўрапейскіх краін, у насельніцтва назіраецца значнае зніжэнне рэзервовых магчымасцяў арганізма».

Спецыялісты таксама паведамілі, што, «пачынаючы з 1996 года, у выніку натуральнага змяншэння насельніцтва рэспублікі штогод скарачаецца на 50 тысяч чалавек». «Тэарэтычна магчыма, калі браць за аснову падліку гэту тэндэнцыю, што насельніцтва Беларусі можа знікнуць да 2180 года», — паведамілі спецыялісты.

Яны таксама сказалі, што «для лакалізацыі абвальнага біялагічнага старэння насельніцтва дзяржаве неабходны навуковыя даследаванні ў галіне геранталогіі і стварэння здароўя, а таксама змяненне адносінаў людзей да свайго здароўя».

*************************************************

# Антыамэрыканізм у Беларусі

Сяргей Дубавец, Вільня Паводле "Радыё Свабода"

Амэрыку ў Беларусі хутчэй ня любяць, чым любяць. Так павялося яшчэ з савецкіх часоў. Калі моладзь гатовая была багоміць іхную музыку, іхныя джынсы і жуйкі, і ў цэлым іхны лад жыцьця. А сталыя людзі гатовыя былі кляйміць на партсходах "верагоднага праціўніка", іхныя клёшы і доўгія валасы, і таксама – у цэлым іхны лад жыцьця. Аднак савецкія часы скончыліся, а амэрыканскія, так бы мовіць, засталіся. Гэта мы селі на іхныя форды, а не яны на "нашыя" жыгулі, гэта мы пайшлі ў іхныя макдональдзы, а не яны ў "нашы" пяльменныя, урэшце гэта іхныя свабода, дэмакратыя і індывідуалізм запраўляюць сёньня лёсамі сьвету, а ня "нашы" ЦК КПСС і маральны кодэкс будаўніка камунізму. І таму Амэрыка ня можа не раздражняць. У тым выпадку, калі мы глядзім на яе, як на нацыю ці імпэрыю, што ўзьдзябурылася па-над усім няшчасным сьветам і дыктуе астатнім, таму ж Іраку, як ім жыць. І таму таксама Амэрыка ня можа не захапляць, калі глядзець на яе як на ўнівэрсальную цывілізацыю, якая дасягнула магутнасьці і ўзяла на сябе адказнасьць за ўвесь сьвет, за той жа ірацкі народ, на якім уласны дыктатар выпрабоўваў хімічную зброю.

Калі ж адкінуць эмоцыі, дык трэба пагадзіцца, што ўсё ў гэтым сьвеце складаецца з прыватнага і ўнівэрсальнага, з індывідуальнага і агульнага, з дэкаратыўнага і функцыянальнага. І калі кожны народ імкнецца да захаваньня сваёй прыватнасьці, індывідуальнасьці і самабытнасьці, дык якраз унівэрсальныя мэханізмы, унівэрсальны шлях мусіць забясьпечваць суісnаваньне гэтых розных, іх выжываньне і разьвіцьцё.

Сёньняшні сьвет суіснуе паводле тых правілаў, якія выпрацавала Амэрыка. Добра гэта ці дрэнна? Каб адказаць, дастаткова зрабіць параўнаньне з іншымі унівэрсальнымі мадэлямі людзкое цывілізацыі, якія прапаноўваліся чалавецтву ў XX ст. Найбольш яркія зь іх – савецкі камунізм і нямецкі фашызм. Амэрыка, збудаваная на дыямэтральна іншых прынцыпах, уступіла з гэтымі монстрамі ў супрацьстаяньне і ўрэшце перамагла, засталася. У выніку, ня будучы імпэрыяй, яна набыла ў сьвеце вагу імпэрыі, ня будучы таталітарнай, яна мусіла ўзяць на сябе татальную адказнасьць за лёсы сьвету. Урэшце яе паўсюдная прысутнасьць выклікала да жыцьця паўсюдны антыамэрыканізм.

Пісьменьнік Валянцін Тарас выводзіць сучасны беларускі антыамэрыканізм з савецкіх часоў.

(Тарас:) "Што тычыцца антыамэрыканізму сучаснага. Ён апошнім часам сапраўды мацнее. Тут ёсьць дзьве прычыны. Адна прычына. Карані гэтай зьявы ляжаць у нашай савецкай гісторыі. У многім сучасны антыамэрыканізм, асабліва ў людзей сталага веку, маіх равесьнікаў, ветэранаў... Гэта працуюць савецкія гены. Калі ўзяць савецкага сярэдняга чалавека, ён быў запраграмаваны на антыамэрыканізм. Савецкія людзі, наогул савецкая дзяржава, якія заўсёды адчувалі велізарны комплекс непаўнавартасьці. У дачыненьні да Амэрыкі. Дагнаць і перагнаць Амэрыку. Уцерці амэрыканцам нос. А паколькі дагнаць і ўцерці нос часьцей за ўсё не ўдавалася, гэты комплекс пачынаў працаваць зь яшчэ большай, страшнай і разбуральнай сілай. Ён параджаў нянавісьць, ён параджаў варожасьць. Ён параджаў падазронасьць абсалютна ва ўсім, што б яны ні рабілі, гэтыя клятыя амэрыканцы".

(Дубавец:) "Комплекс непаўнавартасьці ў дачыненьні да кагосьці – гэта заўсёды свой комплекс, а не таго, у дачыненьні да каго ён вычуваецца. Гэтаксама як і зайздрасьць – гэта наша пачуцьцё, калі мы яе перажываем. Але расейская савецкая зайздрасьць да Амэрыкі, на думку філёзафа Уладзімера Мацкевіча, – ня самы галоўны складнік антыамэрыканізму."

(Мацкевіч:) "Гэта не самае галоўнае і істотнае. Таму, што больш істотным, чым зайздрасьць, зьяўляецца страх. Страх перад сілай, страх таго, што нельга зразумець. Вы ведаеце, пры ўсёй прастаце і прымітывізьме некаторым амэрыканскага ладу жыцьця і амэрыканскай культуры, яна не зьяўляецца зразумелай для большай часткі сёньняшняга чалавецтва. Нягледзячы на Галівуд, усё тое, што распаўсюджваецца, праз вось гэты лад жыцьця і ўяўленьне, сьветапогляд, які там закладзены. Я са зьдзіўленьнем гляджу, наколькі савецкі чалавек не разумее амэрыканскага кіно. Цалкам не разумее. Шоў падабаецца людзям, і людзі на гэта западаюць. Але ж сэнс, просты сэнс узьвялічаньня асобы, супрацьстаяньня асобы дыктату: дыктату большасьці, дыктату зла, дыктату цемрашальства і нячыстай сілы. Гэтаму вучыць амэрыканскі кінэматограф. І трылеры, і дэтэктывы і вэстэрны і гэтак далей. І гэта выхоўвае амэрыканскіх хлопчыкаў і дзяўчынак. І не выхоўвае ні арабаў, ні савецкіх, нікога. Калектывізм гэтым не вытраўляецца. Нешта больш моцнае ёсьць у іншых культурах, што супрацьстаіць гэтаму ўплыву. Таксама вольная эканоміка амэрыканская не распаўсюджваецца праз дамінаваньне даляру, як сусьветнай разьліковай адзінкі".

(Дубавец:) "Страх перад незразумелай Амэрыкай, пра які гаворыць Уладзімер Мацкевіч, часьцяком спараджаў у душы савецкага чалавека варожасьць. Працягвае Валянцін Тарас:"

(Тарас:) "Амэрыканцы, гэта ім плюс, яны ніколі не хавалі сваіх хібаў. Калі браць амэрыканскую журналістыку, амэрыканскую літаратуру, амэрыканскае кінамастацтва. Гэта Фолкнэр, Драйзэр, гэта Джон Стэйнбэк. Я ня бачу там хлусьні, я не адчуваю там хлусьні. Таму, што гэта заўсёды бярэ цябе за жывое. І там язвы амэрыканскага грамадзтва, ягоныя балячкі – усё гэта навідавоку. Але. Я згадваю такую рэч. Некалі быў такі фільм паводле раману Джона Стэйнбэка "Гронкі гневу". Гэта пра дэпрэсію 30-х гадоў у Злучаных Штатах. І трагедыя беспрацоўя. І ў гэтым фільме паказваецца, як сям'я амэрыканскіх беспрацоўных па ўсіх Злучаных Штатах разьяжджае ў пошуках працы. Яны разьяжджаюць на сваім аўтамабілі. І яны ходзяць у капелюшах. І там у фільме паказана, што яны заходзяць у бары, замаўляюць там піва... І радавы савецкі чалавек глядзеў фільм пра гэтае страшэннае беспрацоўе. І гаварыў: "Нічога себе безработные. На самоходах ездят, у капелюшах ходзяць і цыгары паляць". З гэтага таксама варожасьць нараджалася. Што гэта нейкая дзіўная краіна".

(Дубавец:) "Можна патлумачыць незразумеласьць Амэ- рыкі розьніцай калектывісцкай і індывідуалісцкай палітыкі. Пастаўленая ў ЗША на першае месца ў сьпісе каштоўнасьцяў чалавечая асоба не магла служыць перашкодай астатнім дзеля сваіх поглядаў, нацыянальнай прыналежнасьці або сацыяльнага паходжаньня. Тым часам у сталінскім СССР ахвяры апраўдваліся патрэбамі прыдуманай кімсьці рэвалюцыі і рай зямны будаваўся на касьцях мільёнаў людзей, думкі якіх не адпавядалі лініі партыі. Паспаліты амэрыканец ніколі не зразумее фразу: "Табе што, больш за ўсіх трэба?", гэтаксама як паспаліты савецкі чалавек ня мог уцяміць імпічмэнту прэзыдэнта Ніксана і таго, што гэты галоўны начальнік краіны ўзяў ды пайшоў у адстаўку таму што, бачыце, закон вышэй за ўсё. У СССР такое было нерэальна.

Філёзаф Валянцін Акудовіч таксама бачыць у антыамэрыканізьме найперш савецкае паходжаньне:"

(Акудовіч:) "Амэрыку ня любяць ва ўсіх краінах. Але ў кожнай краіне яе ня любяць па-свойму. Што да беларусаў, дык наш антыамэрыканізм мае некалькі складовых. Першае, самае відавочнае – гэта семдзесят год панаваньня камуністычнай ідэалёгіі. Якая ўбівала ў мазгі грамадзтва, у галовы, у сэрцы нелюбоў да Амэрыкі. як да лідэра капіталістычнага сьвету. Масква, Расея хацела быць сама ўладарніцай Сьвету з дапамогай камуністычнай ідэалёгіі. І канечне, тое, што столькі гадоў так масава ўбівалася ў нас, хутка зьнікнуць ня можа. Але нават і для тых, для каго ўжо страх перад Амэрыкай, НАТО, перад сусьветным імпэрыялізмам даўно зжыты зь сябе, заўважаецца вось гэты фэномэн антыамэрыканізму і яго пашырэньня, я бы сказаў.

І тут другая складовая, гэта ўжо ўнівэрсальная. Гэта як ва ўсім сьвеце. Таму што, бачыце, Амэрыка сталася настолькі вялікай, настолькі магутнай, што ўвесь сьвет апынуўся ў яе цяню. Уласна кажучы, Амэрыка ўсе іншыя краіны зрабіла аўтсайдэрамі. А хто любіць быць аўтсайдэрам? І кожны разумее, што адна з прычын яго аўтсайдэрства – гэта тое, што ёсьць відавочны лідэр. Якога дасягнуць пакуль ніяк немагчыма. Адным словам, усе мы апынуліся ў цяню Амэрыкі, а ясна, што ў цяню нішто добра не расьце. І адсюль вось гэты фэномэн антыамэрыканізму, калі браць у такім глябальным ракурсе".

(Дубавец:) "Пісьменьнік Валянцін Тарас гаворыць пра няўдзячнасьць як складовую частку савецкага антыамэрыканізму".

(Тарас:) "Вялікім дакорам для Савецкага Саюзу і для безьлічы савецкіх людзей, нейкай такой балячкай было тое, што амэрыканцы ў час вайны давалі нам "студэбэкеры", "віліс", тушонку, самалёты. Асабліва ў першыя месяцы вайны. Потым стараліся зрабіць выгляд, што нічога гэтага не было. Ну, а каб ужо зусім не адмаўляць, што нічога не было, дык гаварылі, што "нельга ставіць на адны вагі тую кроў, якую мы пралілі..." Канечне, нельга ставіць на адны вагі тушонку, "студэбэкеры" і тыя мільёны жыцьцяў, якія аддало савецкае войска і мірнае насельніцтва ў імя гэтай нашай перамогі. Правільна. Але можа гэта перамога затрымалася б яшчэ на час, каб не было гэтых "студэбэкераў", гэтых "вілісаў", гэтай тушонкі. Каб не было грошай, якія тады нам Амэрыка давала. Каб не было, напрыклад, грошай, якія зьбіраў у Амэрыцы габрэйскі антыфашысцкі камітэт. Ён сабраў сотні мільёнаў даляраў у фонд абароны, за што потым заплаціў – увесь камітэт быў расстраляны ў 52-м годзе пад маркай таго, што ўсе яны амэрыканскія агенты, амэрыканскія шпіёны. Усё гэта ізноў вынікала з комплексу непаўна-вартасьці.

А потым гэтая касьмічная гонка пачалася. Мы запускаем першы спадарожнік, першы касманаўт наш. А потым амэрыканцы ляцяць на Месяц. І тут пачынаецца істэрыка. Я памятаю, калі амэрыканцы паляцелі на Месяц, я якраз быў у Кактэбэлі. І мы даведаліся, што будзе трансьляцыя прамая. І пайшлі ў той корпус, дзе стаіць тэлевізар. І начальства кажа, што ніякай трансьляцыі ня будзе. Тэлевізар сапсаваўся, сьвятла ня будзе, нейкія неверагодныя рэчы. Там цэлы бунт узьняўся. Ну і паказалі ўсё такі. Як яны садзяцца, як выходзіць Армстранг. І адзін з расейскіх пісьменьнікаў кажа: "Это все фигня! Это все муляж". Тут ізноў спрацаваў гэты комплекс непаўнавартасьці. Я думаю, што ў той момант ён сам паверыў у тое, што гэта муляж. Таму, што гэтага ня можа быць. А ня можа быць, таму, што ня можа быць ніколі. А ня можа быць ніколі таму, што я гэтага не хачу!"

(Дубавец:) "Ці ня самая магутная сёньняшняя нагода для росту антыамэрыканізму ў сьвеце – гэта Ірак. Як сказаў Уладзімер Мацкевіч, ён лічыць памылкамі амэрыканскія апэрацыі ў Сэрбіі і Іраку, але ў прынцыпе падзяляе тыя каштоўнасьці, якія ідуць разам з амэрыканскай палітыкай. Валянцін Тарас, які бачыў вайну на ўласныя вочы, ставіцца да апэрацыі ў Іраку больш крытычна:"

(Тарас:) "Мы сёньня слушна крытыкуем бальшавікоў, што яны, сапраўды так, яны калом заганялі народ у рай. Але тое ж самае, так аб'ектыўна атрымліваецца, робяць амэрыканцы ў Іраку. З самымі лепшымі намерамі. Яны хацелі як мага хутчэй... Вось скінулі рэжым Хусэйна і заўтра будзе дэма- кратычны, свабодны Ірак. Яны думалі, што гэтае грамадзтва ірацкае адразу ўспрыме каштоўнасьці свабоднага сьвету. Таму, што гэта ж так добра, так зразумела. Дэмакратыя, свабодныя празрыстыя выбары. Свабода друку, адмена цэнзуры. І нейкі матэрыяльны дабрабыт. Яны не ўлічылі, што ў цэлым гэтае грамадзтва ня хоча гэтых каштоўнасьцяў нашых. У іх свае каштоўнасьці. І ўзьнік, на маю думку, цывілізацыйны крызыс. Ня хочуць гэтыя іракцы ў масе сваёй той дэмакратыі, якую ім прынесьлі. У іх іншыя каштоў- насьці, у іх іншы погляд, пачынаючы ад касмагоніі. Яны інакш уяўляюць сабе пабудову сьвету. Усё інакшае. Але не, іх гоняць у каршэль, гоняць у гэтую заходнюю дэмакратыю. І сёньня гэта вельмі падсілкоўвае антыамэрыканскія настроі сусьветнага антыглябалізму. Не заўсёды амэрыканізм нясе лепшае, што ёсьць у Злучаных Штатах".

(Дубавец:) "А што такое гэты глябалізм, ці сапраўды ЗША – гэта новая імпэрыя і што з усяго гэтага будзе заўтра? Прагноз Валянціна Акудовіча:"

(Акудовіч:) "З майго гледзішча, гэтая сытуацыя, калі ў сьвеце існуе адзін лідэр, яна магчыма, на Амэрыцы ўжо і скончыцца. Рана ці позна, але чалавецтва прыме сусьветны антыманапольны закон – супраць валоданьня ўсім сьветам".

(Дубавец:) "А вось погляд на сутнасьць глябалізму і антыглябалізму Ўладзімера Мацкевіча:"

(Мацкевіч:) "На сёньняшні дзень, калі мы маем глябалізаваны сьвет, наша плянэта стала маленечкім глёбусам, якую праехаць можна меней, чым за суткі. І вось сёньня ідзе супрацьстаяньне двух тыпаў уладкаваньня. Імпэрскі тып, каб усё падпарадкаваць аднаму чамусьці, піраміду такую збудаваць сусьветную. Ці ўсё ж такі вялікая фэдэрацыя маленечкіх грамадаў, кожная з каторых будуе сваё жыцьцё так, як сама ўяўляе правільным. І вось, што вымушае баяцца амэрыканцаў? Амэрыканцаў баяцца імпэрыялісты. Тыя, хто хочуць падпарадкаваць сьвет адной ідэі, адной уладзе, аднаму цэнтру. Пабудаваць піраміду. Амэрыканцы ўяўляюцца імі, як іх ворагі, якія маюць тую самую мэту. І таму яны змагаюцца з амэрыканскім, так бы мовіць, імпэрыялізмам. А амэрыканцы не імпэрыялісты, яны фэдэралісты. Хобіты. Як той Рэйган, які змагаўся з Імпэрыяй зла. Амэрыканцы – змагары з імпэрыяй, не для таго, каб усталяваць сваю імпэрыю, а для таго, каб уладкаваць сьвет, у якім кожная маленечкая грамада будуе той лад жыцьця, які ёй падабаецца.

Трэба пэўную экалёгію культурную праводзіць, каб тыя квазітэрарыстычныя ідэалёгіі, якія ўласьцівыя антыгля- балізму, каб яны крытыкаваліся і каб людзі даведваліся, што стаіць за рухам антыглябалістаў, у якім аб'ядналіся якраз імпэрыялісты і таталітарысты".

Паспрабуем зрабіць высновы.

Амэрыка ў дакладным значэньні слова – не імпэрыя. Гэта прапанаваны тып цывілізацыі, а значыць, калі ў вас ёсьць хоць крыху агульнага дыханьня з усім бедным чалавецтвам, дык і вы таксама – Амэрыка. Альтэрнатывы няма. Дакладней, альтэрнатывы – разьвіваць нейкі іншы ўнівэрсальны тып цывілізацыі – няма. Альтэрнатыва – ва ўласным неглябальным нацыянальным жыцьці. Калі мы ня маем магчымасьці накарміць галодную Афрыку, перамагчы ўсясьветную ядзерную катастрофу, або асвойваць Марс, і калі Амэрыка робіць гэта ў тым ліку і ад нашага імя, дык сьцьвярджаць, што мы супраць гэтага – зусім ня значыць прапанаваць іншы шлях накармленьня Афрыкі, забесьпячэньня ад катастрофы або асваеньня космасу. Калі мы рэальна адчуваем пагрозу глябалізацыі і ўсеагульнай уніфікацыі, мы мусім зьберагаць сваю

Беларусь, яе прыроду і культуру, яе гісторыю і гэтым самым ствараць разумную неканфліктную альтэрнатыву глябалізацыі. Так як гэта робяць усе эўрапейскія краіны. Берагуць сваю сама- бытнасьць. Разумеючы пры тым непазьбежнасьць глябаль ных працэсаў, бо сьвет ужо не такі, як раней, з гледзішча навукі і тэхналёгіяў ён зусім не бясконцы.

Але давайце падумаем – ці разьвіваем мы належным чынам сваю беларускую мікрацывілізацыю? Ці вырасла за апошнія 10 гадоў у сьвеце цікавасьць да нашай самабытнай культуры? І калі, як кажа Ўладзімер Мацкевіч, на зьмену аднапалярнаму сьвету прыйдзе сьвет фэдэратыўны – ці будзе ў тым хоры гучаць і наш голас?

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Калі мы пераможам у вайне супраць рака?

Уолтэр ЭКХАРТ, прафесар малекулярнай і клеткавай біялогіі.

*Рак паражае многія органы і тканкі цела. І хоць розныя віды раку адрозніваюцца адзін ад другога сімптомамі і паводзінамі, усе яны маюць адну супольную прычыну ўзнікнення: збой у генным кодзе. Ген – гэта адзінка, якая нясе ў сабе закадаваную хімічную інфармацыю, якая вызначае структуру і функцыянаванне нашага арганізму. Усе клеткі нашага арганізму маюць аднолькавы набор генаў, па палове ад кожнага з бацькоў. Адрозненні паміж відамі клетак вызначаюцца камбінацыяй актыўных генаў у кожнай асобнай клеты.*

Парушэнне генаў можа быць выклікана экалагічнымі фактарамі, такімі, як уздзеянне радыяцыі або хімікатаў, а таксама зменамі ў абмене рэчываў. Чалавечы арганізм распрацаваў сістэму аднаўлення, якая падтрымлівае цэласнасць нашых генаў нават пры наяўнасці шкодных фактараў. Аднак у некаторых выпадках парушаныя гены не аднаўляюцца. І калі такое парушэнне адбываецца ў ключавых генах, якія рэгулююць клеткавы рост, узнікае небяспека развіцця ракавага захворвання.

Клеткавы рост рэгулюецца балансам паміж генамі, якія стымулююць рост, і генамі, якія стрымліваюць яго. Гены, якія стымулююць клеткавы рост, называюцца *анкагенамі*, а якія яго стрымліваюць – *генамі-ўціскальнікамі пухліны*. Актывацыя анкагенаў або парушэнне функцыянавання генаў-уціскальнікаў пухліны можа прывесці да неабмежаванага росту колькасці клетак.

Актывацыя анкагенаў можа адбыцца ў выніку мутацыі (змены ў структуры гена) або павелічэння генаў (утварэнні вялікае колькасці копіяў гену). Гены-ўціскальнікі пухліны могуць быць выведзены са строю ў выніку мутацыі або самазнішчэння падчас дзялення клеткі.

Традыцыйна дыягназ раку ставіцца на аснове характэрнага выгляду ракавых клетак пры назіранні іх пад мікраскопам. Цяперашнім часам розныя віды раку ўсё больш і больш вызначаюцца паводле характэрных мадэляў геннай актыўнасці (своеасаблівага «малекулярнага аўтографу»). “Малекулярны аўтограф” можа выкарыстоўвацца дзеля дакладнейшай класіфікацыі раку, што вельмі палягчае лячэнне.

Навука выявіла дзесяткі анкагенаў і генаў-уціскальнікаў пухліны, сродкі для барацьбы з якімі яшчэ трэба распрацаваць. Апошнім пераканаўчым прыкладам стала стварэнне прэпарату, прызначанага для вылечвання малекулярных зменаў, уласцівых клеткам хранічнай міелагеннай лейкеміі. Гэты прэпарат становіць сабою альтэрнатыву перасадцы касцявога мозгу – раней адзінаму эфектыўнаму лячэнню.

Было выяўлена, што мутацыі ў пэўных генах выклікаюць спадчынныя формы раку грудзей і яечнікаў. Гэта дало магчымасць вызначыць, якія жанчыны належаць да групы павышанай рызыкі з-за спадчыннай прысутнасці гэтых генаў у іх арганізме. Трэба зазначыць, што спадчынныя формы раку грудзей і яечнікаў складаюць толькі малую долю ад агульнай колькасці захворванняў. Пільнае назіранне і хуткае лячэнне або прафілактычнае хірургічнае ўмяшанне могуць знізіць рызыку захворвання пры спадчынных формах раку.

Другія напрамкі ў барацьбе з ракам грунтуюцца на лепшым разуменні таго, як адбываецца рост пухліны. Пухліна патрабуе багатай дастаўкі крыві і стварае дзеля гэтага ўмовы, якія стымулююць рост крывяносных сасудаў (працэс, які называецца ангіягенэзам). Падчас клінічных даследаванняў новых лекавых сродкаў, прызначаных для ўціску ангіягенэзу пухліны, былі атрыманы шматабяцальныя вынікі.

Мяркуецца, што 10–15% ракавых захворванняў па ўсім свеце звязаныя з вірусным і інфекцыямі. Рак печані, які звязваецца з гепатытам, і рак шыйкі маткі, звязаны з вірусн ай інфекцыяй папіломы, — самыя яскравыя прыклады такога меркавання. Выкарыстанне вакцыны супраць гепатыту В скарачае працэнт захворвання ракам печані. Хуткія спецыяльныя дыягнастычныя тэсты на вірус папіломы ўжываюцца дадаткова да традыцыйных мазкоў Папанікалау, дапамагаючы вызначыць, якія жанчыны маюць схільнасць да захворвання ракам шыйкі маткі.

Адно з самых захапляльных адкрыццяў сучаснай біялогіі палягае ў тым, што смерць клеткі шчыльна звязаная з яе ростам і развіццём. Так, напрыклад, нервовыя клеткі арганізм вытварае ў колькасці большай за неабходную, і некаторыя з іх гінуць дзеля ўсталявання належных сувязяў у нервовай сістэме. Клетка ўтрымлівае «праграму самазнішчэння», якая актывізуецца, калі клетцы наносіцца незваротнае пашкоджанне. Ракавыя ж клеткі інакш рэагуюць на сігналы смерці. Некаторыя з генаў, задзейнічаных у праграме самазнішчэння, адносяцца да змененых генаў у ракавых клетках. Цяперашнім часам даследуецца магчымасць распрацоўкі новага падыходу да лекавання ракавых захворванняў праз актывацыю праграмы самазнішчэння ракавых клетак, не закранаючы пры гэтым нармальных клетак.

**© Project Syndicate, студзень 2002**

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Зьядайце па яблыку ў дзень — і ня трэба будзе выклікаць лекара

Адзін з прынцыпаў, на якім заснаваныя метады народнай медыцыны, — гэта водны абмен у клетках цела. Для сваёй жыццядзейнасці бактэрыі забіраюць вільгаць з арганізма. Але пры дастатковай колькасці калію ў кожнай клетцы цела арганізм ужо сам будзе «адымаць» вільгаць, ствараючы неспрыяльныя ўмовы для бактэрый. Такім чынам, у пастаяннай канкурэнцыі паміж бактэрыямі і клеткамі «перамогу» атрымліваюць тыя або іншыя. У гэтым выпадку вельмі дапаможа арганізму ўжыванне калію, які змяшчаецца ў садавіне, ядомым лісці, каранях, мёдзе, яблычным воцаце. Універсальнасць прымянення апошняга заключаецца ў тым, што ён здольны звязваць з каліем такія мінеральныя элементы, як фосфар, хлор, натрый, магній, кальцый, сера, жалеза, фтор, крэмній.

Аб тым, што жывы арганізм мае велізарную патрэбу ў калії і звязаных з ім мінеральных элементах, што ўваходзяць у састаў яблыкаў, сведчыць наступны эксперымент. Бочку з-пад яблычнага воцату старанна вымылі перад новым запаўненнем яе свежым яблычным воцатам. Як толькі змыўную ваду вылілі на пашы, дзе пасвіўся статак малочных бягуль, яны адразу ж, расштурхоўваючы адна адну, стоўпіліся ля лужыны, спрабуючы дацягнуцца да каштоўнай вільгаці. Рагулі не толькі з'елі ўсю траву ў гэтым месцы, але нават глебу пад ёй, якая была насычана вадой з бочкі.

Нездарма народная прымаўка сцвярджае: «Зьядай па яблыку ў дзень — і ня трэба будзе выклікаць лекара». Яе сутнасць у тым, што яблыкі маюць высокія гаючыя ўласцівасці для арганізма чалавека. А яблычны воцат змяшчае ўсе мінеральныя элементы, што ўваходзяць у састаў яблыка. Калі выпіваць шклянку вады з дзвюма чайнымі лыжкамі яблычнага воцату кожны раз перад ядой, то гэта забяспечыць добрае функцыянаванне стрававальнага тракта. І ў канчатковым выніку ўсяго арганізма. А ўсё таму, што аблычны воцат выдатна разбурае бактэрыі ў стрававальным тракце.

*************************************************

# Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў на “Беларускі Дайджэст” у 2004 годзе.

| | |
|---|---|
| Пятро Шыркоўскі (Англія) | $169.oo |
| Пятро Касаты | $100.oo |
| Катарына Вініцкі | $100.oo |
| Люба Кажан | $100.oo |
| Др. Язэп Сажыч | $100.oo |
| Др. Мцьвей Смаршчок | $80.oo |
| Юзэфа Найдзюк | $60.oo |
| Юлія Андрусышын | $50.oo |
| Кастусь Вайцяхоўскі | $50.oo |
| Мікола Касьцюк | $50.oo |
| Мікола Латушкін | $50.oo |
| Анна Мерляк | $50.oo |
| Др. Марыя Дэмковіч | $50.oo |
| Уладзімір Русак | $50.oo |
| Вера і Вітаўт Рамук | $50.oo |
| Аляксандра Воран | $50.oo |
| Ніна Кіт | $40.oo |
| Васіль Чынгарэвіч | $40.oo |
| Леаніля Мароз | $35.oo |
| Пятро Нягода | $35.oo |
| Міхась Калядка | $30.oo |
| Яніна Кахаоўскі | $30.oo |
| Леў Стагановіч | $30.oo |
| Васіль Шчэцька | $30.oo |
| Жанна Малашэвіч | $20.oo |
| Люсі Яломаў | $20.oo |
| Уладзімір Вашчылко | $20.oo |

# Алесь ПАШКЕВІЧ:

"Месцапражыванне беларускай эміграцыі - не Беларусь, але месца душы беларускіх выгнанцаў – Беларусь". Выдавецтва "Беларускі кнігазбор" распачало выданне новай серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны", кнігі якой, паводле канцэпцыі, будуць прысвечаны беларускай эміграцыі.

Заснавальнікам серыі стала Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Нядаўна ў Доме літаратараў адбылася прэзентацыя першай кнігі серыі "Месца выдання - Парыж". Кнігу склалі выбраныя старонкі часопіса "Моладзь", які выдавалі маладыя беларусы ў Парыжы ў 1948-1954 гадах, а таксама лісты, дакументы і ўспаміны аднаго са стваральнікаў "Моладзі" Міхася Навумовіча.

"Гэта было даўно, больш за паўстагоддзя таму назад, а ў маёй памяці астаўся такі моцны сьлед прамінулых падзей, быццам яны адбыліся ўчора", - піша ў прадмове Міхась Навумовіч, які не дачакаў да выхаду кнігі тры тыдні. Менавіта з ўшанавання памяці гэтага ўлюбёнага ў Беларусь чалавека, мастака, скульптара, рэдактара часопіса "Моладзь" і распачалася прэзентацыя кнігі і серыі. І цалкам лагічна быў выказаны складальнікамі клопат пра архівы эмігрантаў пасляваеннай хвалі, дзеці якіх, на жаль, ужо не атаясамліваюць сябе з Беларуссю. А архівы гэтыя - каштоўныя і цікавыя, бо яны адкрываюць невядомую старонку нашай гісторыі - гісторыі беларускай эміграцыі.

У 1948 годзе ў Францыю з'язджаліся расцярушаныя вайной па Еўропе маладыя беларусы. Гэта былі цікавыя асобы - таленавітыя, адукаваныя, інтэлігентныя, яны адчувалі сябе адказнымі за лёс Айчыны, за тое, каб Беларусь, ужо аднойчы заявіўшая пра сабе свету, у хуткім часе стала роўнай сярод еўрапейскіх краін. Ім нялёгка было ў Еўропе, не толькі таму, што прыходзілася штораз даказваць і абараняць сваю нацыянальнасць, але і таму, што вельмі адрозніваліся яны, палкія і шчырыя, ад рацыянальнага і практычнага заходняга свету. Стваральнікі часопіса імкнуліся "падтрымаць, усьведаміць і памагчы духова раскінутай па ўсім сьвеце беларускай моладзі".

Часопіс атрымаўся вельмі змястоўны і цікавы і, нягледзячы на сціплы выгляд і ратататарны друк, ён карыстаўся вялікім поспехам паміж беларусаў розных краін і кантынентаў. Тут друкаваліся тэксты і ноты беларускіх песень, патрыятычныя артыкулы, уся інфармацыя адносна дзейнасці Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі, эканамічнага і духоўнага стану беларускага народа, гістарычныя і мовазнаўчыя нарысы, фельетоны, успаміны, апавяданні аб прыродзе Беларусі. Тут упершыню ўбачылі свет вершы Ларысы Геніюш, Алеся Салаў'я, Уладзіміра Дудзіцкага, Андрэя Зязюлі.

У кнізе "Месца выдання - Парыж" матэрыялы часопіса аб'яднаныя тэматычна, шмат новых і нечаканых фактаў прапаноўваюць яны чытачу сённяшняму, праз 50 з лішкам гадоў.

Днём яднання літаратуры метраполіі і беларускай нацыянальнай дыяспары назваў дзень прэзентацыі кнігі "Месца выдання - Парыж" і серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч. Ён адзначыў, што літаратура беларускай эміграцыі арганічна ўпісваецца ў агульны кантэкст беларускай літаратуры.

"Усе без выключэння мастацкія творы беларускай эміграцыі вучаць любові да нашай Бацькаўшчыны, - гаворыць Пашкевіч. - Тыя, хто пісаў за яе межамі, запаўнялі нішы, якія з-за абставінаў не маглі быць запоўнененыя тут. Паэзія грамадскага гучання, гістарычная, сатырычная проза, мемуарныя запісы - гэта тая дзялянка на ніве беларускай літаратуры, якая не магла быць распрацаваная на Радзіме. Месцапражыванне беларускай эміграцыі - не Беларусь, але месца душы беларускіх выгнанцаў - Беларусь. У гэтым вечнасць іх творчай спадчыны, якую трэба папулярызаваць".

Наступная кніга серыі, якая ўжо амаль гатовая да друку, будзе прысвечана гісторыі прысутнасці беларусаў у Аўстраліі.

~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~
~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~





*Сьв. Памяці*

## Анна Брушкевіч

11-1-1923 — 2-14-2004



пасьля цяжкае хваробы памерла 14 лютага гэтага году ў Чыкага. Нябожчыца Анна была родам з вёскі Сіняўка, што недалёка ад Клецка. Пахавая ў Чыкага, ЗША.

*************************************************************





*Сьв. Памяці*

## Міхась Наўмовіч

1922 — 2004

8-га сакавіка памёр у Францыі Міхась Наўмовіч. Пахаваны ў мястэчку Вілепэн, недалёка Парыжа. Пакойнік быў актыўным дзеячом беларускае дыяспары і адданым беларускім патрыётам. Паходзіў з Наваградчыны

*************************************************************

## *Нам Пішуць...*

БЕЛАРУСКІ ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ У ВІКТОРЫІ

Мэльбурн, Аўстралія

У нядзелю 28 Сакавіка 2004 г. Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі, супольна з парафіяй Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой Сьвятых Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне адзначылі 86-ыя ўгодкі абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Як і ўсе папярэднія гады пасьля малебну ў прыцаркоўнай залі адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне гэтай вялікай падзеі ў нашай гісторыі.

Старшыня БЦКВ сп. Алег Шнэк прывітаў прысутных і запранаваў на гэты раз пачаць сьвяткаваньне з мастацкай часткі. Жаночы хор "Каліна" з падтрымкай усіх прысутных прасьпявалі ўсім знаную песьню "Люблю мой край старонку гэту" і некалькі іншых песень. За тым адбыліся дэклямацыі вершаў да тэмы дня.

Па заканчэньні мастацкай часткі, старшыя ФРБА у А., спадар Аўген Груша прачытаў прысланыя прывітаньні а сп. Янка Барысевіч прачытаў вельмі зьмястоўны даклад на тэму дня, апрацаваны ім самім. За тым сп. Віктар Кавалеўскі — сакратар Беларускага Гістарычнага Згуртаваньня ў Аўстраліі, ён-жа рэдактар аднойленага часопісу "Новае жыцьцё", прывітаў прысутных з гэтай гістарычнай падзеяй.

На заканчэньне ўсе прысутныя ўсталі і прасьпявалі наш Беларускі Нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Па гэтым сп. А. Шнэк падзякаваў усім прысутным за ўдзел і прысутнасьць.

Жыве Беларусь!

Старшыя БЦКВ — Алег Шнэк

*************************************************************

## Чыкага, ЗША

"Мы – з Беларусі!" – так называлася творчая сустрэча, што прайшла напярэдадні Дня Волі 25 сакавіка ў Чыкага. На гэты раз сустрэча была прысвечана творчасці Міхася Клейнера, вядомага ў Чыкага кампазітара, паэта, перакладчыка і спевака. Вытокі і асноўныя матывы ягонай творчасці цалкам звязаныя з Беларуссю – краінай, дзе ён нарадзіўся і вырас, дзе ўпершыню прыйшло да яго паэтычнае і музычнае натхненне. Адкрываючы сустрэчу, Ванкарэм Нікіфаровіч нагадаў пра надыходзячае свята 25 сакавіка і прыгадаў радкі са славутага купалаўскага верша **"Я ад вас далёка":**

Я ад вас далёка,  
бацькаўскія гоні,  
На чужое неба  
ўжо гляджу сягоння…

Прамоўца асабліва падкрэсліў, што з'яўленню такой таленавітай асобы як Міхась Клейнер спрыяла непаўторная духоўна-культурная атмасфера Беларусі, талерантнасць і чалавекалюбства людзей, што жылі на гэтай зямлі, своеасаблівы перагук усяго лепшага, што аздабляла мовы беларускую, ідыш, польскую, рускую.

Падчас канцэрта выконваліся арыгінальныя песні Міхася Клейнера на словы Янкі Купалы, Уладзімера Дубоўкі, Алеся Салаўя, Ізі Харыка (пераклад П.Глебкі), Мойшэ Кульбака і Мотла Каплана (пераклад М.Клейнера), Анатоля Грачанікава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Давіда Сімановіча і іншых. Некалькі песень прагучала на словы самога кампазітара.

Творчая сустрэча "Мы з Беларусі" прайшла ў перапоўненай зале з вялікім поспехам.

*Ванкарэм Нікіфаровіч*

*************************************************************

## З архіва Міколы Латушкіна:



Язэп Варонка і Янка Чарапук-Змагар — із пэрыяду жыцьця ў Чыкага, ЗША ў 1931 годзе.



Язэп Варонка ў ліпені 1931 г. у Чыкага, ЗША.

## Навагрудак рыхтуецца адсвяткаваць юбілей

Сяргей КУЗНЯЦОЎ /Звязда/

12—13 чэрвеня ў Навагрудку будзе адбывацца сьвяткаванне 960-годдзя горада. Паводле слоў загадчыка аддзела культуры Навагрудскага райвыканкама Аляксандра Карачана, у праграме святкавання — выступленне Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Міхаіла Фінберга.

Акрамя таго, запланаваны фальклорнае свята з удзелам лепшых фальклорных калектываў Гродзеншчыны, а таксама дзіцячае музычнае свята. «Мяркуецца таксама адкрыць у музеі Міцкевіча выставу мастака Кастуся Качана, нашага земляка», — сказаў Аляксандр Карачан. У Навагрудку адбудзецца шмат іншых цікавых мерапрыемстваў. Аляксандр Карачан паведаміў таксама, што на сярэдзіну жніўня запланавана правядзенне ў Навагрудку 3-га Міжнароднага фестывалю сярэднявечнай культуры. Пры гэтым большую частку выдаткаў на правядзенне сёлетняга фестывалю, у адрозненне ад папярэдніх, возьме на сабе райвыканкам. Праўда, пакуль у выканкаме не вызначыліся, з якімі беларускімі рыцарскімі клубамі ці аб'яднаннямі будуць супрацоўнічаць пры арганізацыі мерапрыемства. Прычына, паводле слоў загадчыка аддзела культуры, у тым, што зараз паміж самімі клубамі Беларусі склаліся даволі канфліктныя адносіны. «Тым не менш, мы не адмаўляемся ад ідэі правядзення фестывалю», — сказаў Аляксандр Карачан.

*************************************************************

## «Пакуты Хрыстовы»

**Мэл Гібсан, амэрыканская кіназорка №1, уладальнік пяці «Оскараў», бацька сямёх дзяцей, шчыры каталік, зрабіў фільм, які адны называюць «антысэміцкім», другія — «занадта жорсткім» і «натуралістычным», а трэція папросту захапляюцца ўбачаным…**

На здымкі «Пакутаў Хрыстовых» рэжысэр выдаткаваў уласныя 25 млн даляраў. Фільм быў выраблены на заснаванай ім жа студыі «Icon Productions» (ад слова «icon» — «абраз»). Прэм'ера была прымеркаваная да пачатку Вялікага Посту і адбылася 25 лютага ў Папялцовую сераду. Толькі за першы дзень пракату фільм сабраў 20 млн даляраў. «Пакуты» ў ЗША і Канадзе ўжо сабралі каля 300 млн даляраў, пагледзелі іх каля 30 млн чалавек. У Польшчы, як чакаецца, яны зьбяруць да трох мільёнаў гледачоў. Гэта ўдвая меней, чым апошняя вэрсія «Агнём і мячом», але — посьпех шалёны.

Не апошнюю ролю ў прамоцыі адыграла фраза «вось так усё й было», нібыта прамоўленая Папам пасьля прагляду. Яе растыражавалі СМІ, пакуль Ватыкан пасьпеў даць абвяржэньне. Папа не камэнтуе фільмаў, якія глядзіць.

І ўсё ж прыватную аўдыенцыю выканаўцу ролі Хрыста Ян Павал II даў, а Прэфэкт Кангрэгацыі ў справах духавенства кардынал Ояс параіў кожнаму каталіцкаму сьвятару паглядзець фільм Гібсана.

Стужка паказвае апошнія 12 гадзінаў зямнога жыцьця Ісуса. Дванаццаць гадзінаў ад Гефсіманіі да Кальварыі. Хрыста сыграў амэрыканец Джым Кевізэл, якому на момант пачатку здымкаў якраз споўнілася 33 гады. Румына-вугорская габрэйка Мая Моргенштэрн стварае амаль іканапісны эвангельскі вобраз Маці Божай. Марыя Магдалена — франка-італьянская сэкс-дыва Моніка Бэлючы. Апостал Ян — баўгарын Хрыста Жыўкаў. Шатана-спакушальніка сыграла дачка Адрыяна Чэлентана Разалінда. Цікава раскрыты вобраз Юды: ягонае безабароннасьць перад малымі дзецьмі пасьля здрады, чарвівы труп вярблюда, вяроўка, сук…

*************************************************************

…Прэзыдэнт Пуцін адкрыта прапануе нашай краіне ўвайсьці ў склад Расеі. У самой Беларусі мясцовыя калябаранты вядуць шалёную русыфікацыю, зачыняюць беларускія школы, выцясьняюць або ўжо выцеснілі беларускую мову зь сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў, зь дзяржаўных органаў кіраваньня, друку, радыё і тэлебачаньня. Праваслаўныя папы, кіраваныя з Масквы, не пускаюць беларускую мову ў цэрквы, а многія, калі ня большасьць, ксяндзоў вядуць службу папольску, прычым і тыя і тыя ўбіваюць у галаву, што праваслаўны чалавек – гэта рускі"…

"Нацыяналізм – гэта Боская любоў да ўсяго свайго: мовы, культуры, зямлі, на якой жывеш, людзей на гэтай зямлі. Гэта павага да сваёй нацыянальнасьці, да сябе і да людзей іншых нацыянальнасьцяў. Шкада, што ў Беларусі няма нацыяналізму. Беларускі нацыяналізм нікому не пагражае, яго баяцца толькі расейскія акупанты-шавіністы і іх памагатыя калябаранты"…

*****************************